Яўген ХВАЛЕЙ

# ПАЦУКІ, або Таямнічы дзённік



Яўген ХВАЛЕЙ

# ПАЦУКІ, або Таямнічы дзённік

**Аповесць**



**Мінск**
**«Юнацтва»**
**1991**

ББК 84 Бел 7
Х 30

*Для старэйшага школьнага ўзросту*

Мастак Ю. Э. КАЛЯДЭНКА

Рэдактар выдавецтва У. А. МАРУК

Автор повести обратил внимание на то, что в последние годы в наших школах участились негативные явления. Они выходят за рамки единичных случаев. Сюжет повести необычен: в школе, где учатся девятиклассницы Таня Космылева и Вероника Рогозина, произошел несчастный случай... Постепенно заостряя сюжет, автор затрагивает многие проблемы современной школы.

Х $\frac{4803120201-075}{М 307(03)-91}$ 57—91

ISBN 5-7880-0581-7

## З подступам да сённяшняй рэчаіснасці

Гэтай аповесцю зацікавяцца бацькі і дзеці, настаўнікі і вучні — прадстаўнікі розных пакаленняў. Уласна ім і прысвечаны твор, і кожны чытач — сталы, малады — зможа зірнуць на жыццё, на сваё месца ў ім, на хвалюючыя праблемы рэчаіснасці праз прызму сённяшняй школы і ўсяго таго, што вакол яе.

З'явы, пра якія піша аўтар, былі і ёсць у нашым жыцці. Пра некаторыя з іх гаварылася, пра іншае, так званае негатыўнае, замоўчвалася. Маўляў, яго, негатыўнага, не павінна быць у нашым грамадстве. А калі так, то яго і няма...

Яўген Хвалей, да яго гонару, даволі пранікнёна і сур'ёзна даследаваў існасць, дзейнасць сённяшняй школы, жыццё і працу настаўнікаў, навучальны і выхаваўчы працэс, духоўны свет вучняў, бацькоў, адлюстраваў рэчаіснасць, на жаль, горкую і трывожную, такую, якая ёсць яна на самай справе. Адпаведна, ён напісаў не зусім традыцыйны твор. Не, у ім ёсць «правільныя» — гэта значыць, станоўчыя вобразы педагогаў лабановічаўскага характару, вобразы «добрых» і «дрэнных» вучняў, складаныя ўзаемаадносіны паміж настаўнікамі і вучнямі, але разам з тым ёсць і іншы, малавядомы ранейшай літаратуры фон, звязаны з паніжэннем пэўных духоўных пачаткаў у моладзі. Сапраўды, дасюль мы амаль не чыталі пра гэтыя вучнёўскія «рок-гурты», «тусоўкі», пра раннюю разбэшчанасць, злачынствы юнакоў і дзяўчат — адным словам, пра тое, што ёсць у нашым не зусім здаровым грамадстве, пра што нельга далей замоўчваць, а неабходна тэрмінова, як кажуць, лячыць, клапоцячыся пра духоўнае

здароўе маладога пакалення. Прыкладаць намаганні ў гэтым накірунку, безумоўна, нялёгка, дабівацца зрухаў — яшчэ цяжэй. Патрэбны не толькі большая ўвага да школы, да яе праблем, да лёсу нашай моладзі, але і новыя падыходы ў гэтай досыць тонкай і далікатнай справе.

Трэба сказаць, што Яўген Хвалей дасюль пісаў вершы, гэтая аповесць — ягоны першы твор у жанры прозы. Пераход да іншых сродкаў асэнсавання жыцця і яго адлюстравання амаль заўсёды суправаджаецца пэўнымі выдаткамі. Але спрактыкаваны чытач зразумее пісьменніцкія цяжкасці, не зможа не ўбачыць, што аўтар ішоў па цаліку, пракладваў сваю сцежку, засведчыў тое, што раней ці пакідалі без увагі, ці пра што гаварылі не зусім поўна, рашуча. Урэшце, заці каўлены чытач па-належнаму ацэніць спробу аўтара заклікаць грамадства да большай адказнасці за лёс нашых дзяцей, якім наканавана не толькі прадоўжыць тое добрае, што стварылі старэйшыя пакаленні, але і сваімі рукамі будаваць новае, гуманнае.

*Генрых ДАЛІДОВІЧ,*
лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа



*Няшчасце — вялікі на-
стаўнік кожнага...*
*К. Біні*

У дзявятым класе школы №... адбылося надзвычайнае здарэнне, якое ўскалыхнула ледзь не ўвесь горад: Вераніка Рагозіна, выдатніца, была знойдзена мёртвая, звязаная, з кляпам у роце...

* * *

## З ДОПЫТУ Ў СЛЕДЧАГА

— Таня, ты згодна, што гэта твой сшытак?
— Вось гэты?
— Так, вось гэты тоўсты агульны сшытак у чорнай вокладцы. Твой дзённік, які ты вяла з чацвёртага па дзевяты клас...
— Я вяла?
— Так, ты...
— Магчыма...
— Чаму «магчыма»? Можа, пагартаем яго, зверым почырк? У мяне ёсць твае сшыткі па матэматыцы, мове...

— Не трэба...

— Значыць, ты хочаш сказаць, што твой сшытак?

— Мой!.. Мой!..

— Тады яшчэ адно... пытанне. Растлумач, чаму краі сшытка аб'едзены мышамі ці пацукамі?

— А што, гэта відаць? І так важна?

— Так, відаць, як бачыш, простаму воку. А калі б гэта не было важным, я не пытаў бы. Дык як?

— Ну, прыставалы, ну, прыліпалы...

— Таня, не забывайся, што ты — пад следствам...

— Ладна, скажу. Вы ўсё роўна не адчэпіцеся. Там, дзе захоўваўся ў апошні час гэты сшытак, мышы не жылі. Там жылі... пацукі...

## 1

Антаніна Фёдараўна ішла пеша, як хадзіла яна заўсёды ў школу. Ад праспекта, дзе стаяў шырокі, як расцягнуты гармонік, дом на пятнаццаць пад'ездаў, у якім была яе кватэра, да школы хады хвілін дваццаць. Ісці трэба было праз двары, паўз дзіцячы садок, гандлёвы цэнтр, спартыўную пляцоўку, за якой — трохпавярховы будынак школы з шэрых панеляў. Яго пабудавалі больш як дваццаць гадоў таму па тыпавому праекту літарай «П». Чаму менавіта літарай «П»? Можа, у гэтым ёсць і заслуга магічнай літары, з якой пачыналіся словы «панель», «праект»... Надта ж любілі гэтыя панелі (амаль усе жылыя шматпавярховыя дамы будаваліся з іх) і проста не маглі жыць без праектаў-пражэктаў.

Быў пачатак лістапада. Апошні месяц восені. Але зямля паспела ўжо выбеліцца снегам. Ён выпадаў, некалькі дзён чараваў вока і гэтак жа, нібы чараўнік, знікаў. Зямля зноў чарнела, мокра было на асфальце, збоку ад пешаходных дарожак вада была перамешана

з гразёю. І ўсе, хто крочыў насустрач адзін аднаму па дарожцы, стараліся размінуцца так, каб не збочыць, не забрудзіць туфлі, чаравікі. Праўда, не ўсім гэта ўдавалася...

Дрэвы аголеныя, без ніводнага лісціка, страшылі, наганялі трывогу, асабліва ў прыцемкі. Як цяпер. Яны здаваліся загадкавымі зданямі, нібы не ты на іх ішоў, а яны на цябе насоўваліся. І толькі белыя камяніцы высокіх жылых дамоў, якія імкнулася ахутаць восеньская шэрань, заспакойвалі. Але сёння і яны не маглі — ды і ніхто, мабыць, на свеце не змог бы — змяніць гнятліва-трывожны настрой Антаніны Фёдараўны...

«Як жа гэта здарылася? Як магло здарыцца?! Не верыцца! Не хочацца верыць!..» — свідравала мозг адна думка. Усю цалюткую ноч яна не давала заснуць, мучыла яе, настаўніцу, класнага кіраўніка. Яшчэ не паспелі забыць пра здарэнне з Вадзімам Цэхановічам, і на табе — новае... Пра трагедыю, якая здарылася з Веранікай Рагозінай, ёй паведаміла вечарам па тэлефоне намеснік дырэктара Лілія Міхайлаўна Сянчук.

Пад раніцу, калі ўсё-ткі яе змарыла, сніўся страшны сон: на грудзі ёй скочыў вялізны, слізкі пацук — такога яна ніколі не бачыла. Ён, мабыць, меціў сцяць яе за горла, але яна імгненна перахапіла яго, з нейкай неверагоднай сілай сціснула ў руцэ і трымала гэтую шэрую з доўгім хвастом пачвару, пакуль не прачнулася. Агідна і непамысна было на душы ў першыя хвіліны. Не магла зразумець: сон гэта ці ява?

Цяпер ішла ў школу, і гэты сон не адступаў ад яе, нібы суправаджаў той вялізны пацук. Яна нават не імкнулася разгадаць сон. Усё і так было ясна: што за істота пацук — усе ведаюць. Успомнілася, як яна недзе вычытала...

Колькі жыве чалавецтва, а да пацука, гэтага мярзотнага грызуна, ніяк не можа прывыкнуць. Ён выклікае ў чалавека такія страх і агіду, як, можа, ніводная

істота на свеце. Пацук вельмі скрытны і хітры, нападае на сваю ахвяру ў выключных выпадках, спатайка, пераважна ў цемры, сам баючыся. Але калі іх многа — яны нахабныя і бязлітасныя.

Які б ні быў страшны сон, але гэта толькі сон. Здарэнне з Веранікай Рагозінай страшнейшае... Антаніна Фёдараўна ўявіла на хвілю: вось яна адчыніць дзверы свайго дзевятага «С», у якім да таго ж сёння першы ўрок быў яе — урок матэматыкі,— і на класную сумна, запытальна глянуць трыццаць пяць пар вачэй... «Як будзем жыць далей? Што рабіць?» А можа, і не так сустрэнуць яе вучні, амаль дарослыя. Што-што, а дарослымі яны сябе адчуюць, павінны адчуць. Хоць і дасюль у «С» класе былі сур'ёзныя, адказныя за свае ўчынкі вучні.

Самае невыноснае — убачыць пустое месца, дзе сядзела Вераніка.

Стол Веранікі — у першым радзе, трэці па ліку. Яна сядзела ля акна. Там заўсёды было сонечна. Нават тады, калі сонца не свяціла, усё роўна на месцы, дзе сядзела Вераніка, здавалася, было светла. Быццам дзяўчына выпраменьвала святло сваімі вялікімі блакітнымі вачыма, бела-ружовымі шчокамі, як у маі яблыневы цвет, душой, танчэйшай за павуцінку «бабінага лета». Ці не таму Вераніка была такая ранімая, чулая і справядлівая. Ва ўсіх адносінах — сумленная.

За тым жа сталом, за якім сядзела Вераніка,— Ірына Лысёнак, шчабятуха, класная весялуха. Яна падсела да Веранікі — а правільней, яе папрасіла сесці Антаніна Фёдараўна — пасля таго, як забралі Вадзіма Цэхановіча, дакладней, з новага навучальнага года, у дзевятым. Вадзім быў суседам Веранікі з чацвёртага класа. З таго часу, як пасадзіла разам іх Антаніна Фёдараўна, так і сядзелі яны. Праўда, на ўроках у розных кабінетах, вучні мяняліся месцамі, падсядалі і да Веранікі хлапчукі, дзяўчынкі. Але на ўроку матэматы-

кі, у сваім «базавым» кабінеце, Вераніка і Вадзім заўсёды сядзелі разам. І гэта радавала Антаніну Фёдараўну. Два моцныя «матэматыкі», яны і знешне былі вельмі падобныя: абое сярэдняга росту, ладна складзеныя, з попельна-русявымі валасамі, з тонкімі рысамі твару. Хіба толькі тэмпераментамі розніліся: Вераніка была па характару больш стрыманая, Вадзім, як у народзе кажуць, не меў цара ў галаве. Можа, гэтым ён і падабаўся дзяўчынкам — «не зануда», «не сухар у берэце»...

Што можна сказаць сёння пра Вадзіма і Вераніку? Столькі гадоў сядзелі побач і столькі гадоў былі загадкай? Так, цяпер можна сказаць пэўна — загадкай... Ці было ў іх каханне? Што Вераніка не магла жыць без Вадзіма,— гэта бясспрэчна. Антаніна Фёдараўна бачыла, адчувала жаночым сэрцам: Вадзім падабаецца Вераніцы. Яна гатова была на ўсё дзеля яго... А Вадзім? Ці мог ён жыць без Веранікі? Эх, Вадзім, Вадзім! Ці зразумееў ты хоць што там, у папраўча-працоўнай калоніі? Шалапут, якому давалася лёгка ўсё: ад матэматыкі да... гітары, магнітафона, моднага адзення... Ці не таму былі і легкаважкія думкі і пачуцці, якія мог мяняць, як тыя джынсы ці штруксы, калі гэта было зручна...

Наперадзе, перад сталом Веранікі,— Андрэй Бабок і Каця Скакун. Антаніна Фёдараўна ведала: Андрэй, самы меншы ў класе, будзе сядзець сам не свой, панурыўшы галаву, абхапіўшы яе рукамі. Ен амаль заўсёды так рабіў, калі здаралася ў класе нейкая непрыемнасць. Хлопец ціхмяны, ён на ўроках і перапынках трымаўся як бы наводшыбе. Заўсёды нешта думаў, не расслабляўся, здавалася, ні на хвіліну. Для аднакласнікаў Андрэй быў вучнем, які не разгінаў спіны, за што яны яго празвалі Спінозам (чулі, быў такі філосаф). Калі Пеця Карпук ці Сяргей Гарноська, «камчаткаўцы», як называлі іх у класе, маглі з апошняга стала —

настаўніца, адвярнуўшыся, пісала на дошцы — падысці і даць пстрычку Антону Тарасевічу, які сядзеў за першым сталом, то Андрэй рэдка калі нават аглядаўся назад, да Веранікі. Ці рабіў гэта ў тым выпадку, калі не паспяваў нешта запісаць, бо да сваёй суседкі Каці Скакун, якая заўсёды «базарыла» з Тамарай Гога, што сядзела побач на паралельным радзе, звяртацца было дарэмна. Каця амаль ніколі не запісвала на ўроках хатнія заданні, заўсёды пасля перапытвала ў сяброўак у класе, а часцей па тэлефоне званіла каму-небудзь дамоў і даведвалася. Сяброўкі празвалі яе Кацькай-Званілай. Аж смешна стала Антаніне Фёдараўне, калі пачула аднойчы гэтую мянушку. Яе можна было смела даваць амаль кожнай дзяўчынцы. Усе яны, у каго дома ёсць тэлефон, любяць пагаманіць з сяброўкамі.

Ззаду, за сталом Веранікі,— стол Аляксея Булата і Насці Якімовіч. Аляксей, які меў кілаграмаў пад дзевяноста і рост метр восемдзесят пяць,— сучасны акселерат — мажны́, ■ чырвонымі, нібы пасля маладога марозу, шчокамі, за што аднакласнікі клікалі яго «Піражком», мог не толькі на перапынку, але і сярод урока схадзіць у гастраном, зманіўшы настаўніку, часцей за ўсё маладому, купіць батон, кулёк цукерак. Потым на наступным уроку жаваў іх, дастаючы паціху з-пад стала. Здаралася, Насця, дзяўчына з тонкім пісклявым галаском, ускоквала з-за стала з батонам у руцэ, які яна выхоплівала ў Аляксея, піхала наперад Вераніцы Рагозінай ці Ірыне Лысёнак. Клас покатам клаўся ад рогату, і, лічы, урок быў сарваны. Доўга вучняў не ўдавалася ўтаймаваць. Праўда, пасля амаль усе прасілі ў настаўніка прабачэння, умольвалі не караць зачыншчыкаў беспарадку. Але кожны выкладчык рабіў пасвойму. Адзін дакладваў завучу ці дырэктару, іншы проста выганяў вінаватых з класа...

Чатыры рады сталоў — і за кожным амаль дарослы чалавек, часам са сваім дзівацтвам. Многае можна зра-

зумець, але ў тое, што адбылося за апошні год у «С» класе, цяжка паверыць... Драма з Вадзімам Цэхановічам, і вось — трагедыя з Веранікай Рагозінай... Яна выспявала, нібы навальніца над борам. А можа, і не так? Навальніцы таксама бываюць розныя: іншая налявіць знячэўку, нібы каршун, захопіць сваім крылом, што не паспееш і схавацца ад абложнай залевы. Магчыма, аднакласнікі не ведалі пра трохкутнік: Вераніка — Вадзім — Таня. І ўсё ж у двух паралельных класах, «С», дзе вучыліся Вадзім і Вераніка, і «Е», у якім займалася Таня Касмылёва, не маглі не заўважаць, як складваліся адносіны паміж імі.

У Веранікі Рагозінай аўтарытэт быў непахісны. Усе ведалі Вераніку як сур'ёзную вучаніцу і выдатнага арганізатара. Можа, таму не звярталі асаблівай увагі на яе каханне да Вадзіма. Такіх закаханых набярэцца ■ тузін амаль у кожным сярэднім і старэйшым класах. Гэтая далікатная тэма амаль не закранала класныя сходы. Не прынята было гаварыць пра каханне ў школе. Хоць яна, Антаніна Фёдараўна, колькі разоў спрабавала, нават з далёкімі захадамі,— хацела запрасіць псіхолага, сексолага, але дырэкцыя не дазволіла,— пагутарыць пра інтымныя адносіны ў класе. Калі заходзіла гаворка пра каханне, то часцей за ўсё можна было пачуць выбух смеху, жарты. Узнімаліся шум, гамана... «Час Рамэо і Джульеты даўно кануў у Лету...» — «Дзяўчынкі — не Асоль, хлапчукі — не Грэй...» Вось і ўсё. Вось і пагутары. А гутарыць трэба было...

Таня... Таня Касмылёва... Гэта на яе зрабіла намёк намеснік дырэктара, калі званіла ўчора. Выпадкам натрапілі на дзённік, які яна вяла. Ён шмат што раскрывае ў гісторыі з Рагозінай...

Касмылёва з чацвёртага класа ўсім далася ў знакі. Вельмі скрытная па характару, яна магла пяць разоў на дзень мяняць свае паводзіны. Цяжка было адгадаць, што яна можа зрабіць у наступную хвіліну. У пятым

класе пачала фарбаваць хной валасы, якія, дарэчы, мелі свой прыгожы, натуральны чорны колер, насіць прычоску пад «металістаў», спрабавала накладваць цені вакол вачэй.

Таня была сярод тых, хто ледзь выцягваў на тройку, але, здаралася, магла адхапіць пяцёрку па кантрольнай рабоце. Як? Спісвала ў свайго суседа Артура Пучкова, суседак. Хітравала, як магла... На што змагліся рэагаваць некаторыя настаўнікі, змірыліся і ставілі гэтую пяцёрку ў журнал, нібы двойку, з неахвотай, абыякава, ведаючы, што вусна каля дошкі Таня больш тройкі не атрымае.

Пра Таніны паводзіны ведалі многія ў школе, але не ўсё, як патрэбна было. Таму далей ушчування не даходзіла. А што можна яшчэ ў школе? Праўда, праводзілі класныя сходы, выклікалі бацькоў, тыя абяцалі, што дачка выправіцца, зробяць усё, каб падобнае не паўтарылася. Але мінаў час, і Таня зноў рабіла сваё, паводзіла сябе, як і раней, жыла сваім патаемным, толькі ёй вядомым жыццём...

А што класныя кіраўнікі? Ах, гэтыя класныя кіраўнікі, якія цягнуць свой цяжкі крыж! Канешне ж, на іх будзе ўскладзена галоўная віна: не дапрацавалі, не дагледзелі, не выявілі своечасова хваробу ў класе...

Пустата... Пустата, там, дзе сядзела Вераніка... Ці адчуюць вучні яе смяротны халадок, дыханне, якое ледзяніць душу?

Як будзе нячутна крычаць гэтая пустата ў сэрцы Антаніны Фёдараўны! Вераніка Рагозіна — адна з яе любімых вучаніц за ўсе гады працы. Хоць, як кажуць, усе вучні роўныя. І ўсё ж, усё ж... Такія, як Вераніка, не часта трапляюцца ў школе. Круглая выдатніца на працягу ўсіх школьных гадоў, нязменны старшыня Савета піянерскага атрада. Іх сяброўства пачалося з таго часу, калі Антаніна Фёдараўна прыняла чацвёрты «Е»...

Клас ёй дастаўся ці не самы распушчаны. Настаўніца пачатковых класаў Ірына Сцяпанаўна Буй здала ёй трэці «Е», з палёгкай уздыхнуўшы. «Такіх дзяцей у мяне яшчэ не было...» — шчыра прызналася яна Антаніне Фёдараўне, нібы запалохваючы. Маўляў, глядзі, каго прымаеш. Адначасова прызналася і ў сваёй бездапаможнасці. Бо і на ёй ляжала віна, што не змагла справіцца са сваімі выхаванцамі.

«Прыгоды» пачаліся адразу ж, у першай чвэрці. Праўда, у верасні яшчэ можна было мірыцца: знаёмства з новымі настаўнікамі, новымі прадметамі дысцыплінавала клас. Але хутка, асвойтаўшыся, самыя шустрыя, як Таня Касмылёва і Максім Лобан, заводзілі клас, і тады вучні ўсчынялі такі вэрхал, пасля чаго і на ўроку не кожны настаўнік мог утаймаваць. Пасыпаліся скаргі «прадметнікаў» на чарговыя выбрыкі чацвёртага «Е»...

Эпагеем усіх гэтых «прыгод» стала заява выкладчыцы прыродазнаўства Марыі Андрэеўны Старасельцавай, пажылой настаўніцы, якой заставалася некалькі месяцаў да пенсіі.

У канцы першай чвэрці, перад асеннімі канікуламі, Марыя Андрэеўна прыйшла да дырэктара Ангеліны Мікалаеўны Богут і ледзь не праз слёзы пачала прасіць:

— Ангеліна Мікалаеўна, дайце дацягнуць да пенсіі. Вызваліце мяне ад выкладання прыродазнаўства ў чацвёртым «Е». Гэта ж вар'яты, а не дзеці. І сярод іх асабліва адна: Касмылёва Таня. Макака, сапраўдная макака... Бегае з парты на парту, цягае хлопчыкаў за валасы, перадражнівае мяне, абзывае «старым сялом». На ўроку не слухае, што я тлумачу. Круціцца па баках. Вучыцца дрэнна...

— Разумею вас, Марыя Андрэеўна...— старалася заспакоіць настаўніцу Ангеліна Мікалаеўна.— Але што мне рабіць? Чацвёртых класаў у школе сёлета ажно

сем. Некаму ж трэба выкладаць у іх прыродазнаўства. Але падумаем...— закончыла дырэктар.

...Антаніна Фёдараўна крочыла паўз дзіцячы садок. Хоць думкі былі трывожныя, працавалі ў адным кірунку, а душа была неспакойная, усё ж звярнула ўвагу, як маладыя мамы і таты асцярожна вялі за ручкі сваіх маленькіх дачушак і сынкоў. Некаторыя бацькі далей веснічак садка не ішлі. Дзеці беглі далей самі, паварочваліся на хаду, махалі ручкамі, а ў адказ ім праз агароджу гэтак жа махалі рукой тата ці мама. Збоку, калі паглядзець,— замілаванасць, ідылія. А якой гэтая «ідылія» будзе ў будучым, праз гадоў дзесяць — дванаццаць? Пэўна, ёй яшчэ давядзецца вучыць іх, гэтых пакуль бяскрыўдных, наіўных птушанят...

Не, і садок, была ўпэўнена, павінен рыхтаваць будучых грамадзян. Чалавек пачынаецца менавіта з гэтага садковага ўзросту. Не паспееў, пасля не нагоніш. І часта школа бывае бяссільнай. Як ні б'ецца настаўнік, як ні стараецца, а час ужо страчаны.

Гледзячы на гэтую садковую «ідылію», Антаніна Фёдараўна падумала і пра свайго Алега. Яго яна таксама вось так вадзіла ў садок, кожную раніцу. Спачатку заходзіла ў садок, пакідала Алега, а потым ішла ў школу. І так кожны дзень, пакуль Алег не пайшоў у першы клас. І ў садку, і ў школе, здаецца, на Алега нараканняў не было. Як магла, выхоўвала яго, каб стаў чалавекам. Хоць ох як нялёгка сёння ў горадзе выхоўваць дзяцей! Часцей за ўсё — і на гэта шмат прычын — дзеці самі сабе, бацькі самі сабе. Так і жывуць...

Зараз яе Алег — студэнт юрфака. Як бягуць гады! Страшна падумаць: ёй ужо сорак два...

А здаецца, зусім нядаўна яна прыехала паступаць у педінстытут з простай вілейскай вёскі Цынцэвічы. На матфак паступіла з першага разу — школу яна скончыла з залатым медалём: здала адзін экзамен, тую ж матэматыку, «на выдатна» і была вызвалена ад далей-

шых іспытаў. Чаму выбрала матэматыку? А вельмі проста: тады, у шасцідзесятых, былі вельмі модныя дакладныя навукі. Аднакласнікі проста трызнілі аўта-электра-радыёфакультэтамі, адпаведнымі інстытутамі, тэхнікумамі. І проста смеху былі вартыя тыя, хто збіраўся звязаць свой лёс з гуманітарнымі навукамі, напрыклад, філалогіяй. Хлопцы наогул не ішлі на гуманітарныя факультэты. Расказвалі, адна выпускніца іх школы паступіла на філфак педінстытута, дык толькі адзін бедны хлапчына — здаецца, з Палесся — быў у яе групе. А на ўсім курсе — сем-восем хлопцаў, астатнія — дзяўчаты. Дзіва! Можна было ўявіць тагачасныя школы, у якія, кажучы мовай іхтыёлагаў, плылі касякамі выкладчыкі жаночага полу. Школа фемінізавалася — і гэта, як пазней выявілася, стала яе бядой...

Не, яна не баялася паступаць на гуманітарны факультэт. Любіла ўсё жыццё мову, літаратуру, гісторыю. Добра малявала, нават пісала вершы. Але ўжо тады пачала задумвацца: а ці не прыбудзе на яшчэ адну ахвяру часу, ці не стане ў школе больш на яшчэ адну настаўніцу мовы і літаратуры, прафесію якой амаль усе лічылі непрэстыжнай? Ах, парадоксы часу! Ісціна: час нараджае нас і час выбірае нас...

Стаць педагогам яна цвёрда вырашыла ў дзесятым класе. Ей падабалася гэтая высакародная прафесія — сеяць разумнае, добрае, вечнае. Ніколі не забудзе яна фільм «Настаўніца», які паглядзела, калі вучылася ці то ў дзявятым, ці то ў дзесятым класе. Варвара Сямёнаўна, якую выдатна сыграла вялікая актрыса Вера Марэцкая, запалоньвала, прыцягвала з такой сілай, з-пад улады якой цяжка было выйсці. Гэта была жанчына вялікай душы. Хацелася быць падобнай на Варвару Сямёнаўну. І ў душы яшчэ юнай Тоні выспела канчатковае рашэнне: будзе толькі настаўніцай.

Так яна стала студэнткай. Бацька і маці — радавыя калгаснікі, якія атрымлівалі за сваю працу капейкі.

А дома, з бацькамі,— трое вучняў. Два браты і сястра. Бацькі біліся як рыба аб лёд. Стараліся дапамагчы ёй апошняй капейкай. Павышаная стыпендыя, якую яна атрымлівала, была пяцьдзесят рублёў. А хацелася ж не толькі паесці, але і апрануцца, схадзіць у тэатр і кіно. Так прабеглі чатыры студэнцкія гады, якія, здавалася, ніколі не скончацца... На размеркаванні яна ішла як выдатніца вучобы, з чырвоным дыпломам, адна з першых. Выбрала вось гэтую самую школу вялікага горада. Выпускнікоў, амаль усіх, накіроўвалі ў вясковыя школы, а яна засталася ў гарадской.

Тады крыху страшыла: гарадскіх дзяцей яна амаль не ведала. Што тыя некалькі месяцаў педагагічнай практыкі на пятым курсе! Хадзілі, адбывалі дні... Бо нешта ўнесці адметнае, сваё — і гаворкі не было. Ты быў пад непасрэдным наглядам кіраўніка, выкладчыка матэматыкі, які ні на крок не адступаў ад зададзенай схемы, праграмы. Ну і адпаведнае было рэагаванне вучняў на практыканта. Ты быў для іх ледзь не роўня. І нічога не складала для якога-небудзь закаранелага троечніка-васьмікласніка ўстаць на ўроку і задаць табе пытанне: «Скажыце, а вы замужам?»

Студэнткай яна не паспела, як тады казалі, выскачыць замуж. Дзяўчаты-аднакурсніцы выскоквалі адна за адной. А яна не спяшалася. Хоць хлопцы і былі. Сама, можна сказаць, прыгажуня была: чорныя бліскучыя валасы, якія насіла, дый цяпер любіць насіць, акуратна расчасаўшы, ажно па плечы. Ззаду, калі паглядзець,— ручай пераліваецца пад промнямі сонца. На авальным твары таксама, здаецца, усё прывабнае: бела-ружовыя шчокі з ямачкай на левай шчацэ, вочы — карыя, адкрытыя, жывыя, заўсёды з таямнічай іскрынкай. Сярэдняга росту, з прывабнай таліяй. І вядома ж, выйсці замуж яна магла б і тады, студэнткай. Але не раз успамінала словы мамы, вясковай працаўніцы: «Дачушка, не спяшайся сябе аблытаць, яшчэ нажывеш-

ся і замужам, як і я. І дзетак дачакаешся... Перш-наперш скончы інстытут, а потым ужо і замуж можна. Не хвалюйся, не перажывай: твой хлопец цябе будзе чакаць...»

І сапраўды, будучы муж яе нібы чакаў. З Анатолем яна пазнаёмілася на дні нараджэння выкладчыцы біялогіі Наталлі Пятроўны Заяц у першы год сваёй працы ў школе. Анатоль Міранові́ч, дваццацішасцігадовы халасцяк, сябар дзяцінства Наталлі Пятроўны, працаваў інжынерам на радыёзаводзе. Вось так сустрэліся ў сяброўкі па працы — і нібы маланкай працяла абоіх. Дваццаць адзін год цесным вузлом звязвае іх жыццё. І ўсе гэтыя гады яна, Антаніна Фёдараўна, працуе ў адной школе. Чаго толькі не пабачыла, з чым толькі не сутыкнулася яна за гэты час! Бывае, закрые на хвілінку вочы — і прабягаюць, нібы кінакадры, першы, другі... дзесяты... дваццаты гады працы ў школе: усплываюць твары таленавітых калег-настаўнікаў, якія звольніліся, вучняў, якія пакінулі след у яе жыцці, наогул, нейкія запамінальныя эпізоды са школьнай практыкі. Тады рабілася горача ў грудзях, на душы станавілася прыемна, быццам акунуўся ў нешта святое. І наадварот: кошкі скрэблі на сэрцы, калі прыходзілі на памяць нялёгкія дні жыцця, недарэчныя, нават агідныя часіны. І невядома, чаго было больш...

## 2

У школе пачалі адкрывацца спецыялізаваныя класы, або класы з паглыбленым вывучэннем пэўнага прадмета. Пачыналася ўсё гэта звычайна з сёмага класа. З некалькіх паралельных ствараўся адзін. Па сваёй ахвоце вучні, якія праявілі схільнасці да той ці іншай навукі, запісваліся ў спецыялізаваны клас. Гэта была няпростая працэдура, як і кожная, што нясе нейкія змены ў прывычнае жыццё. Па сутнасці, з сёмага кла-

са вырашаўся далейшы лёс вучня. Таму і вучні, і бацькі, і настаўнікі ставіліся вельмі асцярожна да выбару, узважвалі, думалі. Пераход вучняў са звычайных у спецыялізаваны клас ламаў устаялую структуру класаў: ішлі лепшыя, заставаліся горшыя. Асабліва былі занепакоены класныя кіраўнікі. Хто з іх хоча развітвацца з лепшымі вучнямі?

Калі Антаніна Фёдараўна даведалася, што пераходзіць у спецыялізаваны матэматычны клас — так і назвалі яго сёмы «С», па першай літары слова «спецыялізаваны» — Вераніка Рагозіна, то не на жарт захвалявалася. Разам з ёю пакідалі сёмы «Е» яшчэ восем вучняў, у тым ліку і Вадзім Цэхановіч. Клас губляў ці не самых лепшых вучняў. Гэтая «дзевятка» вучылася амаль без троек. А Вераніка — круглая выдатніца.

На перапынку Антаніна Фёдараўна вырашыла пагутарыць з Рагозінай. Зайшлі ў піянерскі пакой, зачыніліся. Селі па абодва бакі стала.

— Скажы, калі ласка, Вераніка, ты ўсё абдумала, узважыла? Пераходзіш у сёмы «С»?

— Так, Антаніна Фёдараўна...

— І мама падтрымала?

— Мама, канешне, не хацела, каб я развіталася са сваёй марай... Вы ж ведаеце, я з першага класа займалася ў дзіцячай драмстудыі на тэлебачанні.

— Мала сказаць, ведаю... Я сачыла за табой, за кожным тваім крокам. І знаю маміну думку пра тваё захапленне. Яна верыла, што з цябе можа атрымацца актрыса... Таму і спытала пра маму...

— Я марыла паступіць у тэатральны інстытут, дый цяпер не пакідаю пра гэта думаць, але...

— Чаму ты так раптоўна вырашыла ісці ў «матэматыкі»? Што за прычына? Мне, як матэматыку, вядома, прыемна тваё рашэнне...— Антаніна Фёдараўна памаўчала. Потым дадала: — Ты сказала «але»... Што хава-

ецца за ім? Прызнайся? Магчыма, ад гэтага «але» залежыць твой далейшы лёс?

Класная і вучаніца глядзелі адна адной у вочы. І Вераніка не вытрымала:

— Ёсць у мяне, Антаніна Фёдараўна, тайна. Нікому яе не адкрыла б — я нават маме яе не паведала, хоць яна, відаць, і здагадваецца,— а вам прызнаюся: прычына — Вадзім. Я баюся яго страціць, баюся адысці ад яго на крок...

...Вадзім Цэхановіч, вясёлы, дасціпны на слова, і на ўроках, і на перапынках быў у цэнтры ўвагі. На ўроках ён мог спакойна ўстаць і заявіць настаўнікам: няправільна сказалі тое і тое, напрыклад, растлумачылі параграф па гісторыі, даказалі тэарэму ці абгрунтавалі закон... І хоць настаўнік быў упэўнены ў правільнасці сваіх слоў, усё ж сумненне закрадвалася. Правяраў яшчэ раз сябе, пісаў на дошцы, павярнуўшыся спінай да класа, а Вадзім тымчасова пацяшаў вучняў, якія пачыналі паціху хіхікаць. На перапынку любіў пажартаваць над сваімі аднакласнікамі.

— Апошняга ўрока не будзе! — стрымгалоў улятаў у клас Вадзім, папярэдне зайшоўшы ў настаўніцкую. Туды ён заходзіў часта, без дай прычыны — проста павітацца з настаўнікамі, за што тыя называлі яго «візіцёрам». Нярэдка хто-небудзь з настаўнікаў, прыйшоўшы на ўрок у клас, гаварыў: «Добры дзень усім, акрамя Цэхановіча, ён ужо паспеў павітацца...»

— Ур-а-а! Фізікі не будзе!..— крычалі пасля Вадзімавай абвесткі задаволеныя хлапчукі і дзяўчынкі, асабліва двоечнікі і троечнікі.

Тады Вадзім, падрабляючыся пад выкладчыцу фізікі Алу Сцяпанаўну, павольна акідваў клас, рабіў строгі выраз твару і яе голасам вымаўляў:

— Так, яс-на, хто сён-ня не гатовы да ўрока фізікі...

Хуценька пералічваў, тыцкаючы пальцам у кожнага падманутага радасцю, хто клюнуў на яго кручок:

— Карпук — раз, Каралёў — два, Гарноська — тры...

Тыя з кулакамі кідаліся на Вадзіма, гналіся за ім. Але, выбегшы на калідор, тут жа спыняліся, бо ведалі, што Вадзім будзе класці іх па аднаму, як на трэніроўцы на барцоўскім дыване сапернікаў. Цэхановіч займаўся ў секцыі барацьбы.

Яшчэ з чацвёртага класа Вадзіма ведалі як добрага спевака і гітарыста. Спяваў ён звычайна песні Уладзіміра Высоцкага. І голас у яго быў крыху падобны на голас славутага барда, барытоністы, хрыплаваты. Асабліва падабалася Вадзіму адна песня — пра жырафу. «Жираф большой, ему видней...» — ледзь не гудзеў ён на гэтых словах. Як і ўсе аднагодкі, потым «захварэў» рок-музыкай. З сябрам-аднакласнікам Максімам Лобанам ён нават стварыў свой дуэт і назваў «Модэрн токінг-2». «Модэрн токінг» на той час ці не самы папулярны быў у свеце. Вядома, смешна было бачыць, як Вадзім і Максім імкнуліся пераняць манеру выканання Дзітэра Болена і Томаса Андэрса, спявалі іх песні на англійскай мове. Шмат разоў пракручвалі на магнітафоне касету з запісам «Модэрн токінг», перапісвалі тэксты песень на паперу, затым вывучвалі на памяць і рэпеціравалі пад гітару, сабраўшыся дома ў аднаго ці ў другога.

У шостым класе падчас заканчэння навучальнага года яны нават выступілі перад бацькамі аднакласнікаў. Па традыцыі вучні рыхтавалі канцэрт. Вадзім і Максім папрасілі ўключыць і іх у склад канцэртнай групы са сваім «Модэрн токінг-2». Антаніна Фёдараўна хацела спачатку забараніць спяваць на замежнай мове песні невядома якога зместу, але пасля таго як клас запатрабаваў, каб Цэхановіч і Лобан выступілі, ёй, класнай, давялося здацца. І дарэмна, бо пасля шкадавала...

Калі Вадзім і Максім паказалі свой рэпертуар, а дакладней, рэпертуар «Модэрн токінг», бацька Юлі Антонавай не сцярпеў, спытаў:

— А чаму не пяеце родных песень, на нашай мове, а ўсё на англійскай, заходнія? Ну хоць бы з рэпертуару «Песняроў» ці «Верасоў»?

І тут пачалося...

— Фі! — скрывіўся Максім Лобан.— Старó, як божы свет! Яны цяпер не ў модзе...

— Вось рок — гэта клас! — падтрымаў Максіма Вадзім.— «Модэрн токінг»! Хто яшчэ?

— «Ролінг стоўнз»...

— «Ю-2»...

— «АС/ДС»...

— «Пінк флойд»...

— «Скарпіёнз»...

Адна за адной гучалі з вуснаў хлопчыкаў і дзяўчынак назвы замежных рок-гуртоў. Затым пачалі скандзіраваць: «Модэрн токінг»! «Модэрн токінг»! «Модэрн токінг»!

Дарослыя, бацькі былі збянтэжаны. Яны ведалі, што іх дзеці захапляюцца сучаснай рок-музыкай, але каб так дружна, да апантанасці стаяць за яе,— не чакалі.

Разгубілася і Антаніна Фёдараўна на нейкі час. Яна не ведала, як далей быць з канцэртам. Ці то спыняць яго, ці то працягваць. Сама была не рада, што дазволіла выступаць Цэхановічу і Лобану. Выручыў яе адзін з бацькоў, тата Ірыны Купрэйчык.

— Дзеці вы нашы, дзеці... Вы нічога яшчэ не бачылі ў жыцці. Вы так мала ведаеце,— пачаў ён.— Вы не цэніце нашае роднае, бо не адчулі кожнай клеткай, кожнай крывінкай, што такое Радзіма...

— Зноў нас агітуюць...— прамовіў нехта з вучняў.

— Ды не агітуем, а падводзім да думкі, што не на замежных рок-гуртах канчаецца свет, а і ў нас ёсць мастацтва, добрыя ансамблі і спевакі-салісты...

— Хто? — зноў ледзь не хорам закрычалі хлапчу-

кі.— «Ласкавы май», «Наўтылус Пампіліус», «Кіно» — і ўсё...

— Ну, Лявонцьеў, Пугачова, Сяроў...— працягвалі ўсё тыя ж хлапчукі.— Але ні ў якае параўнанне яны не ідуць з Майклам Джэксанам, Мадоннай, Сандрай, Сабрынай...

Гэта быў «пік» гаворкі, пасля якога, канешне ж, пра нейкі канцэрт і адпаведны настрой у бацькоў і размовы не магло быць. Канцэрт перарвалі, і ўсе разышліся.

Вечарам Вераніка і Вадзім ішлі разам: яна — ■ рэпетыцыі, ён — з трэніроўкі, і абмяркоўвалі падзеі мінулага дня.

Вераніка вось ужо шэсць гадоў як займалася ў дзіцячай драматычнай студыі, якая была створана пры мясцовым тэлебачанні. У Галоўнай рэдакцыі народнай гаспадаркі працавала рэдактарам мама Веранікі, Вера Іванаўна. Аднойчы, на дзіцячым навагоднім ранішніку, які па традыцыі наладжвалі супрацоўнікі тэлебачання для сваіх дзяцей, кіраўнік дзіцячай драмстудыі Святлана Анатольеўна Маланкіна заўважыла, як артыстычна дэкламавала вершы адна прыгожая стройная дзяўчынка. Гэта была Вераніка Рагозіна, якая тады вучылася ў першым класе. Святлана Анатольеўна падышла да яе, пагутарыла з маці, і такім чынам Вераніка стала юным акцёрам дзіцячай драмстудыі. Студыя так захапіла Вераніку, што ўвесь свой вольны час яна аддавала толькі ёй. Тут было ўсё незвычайным: студыйная атрыбутыка з тэлекамерамі і маніторамі, сафітамі і мікрафонамі, рэжысёрскімі апаратнымі з пультамі... Рэпеціравалі ў розных дапаможных пакоях, а калі праца над ролямі была закончана і спектакль быў амаль гатовы, прызначаўся спецыяльны прагон, або генеральная рэпетыцыя ў студыі. Затым спектакль запісвалі на відэастужку. Для Веранікі, як і для астатніх юных акцёраў, гэта быў самы хвалюючы момант. І нялёгка, і ў той жа час вельмі цікава. Ты сам

сабе бачыш на маніторы, і таму хочацца выканаць тую ці іншую ролю яшчэ лепш. Калі спектакль стаяў у праграме, Вераніка заўсёды паведамляла Вадзіму, усім, хто хацеў паглядзець па тэлевізары, якая з яе «артыстка». Праўда, Вадзім бачыў «геніяльную артыстку», як называў ён Вераніку, не толькі па тэлевізары, але і ў самой студыі. Вераніка расказвала, які гэта непаўторны працэс, калі спектакль запісваецца на відэастужку. Вадзім не вытрымаў і папрасіў, каб Вераніка правяла яго на запіс. Пазней ён не раз бываў у студыі: на рэпетыцыях і на запісах.

Вадзім другі год наведваў секцыю барацьбы ў дзіцяча-юнацкай спартыўнай школе. Яна стаяла амаль побач са студыяй тэлебачання, праз вуліцу, у невялікім парку. І таму Вадзім заўсёды заходзіў па Вераніку, калі канчаліся трэніроўкі. На трэніроўку ён ішоў на гадзіну раней за Вераніку. А вось ішлі назад, дамоў, разам. І рэпетыцыі ў Веранікі, і трэніроўкі ў Вадзіма заканчваліся адначасова. Ён стаяў у вестыбюлі студыі, чакаў, пакуль каля паста міліцыі не з'явіцца Вераніка і, нібы козачка, подбегам па мармуровых сходках не спусціцца да яго. Выходзілі на вуліцу праз высокія шкляныя дзверы і адразу дзяліліся ўражаннямі: ён — пра секцыю, яна — пра драмстудыю.

Сёння ў іх тэма гаворкі была адна: канцэрт у класе, які не атрымаўся, па сутнасці, з-за яго, Вадзіма, і Максіма Лобана.

— Вадзім, не грызе сумленне, што так няўдала атрымалася з канцэртам? — Вераніка глянула сябру ў вочы.

— А што яны ўсе разумеюць у сучаснай музыцы? — «Усе» — меліся на ўвазе бацькі.

— Ну, навошта ж ты так... усіх агулам...

— Яны ўсе — рэтраграды.... Ім цяжка зразумець нас. Давай ім фальклор, як дваццаць гадоў назад. А час змяніўся... Ты чуеш, што сёння спявае Грабен-

шчыкоў — «Наш бронепоезд в огне...», Кузьмін — пра карабель: «Оказалось, никуда не плывем...» А рок-гурт «ДДТ» з Юрыем Шаўчуком? Гэта ж крык душы!

— Ты можаш нешта прымаць ці не прымаць, але ты павінен паважаць нашых бацькоў...

— За што іх паважаць? Што яны разам з нашымі дзядамі загубілі краіну. Перабудоўваць тое, што яны збудавалі, давядзецца яшчэ і нам, трэцяму пакаленню.

— Люблю смелых, мэтанакіраваных людзей, а не проста «крытыканаў».

— А я не крытыкую, я ўсяго толькі паўтараю іншых...

— Дрэнна паўтараць, трэба самому думаць... Спадзяюся, калі будзе створаны спецыялізаваны матэматычны клас, а ён, ходзяць чуткі, адкрыецца з новага навучальнага года, ты без нічыёй падказкі вырашыш: пераходзіць ці не ў яго?

— Ды я хоць сёння гатовы перайсці. А што, мне больш нічога не свеціць, акрамя матэматыкі. Гэта было б здорава, калі б такі клас адкрыўся..

— А пра мяне ты не думаеш? — Вераніка сумелася, задаўшы гэтае пытанне. Выскачыла яно неяк само.

— Ты без мяне не можаш жыць? — гэтак жа нечакана вырвалася і ў Вадзіма.— Будзем лічыць, што гэта прызнанне...— засмяяўся, абняў Вераніку за плечы.

— Я сур'ёзна, куды ты, туды — і я...

— А як з «геніяльным талентам актрысы»?

— Я гатова ахвяраваць дзеля цябе,— усміхнулася Вераніка, горнучыся да Вадзіма.

— Дарагія ахвяры. Але, як кажуць, сэнк'ю...

— Не, я не кіну драмстудыю. Я буду ў ёй займацца, а там... час пакажа.

Гаворка на гэтым, пэўна, не скончылася б, калі б не аўтобусны прыпынак, да якога падышлі Вераніка і Вадзім. Хутка яны селі ў аўтобус, які ішоў у бок іх мікраараёна.



## З РАЗМОВЫ, ЯКУЮ ВЕЎ СЛЕДЧЫ

— Антаніна Фёдараўна, вы былі кіраўніком «Е» класа чатыры гады — у чацвёртым, пятым, шостым, сёмым.... Так?

— Так...

— Я ведаю, што выкладчыца прыродазнаўства Марыя Андрэеўна Старасельцава і настаўніца пачатковых класаў Ірына Сцяпанаўна Буй у школе ўжо не працуюць. А мяне цікавіць вось гэты запіс у дзённіку Тані Касмылёвай: «Калі не мне — дык нікому... Хамячкі задушыла я. Дакладней, па маёй просьбе — Дзяніс з сёмага «Б»... Хай радуюцца Марыя Андрэеўна і старшыня Савета атрада Вераніка Рагозіна...»

— Няўжо толькі цяпер выкрылася гэтая тайна? Касмылёва... Таня Касмылёва... Гэта, значыць, зрабіла яна... Папрасіла Дзяніса Капцова, я помню яго...

### 3

Тую гісторыю з хамячкамі Антаніна Фёдараўна запомніла добра, нібы гэта было ўчора, хоць прайшло больш як чатыры гады. Пра яе тады гаварыла ўся школа. Не жарты, прыйсці раніцой у клас, дзе яшчэ ўчора ў клетцы весела гулялі беленькія што снег, маленькія істоты, з якіх не маглі нарадавацца вучні, і ўбачыць іх акрываўленымі, мёртвымі...

А пачыналася так. Ірына Сцяпанаўна Буй, настаўніца трэцяга класа, каб хоць як-небудзь арганізаваць, зацікавіць вучняў, вырашыла адкрыць куток жывой прыроды. Добрая ідэя, але крыху запозненая. Трэба было гэта зрабіць яшчэ ў першым класе.

Аднойчы Ірына Сцяпанаўна сустрэла сваю сяброўку

па інстытуце Тамару Бутрым. Тая вяла таксама трэці клас, але ў іншым горадзе.

— Як твае жэўжыкі? — запытала былая аднакурсніца.

— Не магу болей, Тамара... Неўтаймоўныя!

— А ты ведаеш, і мае гэткія ж самыя былі. А вось як адкрылі ў класе куток жывой прыроды — быццам падмянілі іх. Зусім іншыя сталі. Куды падзеліся іх выбрыкі. Кожны дзень ахвотна кормяць хамячкоў. Паспрабуй і ты.

Назаўтра Ірына Сцяпанаўна аб'явіла ў класе аб стварэнні кутка жывой прыроды, загаварыла пра хамячкоў. Яе падтрымалі вучні: «Давайце, давайце завядзём хамячкоў!» На гэтым і пагадзіліся. Адміністрацыя школы выдзеліла грошы на іх пакупку. Хутка набылі маленькіх белых пушыстых звяркоў. Дзеці прынеслі з дому розныя хатнія расліны, вазоны. На сцены павесілі плакаты, зрабілі выпіскі з прац вядомых прыродазнаўцаў. Завялі сшытак па догляду хамячкоў. Клас зазелянеў, папрыгажэў, а каля клеткі з хамячкамі пастаянна тоўпіліся вучні. Перад урокамі і пасля, на перапынках, дзеці з любоўю даглядалі маленькіх істот, кармілі, дзівіліся, як тыя «фокуснічалі» ў клетцы. Колькі радасці і ўцехі было для вучняў! І сапраўды, хутка, як казала сяброўка, нібы падмянілі іх. Сталі лепш вучыцца, паводзіць сябе.

Пасля трэцяга класа Ірына Сцяпанаўна перадала сваіх вучняў у чацвёрты Антаніне Фёдараўне. Пры развітанні са сваімі выхаванцамі сказала:

— Жывы куток застанецца новаму першаму класу. Я буду іх вучыць у гэтым жа пакоі. А вы прыходзьце, калі ласка, дапамагаць даглядаць хамячкоў. Адным словам, будзьце нашымі шэфамі. А цяпер падыміце руку, хто зможа ўзяць хамячкоў на канікулы дамоў?

Узнялося некалькі рук. Але хутка выявілася, што толькі адна Вераніка Рагозіна застанецца ў горадзе,

астатнія едуць на лета хто ў лагер, хто ў вёску да бабулі, хто на дачу.

Так і пралетавалі разам Вераніка і хамячкі, пасябравалі. А ў верасні зноў белыя зияркі вярнуліся ў класны куток жывой прыроды.

І вось тут пачалося...

Справа ў тым, што ў чацвёртым «Е» пачала выкладаць прыродазнаўства Марыя Андрэеўна Старасельцава, якая перажыла за сваё жыццё не адзін перыяд школьных рэформ і выпрацавала да іх спакойныя адносіны, свой імунітэт.

Чацвёртакласнікі кожны дзень збіраліся ля хамячкоў, многія пачалі горш вучыцца, спазняцца на ўрокі, калі празвініць званок, асабліва на ўрок прыродазнаўства, знаходзячы лёгкае тлумачэнне («Кармілі хамячкоў...»). Таму Марыя Андрэеўна загадала:

— Хамячкоў будуць даглядаць па чарзе тыя, хто паспяхова вучыцца, не мае двоек у сшытках і дзённіку. Адказнай прызначаецца старшыня Савета піянерскага атрада Вераніка Рагозіна. Вераніка,— звярнулася да Рагозінай Старасельцава,— завядзі сшытак і строга сачы за паспяховасцю аднакласнікаў...

Вераніка так і зрабіла: узяла агульны сшытак, перапісала ў яго прозвішчы вучняў класа, склала графік. Хто атрымліваў двойку, яна заносіла ў сшытак, і «парушальнік» аўтаматычна прапускаў сваю чаргу даглядаць хамячкоў.

Такім вучням, як Антон Тарасевіч, Юля Антонава, Таня Захарэвіч, Лена Глушко, Алег Іваноўскі, гэткі нечаканы паварот падзей не страшны быў: яны вучыліся без троек. Ды і так званыя «вечныя троечнікі» не бедавалі: ведалі, што іх чарга прыйдзе. А вось Пецю Вугла, Сашу Каралёва, Максіма Лобана, Юру Бальшакова і асабліва Таню Касмылёву гэтае рашэнне Марыі Андрэеўны зусім не задавальняла. Амаль кожны дзень у іх сшытках і дзённіку красаваліся «крэндзелі»,

як яны называлі двойкі. Калі Вераніка Рагозіна даглядала хамячкоў ужо тройчы, то Таня Касмылёва яшчэ ні разу. І ад гэтага Таня злавалася на Вераніку і тых, хто добра вучыўся.

Гэты дзень надышоў нечакана. Вераніка Рагозіна прыйшла ў школу за хвілін дваццаць да пачатку першага ўрока. Сёння была яе чарга карміць хамячкоў. Вераніка зайшла ў гардэроб, скінула, павесіла куртачку, пераабулася ў зменныя туфелькі, узяла ранец і пакрочыла ў першы клас, дзе быў куток жывой прыроды. Дзверы ў класе былі зачыненыя. Вераніка хацела паспрабаваць, ці замкнёныя яны, часам вахцёры запазняюцца адамкнуць, узялася за ручку, каб тузануць на сябе, і раптам з класа выскачыў кулём хлапчына і шпарка пабег па калідоры. Вераніка не паспела разгледзець яго — заўважыла толькі, што гэта быў вучань ростам прыкладна з сямікласніка, белабрысы. А хто? Не пазнала. Усе хлопчыкі ў аднолькавай школьнай форме. Ды і паспрабуй усіх у школе ведаць, калі тут такіх тысяча хлапчукоў. З паралельных чацвёртых класаў не ведаеш усіх, а тут на выгляд — сямікласнік, а можа, шасці- ці васьмікласнік...

Вераніка ўвайшла ў клас, накіравалася да клеткі з хамячкамі. Тое, што ўбачыла яна, ашаламіла: у расчыненай клетцы ляжалі тры маленькія беласнежныя пушыстыя істоты. З роцікаў у іх цякла кроў. Вераніка схапілася за галаву, закрыла твар далоньмі — і гучна заплакала. На плач збегліся вучні з суседніх класаў, тыя, хто раней прыйшоў у школу.

Доўга, помніцца Антаніне Фёдараўне, ішоў разбор гэтага здарэння. Шукалі хлопчыкаў, хто мог такое ўчыніць, хадзілі па класах з Веранікай яна, класная чацвёртага «Е», выкладчыца прыродазнаўства Марыя Андрэеўна Старасельцава, настаўніца першага «А» Ірына Сцяпанаўна Буй. Але знайсці злачынцу не ўдалося. Праўда, на Дзяніса Капцова Вераніка, як і на не-

каторых іншых белабрысых хлапчукоў, мела падазрэнне і нават паказала на яго. Але ён, як і тыя астатнія, вядома ж, не прызнаўся ў сваім злачынстве. Так і павісла ў паветры пытанне: хто?

## 4

Антаніна Фёдараўна бачыла: пераход Вадзіма Цэхановіча і Веранікі Рагозінай у сёмы «С» не застаўся без увагі ў сёмым «Е». Што Вадзім з лёгкасцю перайшоў у спецыялізаваны клас, асабліва нікога не здзівіла. Цэхановіч быў сярод лепшых матэматыкаў у класе. Затое па літаратуры і мове ледзь выцягваў на тройку. І каб не Вераніка, у якой ён пастаянна падглядваў, спісваў, дыктоўкі і сачыненні пісаў бы на двойкі — ведання граматыкі, сінтаксісу, адчування слова ў яго не было амаль ніякага. Памылкі рабіў у звычайным тэксце.

А вось тое, што Вераніка, у якой вучні бачылі будучую актрысу, кінулася ўслед за Вадзімам, нарадзіла ў класе перашэпты, абгаворы. І асабліва сярод тых, хто зайздросціў Вераніцы ці Вадзіму. А такія ў сёмым «Е», як і ў кожным класе ў падобным выпадку, былі...

— Пабегла хутчэй Рагозіна за Вадзімам... Пабаялася, што там, у сёмым «С», яго ўкрадуць ад яе,— з'едліва гаварыла сяброўкам Алена Лазоўская.

— Нічога, Вадзік і там будзе наш. Вось пабачыце. Будзе прыходзіць да нас. Гэта як цялятка, якое адбілася ад мамы,— больш памяркоўна, з усмешкай казала Аня Данчук.— Будзе бегаць па пяць разоў на дзень...

— Вераніка тым больш не ўцерпіць. Усё ж столькі гадоў мы правучыліся разам...— дадала Вольга Ясноўская.

— Дзяўчынкі, вось што я вам скажу: з Веранікай Вадзік там перастане сябраваць,— запэўнівала адна-

класніц Лора Носава.— Што ён — сляпы: яна ж за ім ходзіць па пятах. А якому хлопцу гэта прыемна?

А вось як адрэагавалі на пераход у сёмы «С» Вадзіма і Веранікі хлапчукі.

— Абезгаловіўся наш клас. Ну і Рагозіна... Выкінула нумар,— нібы шкадаваў Аляксей Кулік.

— А чаго тут плакаць? Выберам цябе, Алёха, старшынёй Савета атрада, і будзе ўсё о'кэй! — падбадзёрваў хлопцаў Кірыл Штанюк.— Ты нам будзеш дазваляць усё... Не тое што Рагозіна...

— А і праўда: пайшла і хай ідзе. Хоць, калі папраўдзе, крыху шкада, хлопцы: такую вучаніцу страцілі — гонар класа,— казаў Дзіма Шашко.

— Ды каб не Вадзік, нікуды б яна не пайшла. Гарантую,— падвёў рысу гаворцы Павел Хадасевіч, які безнадзейна быў закаханы ў Вераніку.

Такім чынам, у сёмым «Е» амаль ніхто не застаўся абыякавы да пераходу Вадзіма і Веранікі. Таня Касмылёва, як і Павел Хадасевіч,— таксама: ёй падабаўся Вадзім, а яму, як вядома,— Вераніка. Адрозненне ў іх пачуццях было адно: Павел хаваў свае сімпатыі да Рагозінай глыбока ў душы, нікому пра іх не гаварыў, пазбягаў Вераніку — надта ж хваляваўся перад ёю. Касмылёва, наадварот, старалася часцей, але каб ніхто асабліва не бачыў, сустрэцца з Вадзімам, ■ Рагозінай нашкодзіць якой-небудзь чарговай плёткай.

Больш за ўсіх перажывала Антаніна Фёдараўна. Не так з-за Вадзіма — хоць і яго было шкада: усё-ткі па яе прадмету, матэматыцы, ён быў выдатнік,— як з-за Веранікі. Разумела — страта ў класе вялікая. Суцяшала адно: у сёмым «С» яна, магчыма, будзе выкладаць матэматыку і, вядома, пастараецца зрабіць усё, каб Вераніка выдатна авалодала гэтым прадметам і паступіла на матэматычны факультэт інстытута. З другога боку, Антаніне Фёдараўне было шкада і артыстычнага

таленту Веранікі, якая па-ранейшаму займалася ў дзіцячай драматычнай студыі на тэлебачанні.

Не забудзе Антаніна Фёдараўна тэлеспектакляў, у якіх удзельнічала Вераніка Рагозіна. Кожны раз Вераніка паведамляла асабіста класнай, у які дзень і ў які час будзе ісці па тэлебачанні дзіцячы тэлеспектакль з яе ўдзелам. І калі выпадала вольная хвіліна, Антаніна Фёдараўна з асаблівай увагай сачыла на экране за ігрой Веранікі, яе жэстамі, мімікай, слухала яе мілагучнае вымаўленне. Ролі былі розныя — ад казачных гераінь Алёнкі, Папялушкі, Дзюймовачкі, Беласнежкі да сур'ёзнай ролі Асоль з аповесці Аляксандра Грына «Пунсовыя ветразі». На запісе гэтага спектакля пабыў амаль увесь шосты «Е». Запрасіла ўсіх Вераніка. Мама яе ўзялася выпісаць пропуск на студыю ўсяму класу.

Вера Іванаўна і Вераніка прапанавалі раздзяліцца на дзве падгрупы. Адна спачатку будзе глядзець спектакль у студыі, а другая — у апаратнай, ля пульта, на шматлікіх экранах, дзе рэжысёр, запісваючы на плёнку, выбірае патрэбны яму план. Пасля падгрупы памяняюцца. Усе згадзіліся. Бо надта ж цікавым абяцала ўсё быць.

Вера Іванаўна завяла падгрупу Антаніны Фёдараўны на трэці паверх, у апаратную, а затым спусцілася ў студыю, дзе яе чакалі астатнія вучні. Вера Іванаўна папярэдзіла: у студыі павінна быць мёртвая цішыня, а ў апаратнай — неабавязкова.

Антаніна Фёдараўна і вучні размясціліся ля дзвярэй апаратнай. На экране з'явіліся дэкарацыі спектакля. Уражваў трохмачтавы карабель з пунсовымі ветразямі. На баку яго было белым выпісана слова «Сакрэт» — назва карабля капітана Грэя. З высокімі блакітнымі хвалямі мора, бераг з загадкавымі раслінамі, кветкамі. Злева, на сярэднім плане,— домік матроса Лангрэна, бацькі Асоль, пасёлак Каперна. Выдзелены цацкі — марскія лодкі, парусні́кі, караблікі,— якія рабіў Лан-

грэн. Побач кош, у якім Асоль насіла цацкі на продаж. На кожны план накіравана адпаведнай сілы святло. Уражанне сапраўды незвычайнае. Заставалася толькі чакаць, калі пачнецца запіс гэтага рамантычнага спектакля.

Нечакана для ўсіх на экранах з'явілася Вераніка. Не, гэта была сапраўдная Асоль. Апранутая ў бедную вопратку, у старой касынцы, якія насілі ў рыбацкім пасёлку Каперне, яна выглядала загадкава. Рэжысёр, барадаты, сярэдніх гадоў мужчына, праз мікрафон прамовіў у студыю:

— Увага! Запіс сцэны «Асоль на досвітку выходзіць на бераг мора і чакае карабель з пунсовымі ветразямі» пачынаецца. Падрыхтавацца...

Тэлеаператары прыпалі да сваіх камер, асвятляльнікі дадалі адпаведнага святла — бела-шэрага, колеру світанку.

На фоне дэкарацый — інкрустацыі — Вераніку было не пазнаць. Яна нібы сапраўды стаяла на беразе мора, а ўдалечыні, як праз смугу, віднеліся пунсовыя ветразі.

Раптам рэжысёр узяў буйным планам Вераніку-Асоль: твар адухоўлены, рухі загадкавыя... Рэжысёр працягваў камандаваць у студыю:

— Вераніка, позірк, позірк вачэй... Зрабі, калі ласка, больш жывы, радасны. Ты ж углядаешся ўдалеч і спрабуеш убачыць жаданыя ветразі «Сакрэта», на якім капітан Грэй...

— Там — не Грэй, там — Вадзім,— штурхнуў Цэхановіча Максім Лобан, і ўсе засмяяліся.

— Так ужо і Вадзім... Гэтая Асоль даўно надакучыла яму...— са злосцю сказала Таня Касмылёва і адышла крыху ўбок.

— Цішэй! — папярэдзіла Антаніна Фёдараўна, не задумваючыся над словамі Касмылёвай. Яна ўважліва сачыла за Веранікай.

Вучні ўспрынялі рэплікі Максіма і Тані як жарт. Не зразумелі яго толькі тыя, хто працаваў за пультам. Хто такі Вадзім? А ці не ўсё роўна. Дзеці ёсць дзеці. А Вадзім напружана глядзеў на экран і бачыў, як там, далёка, на тумановым беразе мора, з заміраннем чакае сваю мару дзяцінства, пунсовыя ветразі, непаўторная Асоль...

* * *

## З ДОПЫТУ Ў СЛЕДЧАГА

— Таня, у якім класе ў цябе з'явілася цікаўнасць да рок-музыкі? У дзённіку тваім канкрэтнай даты няма. Запісана толькі: «Рок-музыка — клас-музыка. Я ёю зачаравана. Гэта маё жыццё, мая стыхія...» І далей пералічваеш назвы рок-гуртоў, як замежных, так і нашых, якія табе падабаліся.

— У пятым... Маці мне купіла тады касетны магнітафон. Па майму патрабаванню. Круціла «маг» штодзень. Балдзела...

— Дзе брала касеты, перапісвала рок-гурты?

— Касеты прыносіла маці, а замежныя рок-гурты перапісвала ў аднакласнікаў... (Тут Таня зманіла.)

## 5

— Касмылёва Таня, калі ласка, да дошкі,— Александрына Іванаўна, настаўніца беларускай мовы і літаратуры, на хвіліну адарвалася ад журнала пятага «Е», узняла галаву і паглядзела туды, дзе сядзела Таня. Да гэтага яна прайшлася вачыма ў журнале па прозвішчах вучняў, шукаючы, у каго няма адзнакі ці стаіць, як жартавалі школьнікі, «па́ра» альбо «крэндзель». Заканчвалася чвэрць, і неабходна было атэста-

ваць кожнага вучня. А ў Касмылёвай красавалася адна двойка. Таму Александрына Іванаўна ні на хвіліну не сумнявалася, што трэба выклікаць Касмылёву. Дый Антаніна Фёдараўна, класная, прасіла, каб настаўнікі часцей выклікалі Таню.

— Касмылёва, ідзі адказваць урок...— сказала яшчэ раз Александрына Іванаўна.

Але Таня быццам не чула, нават не зварухнулася. І толькі тады, калі яе штурхнуў у бок Каралёў, які сядзеў побач, паўтарыўшы словы настаўніцы, Таня ўсхапілася.

— Які ўрок? Які ўрок? Вось «рок» — гэта клас! — вырвалася ў Тані. Увесь выгляд яе паказваў, што яна лунала недзе далёка, і зусім не да ўрока беларускай мовы было ёй.

— У чым справа, Касмылёва? — Александрына Іванаўна падышла да парты, за якой сядзела Таня.

У гэты час нешта пстрыкнула ў чырвонай сумцы спартыўнага тыпу, і настаўніца ўбачыла, як Таня хутка выняла адтуль руку.

— Пакажы, пакажы, што ў цябе там? — твар Александрыны Іванаўны пасуровеў.

— Нічога, кніжкі, сшыткі...— спрабавала зманіць, моцна сціснуўшы ў руках сумку, Таня.

Клас загуў, самыя шустрыя Пеця Вугал і Антон Сердаболька з «камчаткі», рада, што быў ля акна, апынуліся каля чацвёртай парты трэцяга рада, за якой сядзела Таня Касмылёва.

— Не, ты мне дай сваю сумку, я пагляджу сама...— настойвала Александрына Іванаўна.

— Не дам! Гэта мая сумка... Гаспадар яе — я...— упарцілася Касмылёва.

І тады Александрына Іванаўна выхапіла сумку з Таніных рук, ажно нешта затрашчала, ці тое, што было ў сумцы, ці сама сумка.

Настаўніца раскрыла сумку і дастала адтуль... касетны магнітафон.

— У-у-ух ты! — хваляй прайшлося па класе.

— А мы і не ведалі, што там хаваецца «хэві-метал»,— сказаў Саша Каралёў, хоць сам ціхенька слухаў разам з Таняй замежны рок-гурт.

Александрына Іванаўна палезла глыбей у сумку, і хутка ў яе руках апынуліся каробачкі з пудрай, румянамі, цюбік з памадай.

— Што гэта? — не верыла сваім вачам настаўніца.

— А што бачыце...— агрызнулася Таня.

— Дзе ж кніжкі, сшыткі?

— Дома...

— Вось я цябе зараз і пашлю дадому па іх, і ты прыйдзеш сюды разам з мамай і татам.

— Таты ў мяне ўжо няма. Ён пад следствам, хутка сядзе ў турму...

У класе зноў загулі, зашумелі. Паўставалі з партаў хлапчукі і дзяўчынкі.

— Хто ў вас старшыня Савета піянерскага атрада? — спытала настаўніца.

— Я,— устала Вераніка Рагозіна.

— Як жа вы да гэтага дайшлі? Да чаго дакаціўся клас? Хіба вы ўсе не ведалі, што носіць на ўрокі ў сумцы Касмылёва?

— Ведалі... Я думала, што яна толькі на перапынках слухае магнітафон, а выходзіць — і на ўроках...

— Заткніся, Рагозіха! — закрычала Таня.— Сухар у форме...

— Што, што ты сказала? — не магла паверыць Александрына Іванаўна, што ўсё гэта адбываецца на яе ўроку.

— А што чулі!

— Дай сюды мне свой дзённік! — па інерцыі прамовіла выкладчыца беларускай мовы і літаратуры.— Хаця які дзённік? Хутка ў тваёй сумцы знойдзеш чорт

ведае што, толькі не школьныя рэчы. Не, гэтага нельга так пакінуць... Вераніка,— звярнулася Александрына Іванаўна да Рагозінай,— абавязкова трэба абмеркаваць паводзіны Касмылёвай у класе з класным кіраўніком. А я пайду да дырэктара...

— Ідзіце, хоць у с...— прыглушаным голасам вымавіла Таня.

Гэта быў эфект, падобны на выбух бомбы. Клас скаланула, нібы выбуховай хваляй.

Александрыне Іванаўне здалося, што яна страціла прытомнасць, пабеглі кругі ў вачах, не, гэта былі не кругі, гэта каціліся слёзы, якія, нібы гарошыны, падалі на стол...

* * *

## З ДОПЫТУ Ў СЛЕДЧАГА

— Маргарыта Іосіфаўна, ці ведалі вы, што ваша дачка Таня вяла дзённік?

— Не. Адкуль я магла ведаць? Яна мне не паказвала...

— У гэтым дзённіку ёсць і пра вас...

— Цікава...

— Вось ён, гэты дзённік. Можам разам прачытаць. Не супраць?

— Калі ласка...

— «Мама мая — сапраўдная гандлярка. Без яе «Моды» зусім не цікава было б жыць. І наогул, хто б я такая была? Зачуханая «дзяроўня». А яе знаёмыя? Колькі іх! Без блату з мамай яны хадзілі б голыя. Так мама часта паўтарае. І добра, што не асабліва лезе ў мае школьныя справы. Мусіць, «Мода» захапіла яе поўнасцю...»

## 6

Універсальны магазін «Мода» стаяў ці не на самым бойкім месцы горада: у цэнтры галоўнага праспекта, так што пакупнікі сцякаліся з двух бакоў. Побач парк культуры і адпачынку, кінатэатр «Сатурн», рэстаран «Вячэрняя зара».

Маргарыта Іосіфаўна працавала ў «Модзе» старшым таваразнаўцам. Пасада адказная і вельмі ж прэстыжная, а дакладней, выгодная. Ці не таму конкурсы на таваразнаўчыя факультэты інстытутаў народнай гаспадаркі былі занадта вялікія. Хто паступаў — лічыў, што ў кашулі нарадзіўся, не кажучы пра тых, хто праходзіў па знаёмству. Маргарыта Іосіфаўна была сярод тых, хто трапіў у інстытут не за свае веды. Бацька яе працаваў старшынёй райспажыўсаюза ў невялікім гарадку. А гэта тады што-небудзь ды значыла.

Беглі гады, курс за курсам, якія Рыта зноў жа адольвала з дапамогай таты. На пятым курсе выскачыла па разліку замуж за Міхаіла Касмылёва, ураджэнца вялікага горада, дзе яна вучылася. Той, закончыўшы політэхнічны, працаваў на гарадскіх будоўлях прарабам. Так Маргарыта стала гараджанкай. А пад той час адкрыўся магазін «Мода», і не без славутага званка «куды трэба» Рыта на размеркаванні была накіравана ў новы універмаг. Ды ў які! Маргарыта Іосіфаўна ў сне бачыла, як зайздросцяць ёй аднакурсніцы, знаёмыя ўжо рыхтуюцца заняць чаргу да яе, а ўсе астатнія гатовы пазнаёміцца з ёю, але не проста, а па вядомаму тады прынцыпу: «ты — мне, я — табе...» Каму ў горадзе не хочацца быць модным? Прайдзіцеся па адным праспекце, і вы гэта заўважыце... А як дастаць (слова «купіць» абясцэнілася) модныя рэчы — гэта ўжо ваша справа... Гэты пастулат добра засвоіла Маргарыта Іосіфаўна. Кліентаў у яе — ад блізкіх родзічаў да далёкіх знаёмых — было вельмі шмат. Усе яны былі залежныя ад таваразнаўцы «Моды».

Так год за годам і жыла Маргарыта Іосіфаўна, даслужылася да старшага таваразнаўцы, і ўпэўненасці яшчэ пабольшала. У хаце ў яе было што хочаш — ад шыкоўнага адзення, імпартнай мэблі да пікантнай яды. А сваё адзінае дзіця, дачку Таню, песціла, як магла. Джынсы, штруксы, «бананы», кофтачкі, куртачкі, красоўкі — усе імпартныя — Таня насіла, колькі сябе помніць... Замежныя крэмы, ласьёны, шампуні паспрабавала [illegible] маленства. Магнітафоны, прыёмнікі, прайгравальнікі...— колькі іх прайшло праз Таніны рукі. Не хапала аднаго: «відмага». Гэтае слова Таніна. Яна называла так відэамагнітафон. «Абяцала ма,— хвалілася Таня ў класе,— купіць «відмаг» у наступным годзе...» А чаму б і не купіць? Маргарыта Іосіфаўна любіла жыць на шырокую нагу. Вучыла гэтаму і мужа. А для Тані не шкадавала нічога. Уся яе філасофія была ў мяшчанскай прэстыжнасці: апрануцца, абуцца лепш, як іншыя, у кватэры мець усё лепшае, чым у іншых. Таніна вучоба яе амаль не цікавіла. Каб зусім не цікавіла — не. Яна, канешне, хацела, каб Таня вучылася добра. Бо як інакш яна паступіць у інстытут — а толькі туды хацелася б,— цяпер інакшыя часы, зусім не тыя... Але з кожным класам Таня пераконвала ў іншым: інстытута ёй не бачыць. І паступова Маргарыта Іосіфаўна змірылася з гэтай думкай, перастала сачыць за хатнімі заданнямі дачкі — дый часу не заўсёды хапала, які яна ўвесь аддавала «Модзе». Таня станавілася больш хітрай, скрытнай, хавала свае тайны ад маці. Гаворка ішла вакол аднаго: што сёння прынесла Маргарыта Іосіфаўна ёй з універмага.

Аднойчы Таня заявіла маці:

— Хачу новыя «бананы» і японскія касеты... А яшчэ — пуцёўку на лета ў піянерскі лагер «Зялёны гай».

— Які яшчэ «Зялёны гай»? — здзівілася Маргарыта Іосіфаўна.— «Бананы» і японскія касеты лягчэй

мне табе прынесці, чым тую пуцёўку. Сама ведаеш, піянерскія лагеры зараз аддаюць дзецям, якія пацярпелі ад аварыі ў Чарнобылі...

— Ёсць выхад... У Вадзіма Цэхановіча бацька працуе ў прафкоме на заводзе ЭВМ,— падказала Таня.— Дарэчы, Вадзім едзе летам у «Зялёны гай», а я, бач,— не магу. Калі не дастанеш пуцёўку — уцяку з дому,— прыпалохала маці Таня.

— Што ты вярзеш, апомніся,— узлавалася Маргарыта Іосіфаўна, але гэтую размову з дачкой яна запомніла і думала, як і тут задаволіць сваю пястуху.

Калі Таня вучылася ў пачатковых класах, для Маргарыты Іосіфаўны не было праблемы ўладкаваць дачку на канікулы. Пакуль жылі яе бацькі, яна на лета аддавала Таню ім. Тыя з радасцю чакалі ўнучку. Але дзядулі і бабулі не стала, і Тані не было куды ездзіць.

...Гэта быў адзін з нямногіх бацькоўскіх сходаў, на якім прысутнічала Маргарыта Іосіфаўна. «Каб яна прыйшла на сход»,— сурова папярэдзіла Антаніна Фёдараўна. Да таго ж Маргарыце Іосіфаўне патрэбна было сустрэцца з бацькам Вадзіма Цэхановіча Канстанцінам Сяргеевічам. Ён сядзеў за трэцім сталом, адзін. Падышла, павіталася і папрасіла дазволу сесці.

Сход вяла Антаніна Фёдараўна, спачатку хваліла тых, хто добра вучыўся. Як заўсёды, класная ставіла ў прыклад Вераніку Рагозіну, яшчэ некалькі вучняў. Потым перайшла да двоечнікаў. Скіравала позірк на Маргарыту Іосіфаўну.

— Вось і добра, што сёння вы нарэшце прыйшлі на сход,— пачала Антаніна Фёдараўна.— Што будзем рабіць з Таняй? Зноў тры двойкі адхапіла на гэтым тыдні. Ці кантралюеце вы дома яе? Правяраеце?

Што заставалася Маргарыце Іосіфаўне, як толькі лгаць і выкручвацца. Яна спрабавала пераканаць, што Таня выправіцца, што возьмецца сама за яе. Усе бацькі паварочваліся да Маргарыты Іосіфаўны, і цяжка было

зразумець, што яны думаюць пра яе. Асуджаюць ці шкадуюць? Зусім па-іншаму яны глядзелі на Веру Іванаўну Рагозіну, калі Антаніна Фёдараўна хваліла Вераніку. Там усё было ясна: зайздросцяць, па-добраму зайздросцяць Веранічынай маме — такую дачку кожны хацеў бы мець. Круглую выдатніцу. З выдатнымі паводзінамі.

— Усім класам (вы ведаеце, што зараз адзнаку па паводзінах вучню ставіць клас),— расказвала Касмылёвай Антаніна Фёдараўна,— мы Тані за мінулы тыдзень паставілі «нездавальняюча». Я саромеюся, не магу вам тут тое паўтарыць, што яна сказала на ўроку маладой настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Александрыне Іванаўне Варановіч. Калі можна было такое пачуць настаўніку ад вучня? Жах, проста бярэ жах! І яшчэ такіх некалькі вучняў ёсць у класе...

— Дык чаго з імі цацкацца? — падаў голас нехта з бацькоў.— Трэба браць іх за каршэнь і весці да дырэктара. Хай вырашае, што з імі рабіць.

— Наша дырэктар сказала так: яна — адна на тры тысячы вучняў. З кожным не ў стане разабрацца. Разбірайцеся ў класе. На гэта ёсць класныя,— перадала думку Ангеліны Мікалаеўны Антаніна Фёдараўна.

— Тады трэба зацягнуць у міліцыю, паставіць на ўлік,— зноў злосна прамовіў нехта з бацькоў.

Маргарыта Іосіфаўна заёрзала за сталом. Было бачна, як непрыемна ёй слухаць гэтую гаворку. Поўныя шчокі, здаецца, яшчэ папаўнелі ад чырвані, якая прыліла да твару. Вочы, і так круглыя, нібыта яшчэ пакруглелі. Яна то папраўляла пышную капу чорных валасоў з меліраванымі пасмамі, то апускала рукі на стол. Усю гэтую нервовасць Касмылёвай бачыў Канстанцін Сяргеевіч Цэхановіч і пачаў заступацца за суседку.

— Так ужо і ў міліцыю, на ўлік... Што яны, разбойнікі з вялікай дарогі? Ну хоць бы Таня — пераходны

ўзрост, усё гэта пройдзе. Яна ж яшчэ дзіця. Зразумейце!

— Пройдзе? Пажывём, паглядзім...

— І дзяўчынкі цяпер розныя бываюць...

— Не трэба спяшацца... Мы ж усе бацькі. Кожнаму дарагое сваё дзіця. Хіба не праўда?

Гэтыя бацькоўскія галасы, па сутнасці, падвялі рысу напружанай гаворцы, распачатай Антанінай Фёдараўнай. Маргарыта Іосіфаўна яшчэ раз запэўніла, што такое з Таняй болей не паўторыцца. На гэтым і разышліся.

Канстанцін Сяргеевіч і Маргарыта Іосіфаўна крочылі дамоў разам. Ім было ў адным напрамку, жылі на вуліцы Металістаў, толькі праз некалькі дамоў. Гаворка пайшла весялей, канешне, асадак ад бацькоўскага сходу не праходзіў. Спачатку, як выйшлі са школы, дык пра сход і гаварылі. І даволі сур'ёзна.

— Ну, што я магла адказаць Антаніне Фёдараўне і некаторым бацькам? Вінавата я ці не вінавата? Канешне, у нечым вінавата... А калі было ■ Таняю займацца? Яна ідзе ў школу, я — дома, яна — са школы, а я ў сваёй «Модзе» сяджу дацямна, прыходжу позна...

— О-о, дык вы заканадаўца гарадскіх мод,— каб неяк перавесці гаворку на нешта іншае, весела прамовіў Канстанцін Сяргеевіч і дадаў: — З вамі няблага было б сябраваць...

Маргарыта Іосіфаўна засмяялася і, здавалася, усю яе нядаўнюю напружанасць як рукой зняло. Быццам і не было тых непрыемных хвілін на бацькоўскім сходзе. Касмылёва прывыкла да лёгкага бесклапотнага жыцця. Усё яе жыццё прайшло без прыкметных турбот. За яе ўсе рабілі — з маленства і юнацтва бацькі, а замужам — муж, які ўмеў не толькі згатаваць смачную страву, але і спячы арыгінальны пірог, з якога ўсе дзівіліся, на што не была здатна Маргарыта Іосіфаўна. Яна толькі хваліла мужа, смакуючы яго кулінарныя вырабы.

— А я чула, што вы — прафкомаўскі бог,— у адказ на камплімент Канстанцiна Сяргеевiча прамовiла Касмылёва.— Пуцёвачкі маеце... Забяспечваеце імі як дарослых, так і дзяцей...

— Мы не толькі пуцёўкі маем, але — і свае прафілакторый-санаторый, піянерскі лагер. Цэлы комплекс. «Зялёны гай» называецца. Можа, чулі?

— Чула...— Маргарыта Іосіфаўна паправіла прычоску.

— Ведаеце чыгуначную станцыю «Барсукова»? Вось там непадалёк ад яе, у нізінцы сярод лесу, і размясціўся наш комплекс. Скажу, што пабудаваны ён па апошняму слову...— пачаў распісваць «Зялёны гай» Канстанцін Сяргеевіч.— Есць усе ўмовы як для санаторнага лячэння дарослых, так і для летняга адпачынку дзяцей...

— Багаты ваш завод... Калі не сакрэт, што выпускаеце? — Маргарыта Іосіфаўна хітрыла. Нібыта не ведала, на якім заводзе працуе Цэхановіч.

— ЭВМ...— з гордасцю вымавіў Цэхановіч.

— Каралі тэхнікі... Чаму б і не мець свой комплекс адпачынку? З вамі трэба сябраваць. Тані маёй, напрыклад, летам няма куды дзецца. Можа, знайшлася б у вас лішняя пуцёвачка ў піянерлагер?

— Зробім, Маргарыта Іосіфаўна. Разам з маім Вадзімам пастараемся і Таню ўладкаваць у наш лагер. Урэшце, чаму ўладкаваць? У нас купляюць пуцёўкі многія — ■ маторнага завода, тэлефоннай станцыі... Прадаём, канешне, лішнія пуцёўкі. Праўда, у апошнія гады стала цяжэй — чарнобыльскіх дзяцей прымаем. Але вам,— Цэхановіч падміргнуў, усміхнуўся,— будзе пуцёўка, абяцаю.

— Дзякуй, Канстанцін Сяргеевіч. Дарэчы, хто ваша жонка? — Маргарыта Іосіфаўна прыцішыла крок і глянула Цэхановічу ў вочы.

Той таксама запаволіў хаду і пачаў ледзь не жаліцца:

— Экскурсавод. Працуе ў гарадскім бюро экскурсій. Самі ведаеце, што гэта за праца? Патрэбна штодзень, як таму акцёру, мяняць гардэроб,— заўсёды ж перад людзьмі. Хочацца быць прыстойна апранутым, модным. Ох і цяжка ёй! Казаў, мяняй работу. «Не, люблю, і ўсё...»

— Не хвалюйцеся, не перажывайце,— Маргарыта Іосіфаўна шматзначна зыркнула вачыма.— Часцей заходзьце ў нашу «Моду». Дарэчы, як завуць вашу жонку?

— Наталля Сямёнаўна.

— Думаю, мы хутка пазнаёмімся...— Маргарыта Іосіфаўна падыходзіла да свайго дома. На развітанне зноў напомніла пра піянерлагер: — А пуцёвачку пастарайцеся...

— Пра што гаворка, Маргарыта Іосіфаўна,— на хаду, кіруючы ў свой бок, кінуў Канстанцін Сяргеевіч.

* * *

## З ДОПЫТУ Ў СЛЕДЧАГА

— Таня, у тваім дзённіку запісана: «Каманда «Rets»: час уступлення — шосты клас. Я адкрыла вочы на новае жыццё...» Растлумач, што азначае гэтае «Rets» і якое «новае жыццё» ў цябе пачалося?

— Многа хочаце...

— Не многа, а пакуль толькі тое, як пачынала ты «новае жыццё». Што такое «Rets»?

— А вы што, англійскай мовы не ведаеце? «Rets» па-англійску «Пацукі».

— Здаецца, па-англійску слова «пацукі» пішацца так»: «Rats»?

— А якая розніца, як пішацца, абы добра гучала. Вы скажаце, калі пачытаеце далей дзённік, што і «Kets» («Каты»), тусоўка, з якой мы ваявалі, пішацца правільна «Cats». А мы ўсё роўна іх білі...

## 7

Пра гэты дванаццаціпавярховы жылы дом з адным пад'ездам Таня Касмылёва даведалася ў шостым класе. Ён стаяў на перасячэнні дзвюх вуліц — Артылерыстаў і Шырокай. Хто б мог падумаць, што тут, у гэтым прыгожым высокім доме, на гарышчы збіраліся «металісты», а пазней...

Але па парадку. Непадалёк ад дванаццаціпавярховага дома, ці як яшчэ называлі яго «слупок», жыў сямікласнік Арцём Андронаў па мянушцы Цім. Аднойчы вечарам Цім гуляў на суседнім двары. Здалёк убачыў модна апранутую дзяўчынку — у джынсавым касцюме-«варонцы» і красоўках фірмы «Адзідас». У руках яна трымала магнітафон, з якога несліся рваныя гукі рок-музыкі. Сустрэў яе, пазнаёміўся, спытаў:

— Дзе перапісваеш замежныя рок-гурты?

Таня адказала, што купляе гатовыя касеты з музыкай на мясцовым рынку за дванаццаць рублёў.

— Фі, дванаццаць рублёў плаціш,— скрывіўся Цім.— Прыходзь да нас у «бункер» — бясплатна атрымаеш...

— Што за «бункер»? — пацікавілася Таня.

— Ёсць месцейка... Сакрэтнае. Калі моцна жадаеш, пакажу...— з хітрынкай зірнуў на Таню Цім.— Пайшлі! Дарэчы, праз паўгадзіны прыйдзе Спейс з новымі запісамі.

— Хто такі Спейс? — Таня прыглушыла магнітафон.

— Ды адзін мой добра знаёмы... Вучыцца ў вучылішчы. Жывём побач. Хутчэй...— падганяў Цім.

І Таня пабегла за Цімам.

Яны заехалі на дванаццаты паверх на ліфце, далей па жалезных сходках падняліся на гарышча.

Першае, што здзівіла Таню, калі яна ўвайшла ў «бункер», які наглуха замыкаўся,— надпісы на сценах. Адразу прыцягваў увагу вялізны белы знак «HMR». Таня ведала, што ён расшыфроўваецца «хэві-метал-рок» («цяжкі металічны рок»). Красаваліся напісаныя рознымі колерамі назвы замежных рок-гуртоў. Яшчэ Таня заўважыла, што тут англійскія словы былі перамешаны з нашымі: «Оля + Сяргей = Kiss», «Наташа + Дзіма = Love». Здзівілі страшныя малюнкі чалавека і звера, падпісаныя: «Mefistofel», «Pantera». А побач: «Будзе п'янка...» — «Ужо была...» — «Будзе нешта больш арыгінальнае...»

А вось малюнкі, выдзеленыя асобна: вялікі шэры пацук нападае з дзідай на чорнага ката. Унізе подпісы: «Rats» → «Cats» = «HMR» → «Новая хваля» = вайна. Таня зразумела, што паміж гэтымі «Рэтс» і «Кэтс» ідзе барацьба.

— Нішто сабе куточак...— нарэшце прамовіла Таня.

— Куточак? — перадражніў Таню Цім.— А «бункер» з танцпляцоўкай не хочаш? Мы тут балдзеем, весялімся...

— І ніхто з дарослых не чуе?

— Глуха, як у танку. Ты паглядзі, якая ізаляцыя! — Цім паляпаў рукой па сцяне і патупаў нагамі.— Лямец на падлозе і на сценах. Самі паклалі. І акустыка выдатная.

Таня працягвала знаёміцца з «бункерам». Ён быў абсталяваны пад своеасаблівы бар. З дошак быў збіты нізенькі столік, які стаяў у кутку. Вакол століка — калодачкі. Гэткія ж калодачкі ляжалі каля дзвюх процілеглых сцен. Ну, а пасярэдзіне — пустое месца, выхадзіць, танцпляцоўка.

Пакуль Таня аглядала новыя «апартаменты», па

сходках затупацелі ногі, і ў «бункер» уваліўся Спейс з кампаніяй, сярод якой былі і дзяўчынкі. Спейс адсвечваў голенай галавой.

— О, сярод нас новенькая! — усклікнуў ён, убачыўшы Таню.— Наш кадр? — зірнуў на Ціма.

Той кіўнуў галавой і паказаў вялікі палец.

— Праверым? — Спейс наблізіўся да Тані, хацеў узяць за падбародак, але Касмылёва адхінулася ўбок.— Як завуць прыгажуню?

— Таня...

— А мяне Спейс. Падпольная мянушка. Прашу толькі так зваць, містэры і лэдзі...— засмяяўся, паказаў рэдкія зубы.— Па-простаму можна і Лысы. Бачыш, якая галава?

Спейс выняў з кішэні цыгарэты «Арбіта», паклаў на столік. Потым дастаў са спартыўнай сумкі дзве пляшкі гарэлкі. Дзе ён іх браў — аднаму яму было вядома. На пытанні цікаўных адказваў:

— Зялёненькія... Падрасцеце — даведаецеся...

Спейс уключыў магнітафон, які ён прынёс у той жа сумцы. Пад гукі «хэві-метала» пачалі знаёміцца з Таняй хлапчукі і дзяўчынкі. «Лера... Ігар... Андрэй... Алеся... Саня...» — гучалі імёны.

А тым часам Лысы адкаркоўваў бутэльку. Потым папрасіў сваіх сяброў адысці ўбок і паклікаў да сябе Таню:

— Ты ведаеш, куды трапіла? — інтрыгуючы, пачаў Спейс.

Касмылёва паціснула плячыма, засмяялася:

— У «бункер»...

— Не толькі... Дык ведай: ты трапіла ў каманду або тусоўку «Рэтс». З англійскай — «Пацукі». А для таго, каб стаць яе членам, патрэбна прыняць нашу прысягу.— Спейс трымаў у руцэ бутэльку.— Ты павінна «прычасціцца», даць клятву, што нікому ні гу-гу пра наш «бункер» і нашу тусоўку...— Выпі вось гэтыя бо-

жыя кроплі,— Лысы наліў гарэлкі ў чарку, артыстычна паднёс Тані.

Таня ўзяла, паволі пацягнула, скрывілася. Не, яна ўжо каштавала гарэлку. У чацвёртым класе. Дома. Калі мама адзначала чарговы свой дзень нараджэння. Кампанія дарослых пасля добрага застолля павесялела і пайшла танцаваць у суседні пакой. Таня — з цікаўнасці, мабыць — наліла з недапітай бутэлькі ў чарку і крыху адпіла. Першае, што адчула,— незвычайную гаркоту ў роце і непрыемную пякотку ў жываце, а потым ужо — лёгкае галавакружэнне. «І як яны п'юць гэтую брыдоту?» — падумала. Гэтая думка раптам усплыла тут, на гарышчы. Але гарэлка ёй здавалася ўжо не такой, як тады, упершыню.

— За нашу будучую прынцэсу! — выгукнуў Спейс.

— За нашу будучую Айран мэйдан! — нехта з хлопцаў падтрымаў Лысага.

Пад гукі рок-музыкі выпілі яшчэ па адной чарцы. Усім стала весела. Спейс памяняў касету, паставіў рок-гурт «Аксепт» і першым рынуўся ў танец. За ім — астатнія... Рукі і ногі ў кожнага хадзілі ходырам. Галовы то закідваліся назад, то апускаліся ледзь не да падлогі. Нечакана Спейс і Цім пачалі станавіцца на галаву, падымаючы высока ўгару ногі.

— Брэйк, усім ламаць брэйк,— камандаваў Лысы.

Хлапчукі і дзяўчынкі пачалі пераймаць Спейса і Ціма. Не ў кожнага атрымліваўся брэйк так, як у іх настаўнікаў. Але кожны стараўся. Адна Таня стаяла збоку, яна пакуль не асмельвалася — брэйк не танцавала яшчэ ні разу. Касмылёву ўбачыў Спейс-Лысы, падскочыў імгненна да яе, згроб у ахапак, прыціснуўся шчакой да Таніных вуснаў, спрабуючы пацалаваць. Таня неяк выкруцілася, з размаху пляснула нахабніку па твары.

— В-о-о-й! — завыў Лысы.

Удар па шчацэ быў такі, што яго пачулі астатнія, перасталі дрыгацца.

— Ух ты! Ну, пацаны,— гэта будзе наша прынцэса!

— Жалезная дзева — Айран мэйдан, як піць даць, расце! Давайце і назавём яе — Айранмэйдан.

— Айранмэйдан! — нехта паўтарыў.

— Айранмэйдан! — хорам загучалі галасы.

Спейс-Лысы ачомаўся, падышоў да Тані, узяў за падбародак:

— Запомні, кіска,— на першы раз дарую... Глядзі, не паўтарай! Мы — хлопцы ганарыстыя... Ідзём падрыгаемся,— узяў Таню за руку.

Весяліліся яшчэ з гадзіну. Потым па адным пачалі разыходзіцца.

Калі выйшлі на вуліцу, ужо добра сцямнела. Таня прыйшла дамоў. Бацькоў яшчэ не было з работы. Каб яны не заўважылі, што іх дачка выпіла, Таня хуценька распранулася і бухнулася ў пасцель.

## 8

Міхаіл Георгіевіч Касмылёў, прараб, працаваў на будаўніцтве ведамаснай гасцініцы «Алмаз». З гэтай гасцініцай здарылася цэлая гісторыя. Справа ў тым, што гасцініцу задумалі будаваць у прыгожым месцы мікрараёна, а дакладней, на ўскраіне горада, дзе была зона адпачынку — штучнае возера, на месцы якога яшчэ нядаўна ляжала балота і стаяла вёсачка Гатка, сасновы лес, перад якім, па сутнасці, канчаўся горад. Паміж возерам і лесам размясціўся спартыўны комплекс «Алімпійскі рэзерв»: атлетычная зала, залы барацьбы, гімнастыкі, тэнісу, водны басейн... Побач з комплексам — футбольнае поле. Гасцініцу вырашылі будаваць на ўскрайку лесу, на ўзгорку, з якога зімой дзеці ды і дарослыя каталіся на лыжах.

Бульдозеры, якія пачалі капаць катлаван пад фун-

дамент, захапілі ладны кавалак лесу. Ляжалі ўверх каранямі вывернутыя маладзенькія сосны, кусты ядлоўцу...

Жыхары мікрараёна пачалі пісаць скаргі ў рэдакцыі. З'явіўся востры матэрыял у адной з мясцовых газет, у якім крытыкаваўся выбар месца пад будаўніцтва гасцініцы.

Прыйшло пісьмо і на тэлебачанне.

Аднойчы галоўны рэдактар рэдакцыі народнай гаспадаркі, у якой па-ранейшаму працавала мама Веранікі Рагозінай, выклікаў Веру Іванаўну і сказаў:

— Трэба адрэагаваць на адно пісьмо... З'ездзіце з рэжысёрам Краўцовым, я з ім ужо гаварыў, і здымачнай групай на будаўніцтва гасцініцы «Алмаз». Нашумела яна ў горадзе. Трэба і нам даць па тэлебачанні...

Пад'ехалі на «рафіку» з боку возера. Выйшлі з аўтобуса рэжысёр Іван Краўцоў, аператар з ручной пераноснай тэлекамерай, гукарэжысёр і яна, Вера Іванаўна. Навокал была раскапана зямля, валялася цэгла, бітая і цэлая, іншыя будаўнічыя матэрыялы. Краўцоў і Вера Іванаўна спыталі ў аднаго з рабочых, як завуць начальніка будоўлі і як можна яго пабачыць.

— Начальніка няма, а прараб Міхаіл Георгіевіч Касмылёў вунь стаіць каля пад'ёмнага крана.

«Касмылёў? Ці не бацька Тані Касмылёвай, аднакласніцы Веранікі?» — падумалася Веры Іванаўне.

«Так, гэта ён і ёсць»,— калі падышлі бліжэй, пазнала Вера Іванаўна. Рослы, мажны, з шырокім агрубелым тварам. Аднойчы — мусіць, толькі раз — давялося быць з ім на бацькоўскім сходзе.

Даўнавата, праўда, гэта было — не помніць, у якім класе. Тады Касмылёў бурна рэагаваў на заўвагі класнай наконт Тані. Вера Іванаўна, адзінокая маці, не прапускала ніводнага бацькоўскага сходу ў школе. Хіба тады адсутнічала, калі была ў камандзіроўцы. А вось тыя бацькі, якім проста неабходна было навед-

ваць сходы, часцей за ўсё і не хадзілі на іх. У іх ліку былі і Касмылёвы.

Здымачная група павіталася з прарабам. Ён таксама даў «Добры дзень!», нейкую хвіліну разглядаў усіх, зразумеў адкуль і расплыўся ў падробнай усмешцы.

— Гара з гарою не сходзяцца, а людзі вось... Я вас пазнаў, як і вы мяне, мабыць,— звярнуўся ён да Веры Іванаўны.— Так, так... Танька, Вераніка — аднакласніцы... Бацькоўскі сход.... Прыпамінаеце? Ваша Вераніка — малайчына. Кажуць, выдатніца...— ліслівіў Міхаіл Георгіевіч. Потым пахмурнеў.— А наша Танька падводзіць нас. Як ні змагаемся — адзін вынік. Як вучыцца, так і паводзіць сябе. Дрэнна. Можа, вы па сакрэту дасце «рэцэпт» выхавання Веранікі? — ён зноў усміхнуўся. Вясёлы настрой у яго быў ненатуральны, відаць, выкліканы лёгкім хмелем. Гэта пацвярджалі ледзь улоўны пах спіртнога і расчырванелыя шчокі прараба.

Рэжысёр, аператар і гукарэжысёр, зразумеўшы, што сустрэліся два знаёмыя чалавекі, каб не перашкаджаць ім, адышлі ўбок, падаліся бліжэй да будоўлі.

— Які «рэцэпт»? Вераніка ў мяне такая з малых гадоў...— каб неяк разгутарыцца і падысці да галоўнага, прамовіла Вера Іванаўна.

— Выхаванне — вялікая сіла... А калі нам выхоўваць Таню? Жонка з магазіна прыходзіць позна, бывае, што і ў адзінаццаць вечара. Самі ведаеце, якія цяпер пакупнікі. Душу ад'ядуць. А ў яе ж яшчэ гэтае моднае ўсё...— нібы намякаў на нешта Міхаіл Георгіевіч.— Я таксама закапаўся з гэтаю будоўляю. Дацямна сядзіш тут. Загадана за нейкіх паўгода пабудаваць гасцініцу. Вось і выжыльваемся,— жаліўся Касмылёў.— А тут яшчэ скаргі пішуць, карэспандэнты прыязджаюць...— павысіў голас.

— Вось-вось,— нібы чакала гэтага моманту Вера Іванаўна і тут жа падхапіла: — Я таксама па скарзе

жыхароў мікрараёна прыехала,— палезла ў сумку па пісьмо, дастала яго.— Якая ваша думка як выканаўцы наконт будаўніцтва гасцініцы ў гэтай мясціне?

— І чаго яны скардзяцца? — тым жа павышаным тонам працягваў Касмылёў.— Гасцініца толькі ўпрыгожыць гэты ўскраек лесу. І адначасова — мікрараён.

— Наадварот, Міхаіл Георгіевіч. Знішчыць прыроду. Вы паглядзіце, які тут лес? Ён не для часовых жыхароў гасцініцы... Вы ж ведаеце, што такое жыць часова? «Трава не расці»... Будуць паганіць гэтую лясную прыгажосць... Хіба не зразумела? Пра гэта якраз і пішуць у сваім пісьме на тэлебачанне жыхары мікраараёна,— Вера Іванаўна разгарнула ліст, паказала пальцам падкрэсленыя чырвоным алоўкам словы.

— Але ж складзены каштарыс на будаўніцтва гасцініцы. А гэта немалыя грошыкі...— хітрыў Касмылёў. Потым, хвіліну памаўчаўшы, пайшоў у наступ.— Я вам скажу так: не рабіце вы многа шуму з нічога, як сказаў адзін класік. Бо ўсё роўна будзе па-нашаму. Хоць я разумею, што такое сёння тэлебачанне. Гэта нават не прэса. Глядзяць цяпер тэлевізар усе. І жук, і жаба...— паспрабаваў перайсці на гумар. А пасля раптам нагнуўся, шапнуў на вуха Веры Іванаўне: — Можа, каляровая абліцовачная плітка патрэбна? У ванную, туалет, напрыклад? Магу ўдружыць за бясцэнак.

— Вы што, Міхаіл Георгіевіч, гаворыце? — сур'ёзна сказала Вера Іванаўна.— Вы ж адказны тут работнік! Пастаўлены сачыць за парадкам!

Гэтыя словы Веры Іванаўны падзейнічалі на Міхаіла Георгіевіча, нібы халодны душ. Ён скрыгатнуў зубамі (відаць, па натуры ён быў яшчэ і злосны, помслівы чалавек), крута павярнуўся і пакрочыў у бок будоўлі. На хаду кінуў Веры Іванаўне:

— А я пра вас думаў лепш...— сказаў, канешне ж, у сваім разуменні «лепш».

Ад інтэрв'ю прараб адмовіўся. Яго далі два рабочыя.

Праз некаторы час перадача пра будаўніцтва гасцініцы «Алмаз», якую вяла сама Вера Іванаўна, выйшла ў эфір. Яе глядзелі шмат людзей.

Расказвалі, што пасля гэтай перадачы, у якой было інтэрв'ю і з кіраўніцтвам адпаведнага завода, хто распараджаўся будаўніцтвам гасцініцы, прыпынілі ўзвядзенне паверхаў, а Міхаілам Георгіевічам Касмылёвым занялося следства...

* * *

## З РАЗМОВЫ, ЯКУЮ ВЕЎ СЛЕДЧЫ

— Канстанцін Сяргеевіч, ці ведалі вы, што ваш сын сябраваў з Веранікай Рагозінай?

— Ці ведаў? Чуў, як яны перазвоньваліся па тэлефоне... Ён і з Таняй Касмылёвай гэтак жа сябраваў. Былі разам у піянерскім лагеры. Хлопец ён у мяне быў кампанейскі. Я нічога страшнага тады не бачыў...

— Не бачылі і не заўважалі...

— Не... А што я мог заўважаць? Дзеці як дзеці... І мы некалі такімі былі. Сябравалі адзін з адным...

— Я ведаю, Канстанцін Сяргеевіч, што вы хадзілі ў паход з начлегам з шасцікласнікамі...

— Так, хадзіў. Было гэта ў канцы мая.

— Нічога ў вас там асаблівага не адбылося?

— Здаецца, не... Калі не лічыць аднаго выпадку...

— Паслухайце, што запісала ў сваім дзённіку Таня Касмылёва: «Паход на раку Наймён мяне пераканаў, што маім ворагам нумар адзін з'яўляецца Рагозіна. Я з задавальненнем нацкавала б на яе тых наркаманаў, на якіх натрапілі, калі хадзілі па ландышы...»

## 5

Ідэю адзначыць заканчэнне шостага класа паходам і начлегам на возера ці раку падала Вераніка Рагозіна. Яе падтрымаў увесь клас. А хто не падтрымаў бы гэтую выдатную задуму старшыні Савета піянерскага атрада? Хадзілі ж у час зімовых канікул у лыжны паход у лес — і ўсе былі задаволены. Уражанняў было на цэлую чвэрць. Антаніна Фёдараўна таксама згадзілася, толькі на бацькоўскім сходзе папрасіла, каб хто-небудзь з дарослых дапамог ёй. Пасля некаторай замінкі — кожны з бацькоў знаходзіў прычыну, што не зможа,— згоду даў Канстанцін Сяргеевіч Цэхановіч. Ён сказаў, што будзе якраз у адпачынку і праблемы з часам для яго не існуе. Паедзе з класам.

— Толькі якое возера ці раку выберам? — задумалася Антаніна Фёдараўна.

— Давайце паедзем на раку Наймён. Ад горада кіламетраў шэсцьдзесят. Ходзіць электрычка. Наш завод часта выязджае туды,— пераконваў усіх Канстанцін Сяргеевіч.

Былі і іншыя прапановы: паехаць на возера Чаран, дзе была турбаза «Бусліны востраў», на раку Каменку. Спыніліся на прапанове Канстанціна Сяргеевіча. Па-першае, едзе сам Цэхановіч, які ведае тыя мясціны, па-другое, ён — у прафкоме завода і зможа ўзяць палаткі.

Канстанцін Сяргеевіч сапраўды «ўмудрыўся выбіць» ажно сем чатырохмесных палатак. Свае палаткі мелі дома Аляксей Булат і Максім Лобан, яны і ўзялі іх з сабой.

Канец мая выдаўся надзіва: сонца свяціла, нібыта ў ліпені, цвілі буйным кветам яблыні, на лугах і палях гарэлі рознакаляровымі агеньчыкамі кветкі, а ў дубровах з'яўляліся белыя званочкі ландышаў.

На раку Наймён дабраліся за гадзіны паўтары: гадзіну на электрычцы і паўгадзіны пяшэчкам да Арэ-

хавай гары. Гэта была адна з прыгажэйшых мясцін Наймёна: злева, быццам вышыты абрус, луг як скінуць вокам, пойма ракі, нібыта зялёныя кругі, стаялі дубровы. А ў іх — процьма ландышаў. Справа — сасновы бор, які на адхоністым беразе пераходзіў у арэшнік. За ім — жоўты пясочак, якому роўня былі хіба што балгарскія «Златы пясцы» альбо пляжы Еўпаторыі.

— Ану, хлопчыкі, паставім палаткі!..— падаў голас Канстанцін Сяргеевіч, узяўшы ў рукі сякеру.

— А дзяўчынкі — рыхтаваць абед...— падтрымала ініцыятыву Цэхановіча Антаніна Фёдараўна, падышла да купкі вучаніц, якія аб нечым размаўлялі.

Прайшло няшмат часу, як роўненька ў тры рады стаялі палаткі пад выноснымі соснамі Арэхавай гары. Пад кіраўніцтвам Канстанціна Сяргеевіча хлапчукі рабілі ўсё: забівалі калкі, за якія потым прывязвалі палаткі, насілі галлё на касцёр... Дзяўчынкі абіралі бульбу, наразалі хлеб, даставалі з рэчмяшкоў прыпасы... Хутка зашугаў касцёр, над якім павесілі кацялкі для варыва. Пакуль рыхтаваўся абед, многія хлапчукі і дзяўчынкі пайшлі на рэчку купацца і лавіць рыбу. Вуды захапілі з сабой. Калі накупаліся ўдосталь, выйшлі на бераг, Антаніна Фёдараўна гукнула ўсіх абедаць. Елі згатаваны ўласнымі рукамі абед так, што не адцягнуць за вушы. Пасля абеду загаралі на пясчанай выспе, купаліся, лавілі рыбу.

Таня Касмылёва, Максім Лобан і Вадзім Цэхановіч неўпрыкмет вырашылі збегаць у бліжэйшую дуброву нарваць ландышаў — пра іх у электрычцы расказваў Канстанцін Сяргеевіч. Да гаю было хвілін дваццаць хады. І, канешне, Антаніна Фёдараўна не пусціла б, калі б у яе спыталі дазволу. Таму тройца і вырашыла сігануць цішком, пакуль кожны заняты сваім. Вераніка з класнай праглядалі праграму вячэрняга канцэрта — яны за яго адказвалі. Канстанцін Сяргеевіч сек для смажання шашлыкоў на вячэру карчы — тоўстыя, смаловыя.

Спачатку ўцекачы беглі па беразе рэчкі, іх засланялі кусты алешніку, лазы, потым звярнулі на луг і, прыгінаючыся, а дзе і паўзком, дабраліся па высокай траве да дубовага гаю. З краю дубровы ландышаў не было відаць, вырашылі заглыбіцца. Пераскочылі цераз кусты, абмінулі некалькі тонкіх невысокіх дубоў і выйшлі на сцяжынку, якая вяла ў глыбокі роў, парослы хмызам і дрэвамі. Туды і накіраваліся ўцекачы. Там, думалі яны, ландышаў — белая зямля. І сапраўды па дарозе пачалі трапляцца то адзін, то другі кусцік з белымі званочкамі.

Першым дабег да рова Вадзім і спыніўся як укопаны. За ім набліжаліся Максім і Таня. Вадзім пачаў махаць, нібы веерам, рукой: маўляў, цішэй. Калі падышлі ўсе, то ўбачылі, як на адхоне рова сярод белых ландышаў спалі два хлопцы і дзве дзяўчыны, расхрыстаныя, усе ў джынсавых пацёртых штанах, месцамі зялёных ад травы. Побач валяліся спальныя і рэчмяшкі, і, што ўсіх вельмі здзівіла,— два шпрыцы, самыя сапраўдныя медыцынскія шпрыцы, якія, відаць, былі пустыя. Значыць, асяніла тройцу, яны не проста спяць, а спяць пасля добрай дозы наркотыка. «Гэта наркаманы! Наркаманы!! Во знайшлі месцейка, гáды,— сярод такой прыгажосці, сярод беласнежных ландышаў...» — здаецца, усё крычала ўнутры ў Максіма. Неспакойны быў і Вадзім. Гэтае «відовішча» так падзейнічала на хлопцаў, што яны быццам застылі на месцы, знямелі, не маглі рухацца. І толькі калі Таня ціхенька шапнула: «Хутчэй назад!», яны, нібы марыянеткі, павольна павярнуліся і пабеглі за Касмылёвай. Дабеглі да рэчкі, спыніліся. Хлопцы ўсё-такі спалохаліся. Не дзіва: упершыню бачаць наркаманаў. А Таня не спужалася. Яна адчула таксічную эйфарыю ў «бункеры», наслухалася ад Спейса і Ціма пра наркаманскія штучкі і таму спакойна гаварыла, ледзь не загадвала хлапчукам:

— Нікому ні слова пра тое, што бачылі! Дамовіліся?

— А чаму такі сакрэт? — не разумееў Максім.

— Нельга, каб усе ведалі пра такое... Яны не любяць лішніх вачэй, могуць адпомсціць...

— Дый мы ўцяклі ад усіх...— прамовіў Вадзім.— Прыйдзем, скажам, калі што: шукалі выдму, дзе водзіцца стронга. Мы ж думалі палавіць яе...

Іх адсутнасць заўважыў Канстанцін Сяргеевіч. Ён хацеў, каб Вадзім дапамог яму замарынаваць шашлыкі на вячэру. На дачы Вадзім заўсёды рабіў шашлыкі разам з бацькам — ад самага пачатку да канца, калі, прамарынаваныя ў воцаце з цыбуляй, чаплялі іх на шампуры і круцілі над агнём, аж пакуль тыя не ружавелі і не давалі такі пах, што аж цяклі слінкі. Канстанцін Сяргеевіч гукнуў Вадзіма — думаў, што ён купаецца ці загарае. Але адказу не пачуў. Тады ён спусціўся да рэчкі, дзе плюхаліся хлапчукі і дзяўчынкі, спытаў, хто бачыў Вадзіма. Нехта паказаў у бок ракі, маўляў, пайшоў па беразе з Максімам Лобанам і Таняй Касмылёвай.

Калі тройца вярнулася, Канстанцін Сяргеевіч і Антаніна Фёдараўна ўчынілі допыт. Але самавольцы адгаварыліся прыдуманай Вадзімам версіяй: вінавата стронга, пра якую наслухаліся за час дарогі ад бацькі. А яе, стронгу, не так лёгка злавіць: мала ведаць, што яна водзіцца ў Наймёне, трэба ведаць мясціны, дзе яна ходзіць. А пра такія мясціны, маляўніча апісваючы, і расказваў Цэхановіч-старэйшы.

Вечарам пасля невялікага канцэрта, у якім удзельнічалі пераважна дзяўчынкі,— Вераніка сыграла адну са сцэн з тэлеспектакля «Пунсовыя ветразі»,— смажылі шашлыкі і гулялі пад магнітафон у «лішняга». Час пераваліў за поўнач, а гульня не канчалася. Некалькі разоў папярэдзіла, што позна, Антаніна Фёдараўна, сказаў Канстанцін Сяргеевіч, але дружныя галасы: «Яшчэ хвілінку! Яшчэ хвілінку! І мы закончым!..» — расчулілі кіраўнікоў паходу.

І тут здарылася нечаканае. Каля вогнішча на калодцы стаяў касетны магнітафон, якім кіраваў «аператар». Ён то ўключаў, то выключаў музыку, пад якую танцавалі па парах хлапчукі і дзяўчынкі. Сярод іх быў адзін «лішні», яго роля была незайздросная: танцаваць з палкай. Але ён мог, калі «аператар» імгненна выключаў магнітафон, адбіць сабе пару. І тады ўжо той, хто застаўся без пары, ішоў да палкі, свайго новага «партнёра». Лічылася, хто больш за ўсіх танцаваў з палкай, той — няўдачнік і над ім можна пасмяяцца.

Гэтым няўдачнікам чамусьці сёння аказалася Касмылёва, што на яе было не падобна. А ўсё таму, што Таня паставіла сабе за мэту: больш за ўсіх патанцаваць з Вадзімам. Аднак гэта ёй не ўдавалася, і Таня злавала. Вадзім хуценька падбягаў да Веранікі, як і Вераніка да яго, а Таня аказвалася «лішняй», бо ад астатніх хлапчукоў яна адварочвалася, пасля чаго тыя расхоплівалі іншых дзяўчынак, не зважаючы на Касмылёву.

Таня, убачыўшы, што Вераніка і Вадзім зноў разам, са злосцю падбегла да магнітафона і... штурхнула яго ў вогнішча. «Аператар» (а ім быў Сяргей Міхаевіч, гэта яго быў магнітафон) не зразумеў, што адбылося. Ён стаяў як паралізаваны.

Калі Сяргей дастаў магнітафон з агню, ён быў абвуглены і, вядома ж, маўчаў, хоць хлопец і спрабаваў круціць за ўсе ручкі.

Хлапчукі і дзяўчынкі раптам спыніліся, прыціхлі. Антаніна Фёдараўна і Канстанцін Сяргеевіч, якія сядзелі з другога боку кастра, усхапіліся. І ў гэтую хвіліну пачуўся Танін голас:

— Няўдачнік я, няўдачнік, так? Вось вам, вось вам... Не тая я, што вы думалі. А заўтра яшчэ нацкую на вас наркаманаў...

— Што здарылася? Якіх наркаманаў? — са здзіўленнем і хваляваннем пытала Антаніна Фёдараўна, якая ўжо стаяла па гэты бок кастра. Канстанцін Сяр-

геевіч падбег да Міхаевіча, разглядаў сапсаваны магнітафон.

— Што здарылася? — паўтарыла настаўніца.

Усе маўчалі. І тады выйшлі Вадзім Цэхановіч і Максім Лобан.

— Так, учора мы бачылі наркаманаў,— пачаў Вадзім.— Мы хадзілі ў дуброву па ландышы і там натрапілі на іх. І стронга тут ні пры чым.

— Таня папярэдзіла нас, каб мы пра ўсё гэта маўчалі. Каб вы не ведалі. Бо яны, наркаманы, маўляў, могуць цікаўным адпомсціць. А сёння ты, Таня, сама, як тыя наркаманы... Ты сапсавала нам вечар, паход. Адкупіш магнітафон Сяргею, нідзе не дзенешся,— скончыў Максім.

Антаніна Фёдараўна толькі цяпер зразумела, у чым справа. Як жа так магло здарыцца? Толькі на хвіліну папусціся, дазволь крыху лішняе, дай паслабку (з Канстанцінам Сяргеевічам яны загутарыліся), і вось табе вынік. Што ж гэта за народ, сучасныя дзеці? І што яшчэ за наркаманы? Адкуль яны тут, сярод гэтай вабнай прыгажосці, дзівоснай прыроды?

— Хуценька па сваіх палатках!..— падала зычны голас Антаніна Фёдараўна.— А [illegible] Касмылёвай разбярэмся заўтра...

Ідучы да палатак, Антаніна Фёдараўна і Канстанцін Сяргеевіч абмяркоўвалі гэты інцыдэнт. Канстанцін Сяргеевіч хутка і зусім перайшоў на інтрыгуючую тэму, тэму наркаманаў. Сказаў, што абавязкова трэба заўтра пацікавіцца гэтай дубровай і, калі што, заявіць у міліцыю.

Так назаўтра і зрабілі. Канстанцін Сяргеевіч з сынам, Максімам Лобанам і яшчэ некалькімі хлапчукамі пайшлі ў дубовы гай. Але там нікога не ўбачылі. Толькі на месцы, дзе ляжалі наркаманы, былі змятая трава, ландышы і валяліся абрыўкі паперы.

Таня Касмылёва папрасіла прабачэння ва ўсіх за

ўчарашнюю выхадку, паабяцала Сяргею Міхаевічу адкупіць магнітафон. Якое яшчэ пакаранне Тані можна было прыдумаць, калі навучальны год скончыўся і наперадзе былі летнія канікулы?

* * *

## З ДОПЫТУ Ў СЛЕДЧАГА

— Таня, ты ў сваім дзённіку запісала: «Вадзім будзе мой! Хай Рагозіна ваюе на агульным школьным фронце (чула, што змагаецца яна за «маму Тоню»). Там праблемы вечныя, нас не хвалююць... Асабістае шчасце даражэйшае. Неабходна падключыць Ціма і Спейса...» У якім гэта класе было? Даты ты не паставіла на гэты раз...

— У якім? Здаецца, пасля шостага... Так, пасля шостага, перад тым, як Вадзім пайшоў ад нас у сёмы «С». Тое лета мы з Вадзімам цудоўна правялі ў піянерлагеры...

## 10

Як і абяцаў Канстанцін Сяргеевіч Цэхановіч, Таня Касмылёва трапіла разам з Вадзімам у піянерскі лагер «Зялёны гай». Праўда, толькі праз год, калі не сталі прыязджаць сюды чарнобыльскія дзеці. Цэхановіч дапамог Касмылёвым з пуцёўкай, а Маргарыта Іосіфаўна ў сваю чаргу прапанавала жонцы Канстанціна Сяргеевіча модную фінскую сукенку. Усе былі задаволены.

Комплекс «Зялёны гай» размяшчаўся ў лесе паміж шашой і чыгункай і быў абгароджаны сеткай. Зводдаль віднеўся ўзгорак з будынінамі, вакол якога раслі сосны, елкі, бярозы і нават стаяў старасвецкі дуб з чорным дуплом. На гэтым узгорку былі дачы работнікаў завода ЭВМ. Стаяла тут і дача Цэхановічаў: домік з дошак,

раздзелены на два пакоі. Канстанцін Сяргеевіч прыязджаў сюды летам, звычайна кожныя выхадныя. Жонка — не заўсёды. У яе субота і нядзеля часта былі занятыя: вадзіла экскурсіі.

Як толькі прыехалі ў піянерскі лагер і вылезлі з аўтобусаў, хлапчукі і дзяўчынкі разам з важатымі накіраваліся ў пакой рэгістрацыі. Па дарозе Вадзіма Цэхановіча, які ішоў наперадзе, дагналі Таня Касмылёва і незнаёмы Вадзіму хлопец. Гэта быў Арцём Андронаў, сын намесніка генеральнага дырэктара завода, той самы Арцём па клічцы Цім, які ўпершыню прывёў Таню ў «бункер» каманды «Рэтс». Вадзімаў і Цімаў бацькі, як выявілася, працавалі на адным заводзе. Цім, як і Вадзім, прыехаў адпачываць у лагер. Дагэтуль хлопцам пазнаёміцца не давялося. Цім вучыўся ў іншай школе.

А вось што Таня і Цім былі зараз разам — невыпадкова. На апошняй сустрэчы ў «бункеры» ў маі, перад самымі канікуламі, Таня і Цім адзін ад аднаго даведаліся, што едуць у чэрвені ў піянерскі лагер «Зялёны гай».

І тут у Тані выспеў план, які яна па дарозе з «бункера» дамоў выклала Ціму.

— Ёсць у мяне адзін знаёмы кадр, аднакласнік. Ён таксама едзе ў чэрвені ў «Зялёны гай»...— памаўчала, потым дадала: — Цім, міленькі, прашу цябе, дапамажы мне. Паспрабуй пасяліцца з ім у адным пакоі. Падабаецца ён мне, і ўсё...— прызналася Таня.

— А я табе — не? — скрывіўся ва ўсмешцы Цім і абняў Таню за плечы.

— Ты — леташні снег ужо...— адпіхнула Ціма.— Не крыўдуй... Нам патрэбны ў нашай камандзе новенькія. Разумееш? А такія, як ён, не валяюцца...

— Як завуць яго?

— Вадзім.

— Будзе зроблена. Мой бацька прасіў начальніка

лагера пасяліць мяне ў двухмесным пакоі ў галоўным корпусе. Вось і будзем там з тваім Вадзікам. Як чувак?

— Во! — паказала вялікі палец Таня.— Спартсмен, барэц, займаецца ў ДЮСШ.

— Бачылі мы гэтых спартсменаў геніяльных...— Цім скочыў праз лужыну, якая засталася ад дажджу.— Вось такія цяпер спартсмены,— паказаў на лужыну, якую ён толькі што пераскочыў.— Зробім Вадзіма нашым, звычайным... А яго барцоўская сіла нам спатрэбіцца ў бойцы [illegible] варожымі тусоўкамі.

Цім і Вадзім пасля знаёмства сядзелі ў двухмесным пакоі, пра які гаварыў Тані Андронаў. Андронавым ён назваўся там, на вуліцы. Цяпер удакладняў:

— Заві мяне — Цім. Так прасцей.

— А чаму Цім? — не зразумеў Вадзім.

— Цімам мяне клічуць у камандзе «Рэтс».

— Што за каманда?

— Тусоўка, якіх шмат у горадзе. А ты што, не быў ні ў адной камандзе?

— У мяне мала знаёмых у мікрараёне. Я ўвесь час на трэніроўках, на дыване...

— Якая ў цябе вуліца?

— Металістаў.

— Ух ты! На суперсучаснай вуліцы жывеш,— усклікнуў Цім.— А я — на Артылерыстаў... Дарэчы, як ты ставішся да «хэві-метала»?

— Выключна! Спачатку, праўда, любіў «дыска». Стварыў разам з Максімам Лобанам нават свой «Модэрн токінг-2». Цяпер «хэві-метал» — мая страсць.

— Дык ты свой хлопец! У дошку! Ты павінен пазнаёміцца са Спейсам-Лысым. Гэта мы так у камандзе завём Аліка Зубанава. Спейс, думаю, ясна. Есць такі рок-гурт. А Лысым мы празвалі яго таму, што часта голіць галаву. Сусед мой па пад'ездзе.

— У якім ён класе вучыцца?

— Ен ужо не школьнік. Першы год займаецца ў

ПТВ. Вучыцца на слесара. Абяцаў прыехаць сюды, да мяне. Пазнаёмлю цябе абавязкова. Без «метала» не можа жыць,— Цім крыху памаўчаў, нібы нешта ўспамінаў.— Памятаеш, можа, гарадское шэсце «металістаў» — ад вакзала да паштамта?

— Дык гэта ж летась восенню было...

— Во-во, і ўспомніў... Міліцыя разганяла тады нашых. Спейс ішоў уперадзе. Калі пачалі махаць дубінкамі, хапаць, Лысы не разгубіўся: шуснуў паміж ног у лягавага, заскочыў у магазін «Адзенне» і выскачыў праз чорны ход. А яго доўга шукалі ў магазіне, абмацвалі кожнае паліто — думалі, пад імі схаваўся,— зайшоўся ад смеху Цім.

Вадзіму Цім пачынаў падабацца: палец у рот яму не кладзі — адкусіць. А значыць, з такімі звычайна заўсёды весела.

— А як «металісты» падтрымалі «зэкаў», якія паднялі бунт на маторным заводзе? Не чуў? — Цім зноў заінтрыгоўваў Вадзіма.

У гэты момант у пакой без стуку ўскочыла, як сарна, Таня. Каротка падстрыжаная — пад хлапчука,— валасы спераду збэрсаныя, выфарбаваныя ў невядома які колер, у народзе кажуць, шэра-бура-малінавы, у джынсах-«варонках», у майцы з адбіткам папулярнай спявачкі Сандры, у белых красоўках фірмы «Адзідас».

У адным пакоі з Таняй жылі яшчэ тры дзяўчынкі — равесніцы Касмылёвай: Каця, Алена, Іра. Таня пазнаёміла з імі Вадзіма і Ціма. Так, для блізіру. А сама выношвала адну думку: ні ў якім разе не страціць Вадзіма. Што з таго, што за ім па пятах ходзіць Рагозіна. Праўда, вось цяпер, у чэрвені, Вадзім усё-ткі ўцёк ад яе: ён прыехаў сюды, у «Зялёны гай», а яна паехала з мамай у Трускавец.

У лагеры Таня ўсюды хадзіла з Вадзімам: у сталовую — разам, на пляцоўку — разам, на дыскатэку — таксама. Цім пасябраваў з Кацяй. І хоць тут, у лагеры,

усе жывуць адной сям'ёй, праводзяць разам культурныя мерапрыемствы, усё ж сяброўскія групкі існавалі. Іх можна было бачыць то ў адным, то ў другім месцы. Гэтак жылі і Вадзім, Таня, Цім, Каця.

Аднойчы адвячоркам яны сядзелі на лаўцы-арэлях, якая была каля самага гаю, пад трыма тоўстымі бярозамі. Вецце дрэў накрывала лаўку, нібыта шацёр. І таму той, хто сядзеў там, быў незаўважны. Гэтае месца аблюбавалі сябры і не пускалі туды нікога.

Цім дастаў з кішэні цыгарэты «Арбіта». Ён курыў даўно, ці не з трэцяга класа. Хаваючыся, употайкі, як у школе, так і дома. Тут, у лагеры, была вольніца. Забег за дрэва — і куры.

— Прашу...— Цім прапанаваў кожнаму па цыгарэціне.— Можа, некаторыя яшчэ і не спрабавалі... Эх вы, шчыглікі!

Тані гэты Цімаў «форс» не тычыўся: першы раз яна закурыла яшчэ ў пачатковых класах. Украла ў бацькі цыгарэту і зацягнулася дымам. Помніцца, ёй тады стала дрэнна: закружылася галава, ледзь не званітавала. А пасля Таня не раз курыла, у тым жа «бункеры», вечарамі на двары, каля дома, у школьным туалеце.

— Зацягнемся, пакуль не пагналі нас адсюль важатыя,— Таня прыкурыла ад Цімавай цыгарэты. За ёй закурыла Каця. Адзін толькі Вадзім не адважваўся.

— Што ты, Вадзік, муляешся? — заўважыла яго нерашучасць Таня.— Глядзі, як я...— і запыхкала цыгарэтай.

— Адбіваешся ад кампаніі, фраер...— зацягнуўся Цім.

— Ды не! Проста непрыемны цыгарэтны дым. Не магу...— пачаў аднеквацца Вадзім.— Я ж займаюся спортам. Барацьбой. А там, калі курыш, доўга не пратрымаешся на дыване...

— Хто не курыць і не п'е — той здаровенькі памрэ,— пускаючы дым з рота, прагугнявіў вядомы

афарызм блатных Цім.— Адна цыгарэта не перашкодзіць тваёй барацьбе. Так што не ламайся,— працягнуў «арбіціну» Вадзіму Цім.

Вадзім нарэшце ўзяў цыгарэту. Прыкурыць дала, апярэдзіўшы ўсіх, Таня. Вадзім зацягнуўся і адразу закашляўся.

— Давай, давай, прывыкай...— паляпаў Вадзіму па плячы Цім.— Хутка не тое я табе прапаную...

— Што? — ледзь не ў адзін голас з павышанай цікаўнасцю выгукнулі Таня і Каця.

— Пакуль сакрэт, дзяўчаткі,— прыклаўшы палец да губ, ціха прамовіў Цім.— Вось прыедзе да мяне сябра, тады і ўведаеце.

Спейс-Лысы і сапраўды хутка прыехаў. Відаць, ён тут ужо не раз быў. Бо лёгка знайшоў «Зялёны гай», пакой, дзе жылі Вадзім і Цім.

Спейс меў выгляд такі, як і апісваў Цім. Голеная галава — босая, як казалі жартаўнікі,— здаецца, свяціла. Толькі струпы на макаўцы былі, як плямы на сонцы. Раскосыя вочы, позірк быў нейкі няўцямны, туманны, як праз ваду. Пры знаёмстве Вадзім звычайна пацiснуў Спейсу руку. Той таксама адказаў без эмоцый, спакойна паставіў спартыўную сумку, якую зняў з пляча, на канапу, сам плюхнуўся ў крэсла.

Лысы быў апрануты ў джынсавы касцюм, які стракацеў ад металічных заклёпак. Вадзіму спадабалася яго нязвычная экіпіроўка, якая адразу ж прыцягвала ўвагу.

Доўга расседжвацца ў пакоі Лысы не захацеў. Расшпіліў сумку, якую прынёс з сабой, дастаў касетны магнітафон і ўключыў замежны рок. Потым звярнуўся да Ціма:

— Усё абдумаў тут? Я наконт гэтага...— кінуў на сумку, з якой вытыркаўся нейкі загорнуты прадмет, формай падобны на літровы слоік. Вадзім яго заўважыў, калі Лысы даставаў магнітафон.

— Есць адно месцейка. У бярозавым гаі. Адразу ж за агароджай,— адказаў Цім.

— Ну, канспіратар! А раптам якая-небудзь камса забяжыць пад дрэва папырскаць.

— Не падумаў...

— Ды што мы сакрэтнічаем? Можа, і суседу раскажам? Як, надзейны? — Лысы падміргнуў Ціму, потым пільна паглядзеў на Вадзіма.

Вадзім пакуль не разумеў, пра што размова. Але пачаў здагадвацца.

— Вадзім,— звярнуўся Цім да Цэхановіча.— Памятаеш, калі мы вечарам курылі з Таняй і Кацяй, я намякнуў, што, калі прыедзе сябра, я пачастую вас нечым...

— Чаму не помню? Гэта ж было два дні назад...— павесялеў Вадзім, адчуваючы давер да сябе з боку хлопцаў.

— Дык вось, думаем, ты — хлопец наш! Адкрыем табе сакрэт. Толькі нікому ні гу-гу! Інакш...— Цім паглядзеў на Лысага, той кіўнуў галавой.— Паказвай, Алік.

Лысы палез у сумку і дастаў адтуль пакунак, разгарнуў паперу і паставіў на стол слоік з вадкасцю. Потым выняў рулончык з ватай і некалькі поліэтыленавых мяшочкаў.

— Зразумеў, што? — Лысы па-заліхвацку глянуў на Вадзіма.— Будзем лавіць кайф... Эйфарыя, чуў?

— А цыгарэты з...? — Цім асекся на слове.

— Цыгарэт няма. Дзік падвёў, не заспеў яго дома.

Вадзім зразумеў, што перад ім — таксікаманы, калі не горш. Ён чуў, што таксікаманы ўжываюць розныя клеі, аэразолі, ацэтон. А вось сам ніколі не бачыў. Таму зацікавіўся.

— Хутчэй думайце, хлопцы. Не агледзішся, як звечарэе,— падганяў Лысы.— А там важатыя спахопяцца...

Вадзім, калі пасяліўся разам з Цімам, расказваў пра

сябе і нават пахваліўся, што побач з піянерскім лагерам у іх стаіць дача. Гэта не забыў Цім. Дача яго бацькоў была ў іншым месцы. Цімава маці працавала ў Аграпроме, іх дача была ў яшчэ прыгажэйшым месцы, чым «Зялёны гай» — сярод цяністага бору, побач з возерам.

— Вадзім, а што, калі мы сходзім на вашу дачу? Яна ж тут побач,— спытаў Цім.

— А што, ідэя! — падхапіў Спейс.— Ёсць дача? — Лысы глядзеў Вадзіму ў вочы. Вадзім пацвердзіў.

— Вось толькі як улезці? Не ламаць жа дзверы і біць акно? — задумаўся Цім.

Вадзім ведаў, што бацька пакідае адзін ключ на дачы, другі — забірае дамоў. Пакідае на дачы на ўсякі выпадак. Прама з завода ён часцяком прыязджаў на дачу. Ключ клаў у адно месца: пад апошняй кроквай хлеўшка. Вадзім не аднойчы бачыў.

— Ёсць выхад...— прамовіў Вадзім.— Калі бацька ў апошні прыезд на дачу не забраў ключ, то я ведаю тую схованку.

— Ідзём тады і хутчэй,— прыспешваў Спейс.

— А як жа з дзяўчаткамі? Яны будуць шукаць нас...— спыніў імпэт Лысага Вадзім.

— Што яшчэ за дзяўчаткі? — павысіў голас Лысы.

— Ёсць тут Таня і Каця. Мы з імі сябруем,— удакладніў Цім.

— Якая Таня? Можа, Касмылёва? — наўздагад спытаў Спейс.

— Яна,— спакойна адказаў Цім.

— Ну, калі сябруеце, выдатна. Давайце і іх возьмем. З дзяўчаткамі весялей будзе. Вы ж самі ведаеце...— загігікаў Спейс.

— Таня і Каця жывуць у адным пакоі з Ірай і Аленай. Захопім адну з іх і табе, Спейс,—засмяяўся Цім.

Але Іра і Алена ад прапановы адмовіліся. А Таня і Каця згадзіліся пайсці без усялякага пярэчання,

нават з радасцю. Няважна, што хлопцы не сказалі, куды.

Праз хвілін пятнаццаць кампанія была каля дачы Цэхановічаў. Яна стаяла апошняй на дачнай вуліцы Сонечная, каля самай агароджы. Над ёй навісалі сосны і бярозы.

За невялікай хатай, пафарбаванай у сіні колер, быў лапік зямлі, тут расла розная зяляніна, па баках — кусты парэчак, малін, некалькі сліў. Пры хлевушку стаяў парнік, накрыты поліэтыленавай плёнкай. Туды і пайшоў Вадзім. Хлопцы і дзяўчынкі засталіся на панадворку, зыркалі па баках: ці няма тут суседзяў. Не, суседзяў не было відаць. Ціха. Дзень будні, усе на працы ў горадзе.

— Есць! — выгукнуў Вадзім і паказаў доўгі таўставаты ключ, які дастаў з-пад крокввы.— Заходзьце! — адамкнуўшы дзверы веранды, запрасіў ён сяброў.

Сябры адзін за адным увайшлі ў пярэдні пакой. Вадзім расчыніў філянковыя дзверы ў адзін і другі спальныя пакоі.

— Нішто сабе жывяце! — пахваліў Лысы і скінуў сумку з пляча, паставіў на старое крэсла. Дзяўчынкі селі каля стала, Цім хадзіў па пакоях, разглядаў. Вадзім падышоў да тэлевізара, які стаяў у куце левага пакоя, хацеў уключыць.

— Не трэба,— сказаў Лысы.—У нас свая скрынка,— дастаў з сумкі, паставіў на стол магнітафон, пстрыкнуў клавішам — палілася музыка.

Усе адразу павесялелі. Таня і Каця, седзячы на крэсле нават пачалі ў такт музыцы рытмічна дрыгацца.

Лысы паклікаў да сябе Вадзіма і Ціма, нешта шапнуў і дастаў з сумкі ўсё, што было ў ёй.

— Дзяўчаткі, не хвалюйцеся! — папярэдзіў Таню і Кацю Лысы.— Вы будзеце ўдзельнікамі нашага мерапрыемства. Хвіліначку цярпення... Хто першы, самы смелы?

— Я! — выгукнуў Цім.

— Што ты храбрэц — мы гэта ведаем. Лепш паахвяруй дзеля Каці. Хто?

— Мы з Вадзікам...— прамовіла Таня, паглядзела на Вадзіма. Яна ўжо спрабавала гэты кайф у «бункеры».

Вадзім крыху сумеўся: усё-ткі гэта ўпершыню. Страшнавата. Але ж Цім, Таня не баяцца. Тады і яму можна паспрабаваць. Ён толькі пацікавіўся:

— А што са мной будзе?

— Пабачыш... Не, хутчэй адчуеш... Гэтае мерапрыемства не любіць тлумачэння. Трэба самому паспытаць,— падбадзёрваў Лысы.

Праз некаторы час «відовішча» пачалося. Таня і Вадзім спачатку задрыгалі нагамі. Потым пачалі павольна ўзмахваць рукамі, нібыта крыламі вялікая птушка. Нешта мармыталі, ненатуральна круцілі галовамі, вырочвалі вочы...

— Палёт пачаўся...— каменціравалі Спейс з Цімам.— Шчаслівага палёту!

Тое ж самае, што з Вадзімам і Таняй, адбывалася і з Кацяй.

— Ідзі да сваёй напарніцы, каб ёй не было сумна,— сказаў Лысы Ціму.— А я тут, на табурэтках у прыхожай... Хутчэй, хутчэй!

Сеанс «відовішча», ці «палёт», як называлі Лысы з Цімам, скончыўся не хутка. Калі «апусціліся» на зямлю, было ўжо вельмі позна. На небе высыпалі буйныя зоркі, а дачу ахутала чорная цемра. Вырашылі не ісці ў піянерскі лагер — адбой там даўно прагучаў,— а правесці ноч тут, на дачы. Іншага выхаду не было...

Ранкам Вадзім, Таня, Цім і Каця прыйшлі ў піянерскі лагер, а Спейс-Лысы падаўся на электрычку. Па дарозе прыдумалі версію: збіралі ягады — заблудзіліся, блукалі ўсю ноч па лесе...

Пасля гэтага Таня зрабіла запіс у сваім дзённіку:

«Я сягнула надта далёка пасля «палётаў» на дачы Цэхановічаў. Я авалодала вялікаю тайнаю і трапіла ў зусім іншае жыццё... Спейса і Ціма — забыць, забыць! Цьфу-цьфу!! А Вадзім цяпер — мой! Мой!! Мой!!! У нас з ім тайна вечная! А калі што — то раскрыю наш сакрэт Рагозінай, а яшчэ магу падаць заяву ў міліцыю за групавое згвалтаванне. Аб гэтым я папярэдзіла Вадзіма...»

## 11

— Антаніна Фёдараўна, мы ідзём прасіць дырэктара, каб вы былі класным кіраўніком нашага сёмага «С» і выкладалі ў нас матэматыку...— на прыступках лесвіцы, якая вяла на першы паверх, дзе быў кабінет Ангеліны Мікалаеўны, стаяла Вераніка Рагозіна, а з ёю яшчэ з дзесятак вучняў.

Мірановіч, якая спяшалася ў настаўніцкую, пачуўшы словы Рагозінай, спынілася на лесвіцы.

— Што вы?! — здзівілася Антаніна Фёдараўна.— Не трэба... Вас не зразумеюць і вашу ініцыятыву. Я вас прашу...

— Чаму? — працягвала Вераніка.— Вы ж з матэматыкаў адна з самых вопытных у школе. Вас любяць вучні ўсіх класаў, у якіх вы выкладаеце. Вы па-сучаснаму праводзіце ўрокі. Каму, як не вам, выкладаць матэматыку ў спецыялізаваным матэматычным і быць яго класным кіраўніком? — настойвала яна.

— Вераніка, не пойдзе на гэта Ангеліна Мікалаеўна,— Мірановіч сумна ўсміхнулася і пачала ўздымацца па прыступках.

Група вучняў сёмага «С» на чале з Веранікай Рагозінай усё-ткі пайшла да дырэктара. У прыёмнай сакратарка затрымала, спытала:

— Куды?

— Нам трэба да дырэктара...

— Хвіліначку. Зараз спытаю ў Ангеліны Міка-

лаеўны,— сакратарка знікла за дзвярыма дырэктарскага кабінета. Выйшла, кіўнула галавой: можна...

Вераніка ўвайшла першай. За ёю — астатнія. Ангеліна Мікалаеўна ўзняла галаву ад стала — нешта пісала.

— Што здарылася? — дырэктар спытала так, цвёрда, уладна, як пытала яна ў настаўнікаў, у якіх адбылася нейкая непрыемнасць. Гаварыла яна з прыціскам на галоўным слове ў сказе, па складах, павольна. Твар яе быў заўсёды загарэлы. Кожнае лета Ангеліна Мікалаеўна адпачывала на Чорным моры, і загар не паспяваў да канца сысці за зіму. Вочы невялікія, карыя, здаецца, не міргалі. Гэтак жа яны глядзелі зараз на вучняў, якія стаялі ў яе кабінеце і пераміналіся з нагі на нагу.

— Дык што здарылася, пытаю?

— Ангеліна Мікалаеўна,— пачала Вераніка,— у нашым сёмым «С» няма класнага кіраўніка... Час ідзе...

— Ці-ка-ва...— перабіла Рагозіну дырэктар.— А што я вамі кірую, дык гэта нічога не значыць? Я, здаецца, дырэктар, да таго ж яшчэ і матэматык. Вам недастаткова, што ў вашым класе я амаль кожны дзень бываю? — Ангеліна Мікалаеўна памаўчала, потым дадала: — А класнага кіраўніка мы падбіраем... Хутка будзе...

Дырэктар сапраўды была па спецыяльнасці матэматык. І калі на педсавеце зайшла размова, які чарговы спецыялізаваны клас адкрыць у школе — адзін ужо быў: спартыўны,— думка Ангеліны Мікалаеўны была рашаючай. Новы спецыялізаваны клас — толькі матэматычны. Довад, матывіроўка дырэктара былі простыя: час сёння за тэхнікай, кібернетыкай, электронікай. Пра які клас яшчэ гаварыць? Гуманітарны? Гуманітарнымі прадметамі і так можна выдатна авалодаць. Варта толькі шмат чытаць кніг: мастацкіх, па гісторыі...

На педсавеце наконт новага спецыялізаванага класа былі і іншыя меркаванні, нават разгарэліся спрэчкі. Філолагі даводзілі, што неабходна адкрыць клас з паглыбленым вывучэннем мовы і літаратуры, гісторыкі стаялі за свой прадмет. Довад выкладчыцы беларускай мовы і літаратуры Александрыны Іванаўны Варановіч быў ці не самы важкі. Яна пачала на высокай ноце:

— Дарагія калегі, паслухайце... Калі ў вашай душы засталася хоць кропля павагі да нацыянальнага, роднага, калі не забылі родную мову, я прашу вас падтрымаць маю прапанову: стварыць спецыялізаваны клас беларускай мовы і літаратуры. Гэта проста наш абавязак, пакуль яшчэ не позна... Вы ж самі бачыце, як нам цяжка сёння працаваць у школе. Усяго тры гадзіны ў тыдзень даецца на наш прадмет. Беларуская мова не ў пашане. Вучыць яе школьнікі не хочуць. А ў спецыялізаваным класе можна будзе па-новаму пабудаваць сваю работу, выпрацаваць методыку. Усё будзе залежаць ад нас, настаўнікаў. І я думаю, вучні за намі пойдуць...

— Ну, ну, и как это вы сможете? — падала голас з кута дырэктарскага кабінета выкладчыца матэматыкі Алена Кузьмінічна Тумеля.

— Як зможам? Мне здаецца, хто сёння сочыць за рухам адраджэння беларускай мовы, хто чытае прэсу, слухае радыё і глядзіць тэлебачанне, таму зразумела, што і як трэба рабіць.

— Да вы, может, тоже хотите создать из класса такую же «суполку», как «Паходня» в городе, которая вся пропитана национализмом?

— Навошта ж так, Алена Кузьмінічна? — спакойна сказала Варановіч.— Я ведаю, што і вы нарадзіліся ў вёсцы. Здаецца, у Брэсцкай вобласці... І вы не забылі яшчэ свайго роднага...

— Нет, белорусский язык я давно забыла и не хочу

вспоминать о нем...— Тумеля гарачылася.—Не тяните, прошу вас, в нашу школу его. А то я слышала, некоторые хотят: сначала перевести на белорусский язык все гуманитарные факультуты вузов, а также некоторые городские школы, а затем взяться за всех нас...

— Ну, што ж тут дрэннага? — спрабавала перакануць Барановіч настаўніцу матэматыкі.— Што мы становімся нарэшце сапраўдным народам? Ці вы хочаце, каб мы і далей не мелі гонару свайго, сароміліся вымавіць на вуліцах гарадоў роднае слова? Можа, вам нагадаць цытаты класікаў наконт нацыянальных моў? Неяк няёмка напамінаць вам, педагогу з дваццаціпяцігадовым стажам...

— А вы не считайте мои годы,— распалялася Алена Кузьмінічна.— Вы мне в дочери годитесь. Нахватались на своем филфаке этой национальной заразы. Хотите и всех нас заразить. Не удастся... Вы бы лучше на образцах литературы воспитанием учеников занялись. Пускай и на русском языке отвечают белорускую литературу, как это было еще недавно,— какая разница. Лишь бы хорошими людьми росли. А то столько в последнее время разных ЧП в школах...

Антаніна Фёдараўна сядзела ля сцяны і як ні старалася прыцiскацца спiной да яе — нервы былі напружаны,— усё ж не вытрымала, устала і прамовіла:

— Я выкладчыца матэматыкі, Алена Кузьмінічна. Вы ведаеце... І па вашай логіцы, я павінна была б думаць так, як і вы. Але я з вамі катэгарычна не згодна. Я вырасла ў вёсцы. Канчала сельскую школу з беларускай мовай навучання. Мы ведалі ўсе прадметы аднолькава. Нам не было розніцы — гэта ўрок беларускай мовы ці матэматыкі. Кожны ўрок мы адказвалі на роднай мове. З нас раслі патрыёты свайго краю.

Хто зараз нашы вучні, асабліва ў гарадах? У іх душы няма таго адчування вялікай прыналежнасці да народа, які завецца беларускім. Яны жывуць, нібы ў

вакууме. Раўнадушныя да нацыянальных патрэб. Адсюль, паважаная Алена Кузьмінічна, усе беды ў школе: ім, накормленым, сытым, апранутым, нават распешчаным, адно ў галаве — вызначыцца любым іншым спосабам, толькі не вучобай. Часта — гэта шлях парушэнняў закона. І да... лямпачкі,— тут Антаніна Фёдараўна ледзь не папярхнулася, мусіць, цяжка было вымавіць на педсавеце гэтае слова,— як кажуць цяпер многія вучні, ім тыя «образцы», героі літаратуры. Яны жывуць у сваім асяродку, як смоўж у сваім доміку. Часцей за ўсё гэты асяродак — рок-музыка. І цяжка, бывае, яго зрушыць...

Тумеля круцілася на крэсле, спрабавала некалькі разоў перабіць Антаніну Фёдараўну, але настаўніцы-суседкі стрымлівалі, дый Ангеліна Мікалаеўна, якая вяла педсавет, давала магчымасць выказацца выступаючаму. Але вось і дырэктар не вытрымала, пастукала алоўкам па графіне з вадой, уладна загаварыла:

— Давайце не будзем разводзіць дэбаты. Не тая тэма... Канешне, Антаніна Фёдараўна прыгожа, нават артыстычна гаварыла, але...— Ангеліна Мікалаеўна запнулася, крыху памаўчала.— Нам патрэбен іменна матэматычны спецыялізаваны клас. У нас матэматычныя класы з выдатным абсталяваннем. Да таго ж шэфы нашы — з радыётэхнічнага інстытута, артылерыйскага вучылішча. Яны шмат у чым дапамогуць.

Так было вырашана стварыць у школе яшчэ адзін спецыялізаваны клас — матэматычны.

...Пасля таго як Ангеліна Мікалаеўна сказала: «А класнага кіраўніка мы падбіраем. Хутка будзе...» — Вераніка не вытрымала:

— Доўга падбіраеце. Канчаецца верасень, а мы — як непрыкаяныя...

— А што вы хацелі? Матэматычны клас было вырашана адкрыць толькі ў пачатку новага навучальнага года. Не так лёгка можа класны кіраўнік пакінуць свой клас, з якім парадніўся...

— Чаму? — не здавалася Вераніка.— Есць такая кандыдатура... Мы ўжо гаварылі... З ёю...

— З кім?! — здзівілася Ангеліна Мікалаеўна.

— З Антанінай Фёдараўнай... Яна не супраць... І не толькі стаць кіраўніком класа, але і выкладаць у нас матэматыку. Выдатны матэматык! Яна не толькі цудоўна выкладала, але і шмат цікавага расказвала...

— Пра Лабачэўскага, па падручніку якога вучыліся дзеці яшчэ ў гімназіях...

— Пра геніяльнага Галуа...

— Яна нас пазнаёміла з сучаснымі сістэмамі выкладання і выхавання ў школах Аманашвілі, Шаталава, Шчацініна...

Гэта падтрымалі Вераніку вучні, якія стаялі з ёю побач.

— І класны кіраўнік яна выдатны,— працягвала Вераніка.— Што мы толькі не здзейснілі з ёю ў чацвёртым, пятым, шостым класах, дзе толькі не пабылі! На алімпіядах, выстаўках, у тэатрах, кіно, на стадыёне... А якая была летам паездка ў Брэсцкую крэпасць!

— Вось-вось...— шматзначна сказала Ангеліна Мікалаеўна.— А двоечнікаў па матэматыцы ў класах, у якіх яна выкладае, не меншае.

— Таму што яна справядлівая,— Вераніку было не пазнаць: яна, не зводзячы вачэй з дырэктара, гаварыла тое, пра што добра ведала Ангеліна Мікалаеўна.— Ставіць тую адзнаку, якую заслужыў. А ў нас у школе прывыклі нацягваць троечку. Мы гэта бачым кожны дзень, так робіцца амаль па ўсіх прадметах... Для чаго гэта робіцца? Для справаздачы перад РАНА?

— Рагозіна, вы не туды сягаеце. Гэта не ваша, а наша справа,— з прыціскам на слова «наша» сказала Ангеліна Мікалаеўна і пільна паглядзела Вераніцы ў вочы. Маўляў, хопіць, маладзенькая яшчэ.

Але Вераніка не збянтэжылася і працягвала:

— Значыць, вы супраць Антаніны Фёдараўны? Тады наш сёмы «С» патрабуе, каб былі праведзены выбары класнага кіраўніка адкрытым галасаваннем. Цяпер такое практыкуецца. Нават настаўнікаў-прадметнікаў, я чула і чытала, вучні выбіраюць галасаваннем.

Ангеліну Мікалаеўну пасля гэтых Веранічыных слоў нібы ўдарыла токам: што робіцца — вучні ставяць дырэктару ультыматум. Такое яшчэ да нядаўняга часу і прыдумаць было нельга.

— Я вас прашу не ўмешвацца ў нашы справы. Ваша справа — добра вучыцца. І пакіньце, калі ласка, мой кабінет! — сказала як адрэзала дырэктар.

Вераніка павярнулася да групы вучняў, прамовіла:

— Пайшлі...

З засмучанымі тварамі хлапчукі і дзяўчынкі выйшлі з кабінета дырэктара.

Ангеліна Мікалаеўна доўга яшчэ сядзела ў роздуме за сваім дырэктарскім сталом, не магла заспакоіцца. «Адкуль такія думкі ў сямікласніцы? Адкуль такая смеласць?» Пачала ўспамінаць, хто яе бацькі? А ці ўспомніш тут, калі ў школе каля трох тысяч вучняў. «Рагозіна? Вераніка Рагозіна? Выдатніца...» Колькі гэтых выдатніц было за яе дырэктарства! Так, гэта яе мама — як жа яе завуць? — здаецца, Вера Іванаўна, прыходзіла ў чэрвені прасіць, каб перанеслі Веранікі летнюю практыку на ліпень. Бо ў іх на чэрвень — пуцёўка. Помніцца, спытала ў Веры Іванаўны, дзе яна працуе? «На тэлебачанні...» — адказала тая.

Успомніла, як выступаў па тэлебачанні міністр народнай адукацыі. Яна глядзела гэтую перадачу. Міністр гаварыў, што буксуе школьная рэформа, мала руху наперад. Інертная яшчэ большасць педагогаў. Працуюць па-старому. А як ты запрацуеш адразу пановаму? Што, добраахвотна аддаць свае дырэктарскія правы тым жа Рагозіным? Так можна дайсці да таго, што ты, дырэктар,— пустое месца.

«Хвілінку, а хто ж тады бацька Рагозінай? Ні разу не чула пра яго...»

Ангеліна Мікалаеўна вырашыла дастаць асабістую справу Веранікі і паглядзець. Выняла з шафы, дзе ляжалі ўсе папкі, заведзеныя на вучняў школы. Разгарнула, знайшла графу, дзе стаяла прозвішча бацькі Рагозінай. Там быў запіс: «Бацька Сяргей Нічыпаравіч загінуў у авіякатастрофе...»

* * *

## З РАЗМОВЫ, ЯКУЮ ВЕЎ СЛЕДЧЫ

— Антаніна Фёдараўна, якія ўзаемаадносіны былі ў вашым былым сёмым «Е» класе паміж самімі вучнямі, вучнямі і настаўнікамі?

— Узаемаадносіны паміж вучнямі, здаецца, гэткія ж былі, як і ў кожным класе. Хоць мой клас, як вядома, быў адзін з цяжкіх у школе. Але я імкнулася згуртаваць вучняў...

— А адносіны паміж вучнямі і настаўнікамі?

— Тут складана... Скаргаў з боку «прадметнікаў» было хоць адбаўляй...

— А з Таняй Касмылёвай былі інцыдэнты ў настаўнікаў, асабіста ў вас?

— Былі... І не раз...

— Вось запіс у дзённіку Касмылёвай: «Бедная «мама Тоня», якія б ні былі паміж намі адносіны, я табе ўсё ж спачуваю. Ты адказваеш за ўсіх нашых істэрычак: «фізічак», «хімічак», «замежніц», якія скардзяцца на наш клас то завучу, то дырэктару. Жыві доўга!»

## 12

Антаніна Фёдараўна сядзела за сталом адна ў апусцелай настаўніцкай — у яе была «фортачка», астатнія выкладчыкі былі на ўроках.

Яна ўсё часцей і часцей пачынала аналізаваць свае пражытыя гады. Дома, рыхтуючы на кухні вячэру, на перапынках паміж урокамі, калі ўдавалася пабыць адной, ідучы ў школу, са школы. Набягалі ўспаміны, сціскалі сэрца — і быццам вярталіся даўнія перажыванні. Часам эмоцыі не магла стрымаць у душы, і тады яны выплёскваліся, нібыта хвалі на бераг, калі падзьме вецер. Старалася, як магла, глушыць іх у настаўніцкай, кабінетах дырэктара, яе намеснікаў. Па характару яна была ўраўнаважаная, але ў сучаснай школе вельмі лёгка «завесціся». Затое дома муж і сын не раз спачувальна слухалі яе «споведзі». Тут можна было даць і волю эмоцыям. Хто як не самыя блізкія, родныя людзі павінны яе разумець? І яны разумелі. Яны добра ведалі сучасную гарадскую школу, вучняў, якія ўсё больш і больш не хацелі, ленаваліся вучыцца. Адны паходы па кватэрах, дзе жылі двоечнікі, маглі даць матэрыял на цэлую кнігу ўспамінаў. Антаніна Фёдараўна хадзіла па кватэрах не адна, звычайна яе суправаджалі ці муж Анатоль, ці сын Алег.

Што ні клас — то абавязкова свая тайна, да якой неабходна падбіраць адпаведны ключык, што ні вучань — то загадка.

Успомніла, як яна стала класным кіраўніком у чацвёртым «Е». Тады, помніцца, яна заўважыла: сем чацвёртых класаў. Больш як паўтузіна. Яе — перадапошні клас. Што робіцца з гарадамі? Не школы — а дрэдноуты... А ў вёсцы — наадварот: няма кім запоўніць класы. Як у іх Цынцэвіцкай васьмігодцы...

Была неяк у маці дома, сустрэлася са школьнай сяб-

роўкай Аленай, якая выкладала ў пачатковых класах у мясцовай школе. Тая запрасіла яе на адзін са сваіх урокаў. Зайшла ў клас — тры рады па пяць партаў.

— Бачыш — якая «ідылія»? — пачала тлумачыць Алена.— Што ні рад — клас. Тры рады — тры класы: першы, другі, трэці...

— А чаму ў першым радзе вучні сядзяць за трыма партамі? Толькі шэсць першакласнікаў? — здзівілася Антаніна Фёдараўна.

— Так, тры дзяўчынкі і тры хлопчыкі. І гэтых набралі з трох вёсак — з нашых Цынцэвічаў і суседніх Вішнёўкі і Каржоў.

— Дык ты — як гувернантка,— пажартавала Антаніна Фёдараўна.— Вучні, напэўна, усе выдатнікі. Не тое, што ў маёй гарадской школе. Заблытаешся ў адным алфавіце: чацвёртыя «А», «Б», «В», «Г», «Д», «Е», «Ж»...

Жарты жартамі, але і ў горадзе, і ў вёсцы — ненармальнае становішча. У горадзе не хапае школ, вось чаму там столькі класаў-дублёраў, а ў вёсцы — не хапае вучняў і для аднаго класа. Уся пачатковая школа сядзіць у адным класе. Падумаеш — страшна робіцца!

Прыпомніліся шасцідзесятыя гады, калі Антаніна Фёдараўна канчала Грыбавіцкую адзінаццацігодку («узнагародзіў» лішнім класам Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў). У школе стваралі два дзевятыя класы. Да дваццаці трох вучняў, якія скончылі восем класаў Грыбавіцкай школы, далучылася пятнаццаць выпускнікоў з суседняй Цынцэвіцкай васьмігодкі. Для аднаго класа было зашмат вучняў, а для двух — малавата. Вось настаўнікі і хадзілі па хатах суседніх вёсак і ўгаворвалі тых, хто пасля васьмі класаў не пайшоў вучыцца далей, а часцей за ўсё пасвіў каровы ці проста дапамагаў бацькам па гаспадарцы.

Быў такі выпадак. У суседняй вёсцы Гараны жыў Сярожа Залесны. Сціплы, шчыры, з выгляду прыгожы

хлопец. Ён скончыў васьмігодку і вось ужо месяц пасвіў каровы. Цэлы верасень прайшоў, а ў дзевятыя класы Грыбавіцкай адзінаццацігодкі ўсё яшчэ набіралі вучняў. Аднойчы на поле, дзе Сярожа пасвіў каровы, прыехаў настаўнік геаграфіі Уладзімір Мікалаевіч Матросаў. «У цябе, я ведаю,— пачаў географ,— у пасведчанні за восем класаў — адны чацвёркі і пяцёркі. Чаму не пайшоў вучыцца далей?» — «Дома трэба дапамагаць. Бацька — калгаснік, маці хварэе... А за мной — яшчэ трое братоў і сястра».— «Пойдзеш у дзевяты клас...— ледзь не загадваючы, прамовіў Матросаў».— «Ды што вы? Я ўжо наняўся пастухом. Пасу дваццаць кароў. А гэта добры заробак. І што скажа маці?» — «З маці я ўжо размаўляў. А цяпер — з табой. Дык як?» — не адступаў Матросаў. «Не ведаю...» — адчувалася, Сярожа хацеў вучыцца. Але абставіны не дазвалялі. Ён быў выхаваны ў нястачы, і калі скончыў васьмігодку, лічыў, што ўжо можа быць памочнікам у сям'і.

Настаўнік геаграфіі тонка ўлавіў у гэтым «не ведаю» Сярожава жаданне і проста за руку павёў яго з поля. Так і пачаў вучыцца ў дзевятым класе Сяргей. Школа купіла яму падручнікі, сшыткі, нават школьную форму, абутак. І як вучыўся Сярожа! Пасля адзінаццацігодкі паступіў у політэхнічны інстытут. Цяпер, кажуць, адзін з вядучых канструктараў на аўтамабільным заводзе.

Цікавы лёс! Эх, каб сёння так вучыліся дзеці, пры ўсім дастатку! Не, няма таго жадання. Бывала, з'ясі бульбіну — і ідзеш у школу, сядзіш там шэсць гадзін, ды яшчэ стараешся адказваць урокі толькі на «4» і «5»...

Штосьці зрушылася ў душах у вучняў, нешта не тое адбываецца са школай. Што — каб ведаць? І тут жа выдаць рэцэпт. Можна, канешне, звярнуцца да педагогаў-класікаў — Макаранкі, Сухамлінскага, Корчака... Колькі разумнага і павучальнага ў іх выказваннях! Але як прымяніць усё гэта на практыцы? Ты можаш

днямі і начамі біцца, як аб сцяну, а цябе могуць не пачуць, не зразумець, ці не захацець зразумець. Вось што самае страшнае...

Ад набегу гэтых успамінаў Антаніна Фёдараўна ледзь не забылася, што знаходзіцца ў гарадской школе. Схамянулася. Дастала запісную кніжку, у якой фіксавала ўсе скаргі настаўнікаў-прадметнікаў на сёмы «Е». Чамусьці вельмі шмат нараканняў пасыпалася ў сёмым. Менавіта тады, калі быў створаны спецыялізаваны матэматычны клас — сёмы «С». Што ж, магчыма, адкрыццё гэтага класа парушыла еднасць, згуртаванасць вучняў, пайшлі лідэры класа Вераніка Рагозіна, Вадзім Цэхановіч, іншыя хлапчукі і дзяўчынкі, якія добра вучыліся, паводзілі сябе.

Антаніна Фёдараўна перачытвала старонку за старонкай, на якіх былі кароценькія запісы. Ад іх на душы станавілася непрыемна, горка, хоць ты ўцякай немаведама куды. Бо за гэтымі запісамі — сапсаваны настрой настаўнікаў, няякасна праведзеныя ўрокі, скаргі. А адказваць павінен хто? Яна, класны кіраўнік.

«У верасні «вызначыліся» Максім Лобан і Саша Каралёў: закрылі на ключ у кабінеце рускай мовы і літаратуры маладую практыкантку пяцікурсніцу Валянціну Андрэеўну Сокал...»

«Ах, гэты гумарыст Гарноська! 23 лістапада: намаляваў простым алоўкам на паперы «пляму», затым нацёр ёю руку — і з'явіўся сіняк... Сказаў выкладчыцы выяўленчага мастацтва Соф'і Францаўне, што ўпаў на ўроку фізкультуры, тая адпусціла яго ў медпункт, а ён тым часам ганяў мяч у двары суседняга дома і разбіў шыбу ў кватэры аднаго з жыхароў. 10 снежня: зноў Гарноська — абліў чырвоным чарнілам палец, нібыта парэзаў, і сышоў з урока англійскай мовы. Пасля хваліўся ўсяму класу, як ён падмануў Валянціну Сідараўну. 25 студзеня: не прыйшоў у вучэбна-вытворчы камбінат. Перадаў запіску ад «бацькоў», што ён хворы,

Юрам Бальшаковым, які яе і напісаў па просьбе Гарноські...»

«На ўроку беларускай мовы «камчаткаўцы» Антон Штанюк і Кірыл Прытко пад сталом гулялі ў карты...»

Усё часцей з'яўляецца прозвішча Касмылёвай. «На ўроку заалогіі, на якім ішла гаворка пра рыб, Таня Касмылёва задала выкладчыку Аўдзею Карпавічу пытанне, якое было з намёкам: «Рыбы — ясна: ікрой, а як, скажыце, размнажаюцца кактусы?»

Справа ў тым, што Аўдзея Карпавіча вучні празвалі «Кактусам» за яго калючы характар. Ён не любіў розных дзівацтваў вучняў, быў заўсёды строгі з імі і лічыў гэта правільным. «Не папускацца» — быў яго дэвіз. І не цярпеў ніякіх мянушак, якія мелі амаль усе настаўнікі ў школе. Аўдзей Карпавіч не разумеў географа Максіма Яўсеевіча, якога вучні звалі «Бублікам» (ён чуў гэта і ніколі не крыўдзіўся, наадварот, усміхаўся). Максім Яўсеевіч быў па натуры весельчаком. Калі хто ў класе правінавачваўся, ён звычайна паўтараў: «Ты што, бублік смешны з'еў раніцой?» Адсюль і пайшло сярод вучняў: «Бублік ідзе!», «Бублік двойку паставіў!». Мог Максім Яўсеевіч узяць дзённік у парушальніка дысцыпліны і напісаць насупраць свайго прадмета: «2. Агурок салёны», потым аддаць яго вучню і сказаць: «Ідзі, пакажы маме Тоні...» Усяго гэтага не прымаў Аўдзей Карпавіч. Лічыў такія ўзаемаадносіны паміж выкладчыкам і вучнем блюзнерствам, якое кампраметуе настаўніка.

У запісной кніжцы Антаніны Фёдараўны было занатавана: «Аўдзей Карпавіч без слоў, моўчкі моцна ўзяў за вуха Касмылёву, другой рукой два разы даў пстрычку ў лоб (гэта ён практыкаваў) і хацеў вывесці Таню з класа, але Касмылёва вырвалася і на хаду кінула: «Пайшоў ты ў адно месца, Кактус...»

«Касмылёва... Касмылёва... 5 лютага намазала спін-

ку настаўніцкага крэсла сілікатным клеем, ім выпацкалася выкладчыца гісторыі Зоя Міхайлаўна...»

А вось яшчэ запіс, вельмі дзіўны: «На ўроку рускай літаратуры ў час чытання па ролях «Рэвізора» Гогаля Таня Касмылёва заявіла, што будзе чытаць тады, калі Мая Міхайлаўна дасць ёй ролю Хлестакова. Але настаўніца дала ёй ролю дачкі Гараднічага. Таня стукнула дзвярыма і пабегла з урока...»

Антаніна Фёдараўна задумалася, чытаючы гэтыя радкі: «Цікава, чаму ролю Хлестакова? Дзяўчынка, і раптам захацела быць Хлестаковым?..»

Не, яна не магла ведаць: Таня толькі што стала прынцэсай тусоўкі «Рэтс». Ёй, відаць, хацелася адчуць сябе і тут вышэй за ўсіх, хацелася ўлады: хай баяцца, хай гнуцца перад Хлестаковым-Касмылёвай усе гэтыя Гараднічыя, Землянікі, Бобчынскія, Добчынскія — яе ж аднакласнікі.

Антаніна Фёдараўна паволі перагортвала даволі тоўстую запісную кніжку, якая стракацела ад яе ўбогага почырку. Нечакана яна спынілася на абзацы, які быў падкрэслены чырвоным алоўкам. «Інцыдэнт: Рагозіна — Касмылёва — Цэхановіч. Таня лінула ў твар Вераніцы кампотам у сталовай. Дала аплявуху Цэхановічу. За што?»

Гэтае пытанне «За што?», помніць, стала прычынай склікання нечарговага класнага сходу. Можна было правесці ў класе традыцыйны разбор, нават учыніць разнос Касмылёвай... Ды што з таго? Колькі падобных разносаў учынялася ў школе? А хуліганы ад гэтага не станавіліся лепшымі, наадварот, яны яшчэ больш затойвалі ў сабе злосць і на другі ж дзень імкнуліся адпомсціць.

Неабходна прыдумаць нешта іншае. Антаніна Фёдараўна ўспомніла, што ў сёмым класе па рускай літаратуры вывучаюць па пазакласнаму чытанню раман Этэль Ліліян Войніч «Авадзень». А гэтую цудоўную

кнігу яна добра запомніла са школьных гадоў. Есць там эпізод, калі Джэма незаслужана б'е па шчацэ Артура. Узяць яго, разгледзець. Папрасіла выкладчыцу рускай літаратуры Маю Міхайлаўну, каб усім вучням дала заданне прачытаць раман да класнага сходу. Запрасіла на сход Маю Міхайлаўну. Тая згадзілася. Расказала ёй пра інцыдэнт у сталовай, напомніла пра эпізод у рамане...

Вадзім і Вераніка таксама прыйшлі на сход.

— Дзеці, вы ўсе прачыталі раман Войніч «Авадзень»? — спытала Мая Міхайлаўна пасля таго як Антаніна Фёдараўна адкрыла сход і назвала яго тэму.

— Усе! — пачулася ў адказ.

— І Касмылёва?

— Я не чытала...

— Ну, што ж, Таня, пазнаю цябе. Застаецца табе толькі слухаць. Вы памятаеце той момант,— Мая Міхайлаўна звярнулася да ўсіх вучняў,— калі Джэма ўдарыла па шчацэ Артура? Ударыла незаслужана, думаючы, што Артур выдаў іх агульнага паплечніка па барацьбе Боллу. Вы помніце, як потым пакутавала Джэма. Яна думала, што з-за гэтага недарэчнага яе ўчынку, магчыма, утапіўся Артур. Як перажывала яна! Як перажывала!! Давайце зачытаем вось гэты ўрывак на старонцы сто сорак шэсць. Дайце кнігу Тані Касмылёвай. Калі ласка, Таня, пачытай вось гэты абзац,— падышла, паказала настаўніца рускай мовы і літаратуры.

Таня неахвотна пачала чытаць: «Усё яе юнацтва было атручана думкай аб тым учынку. Дзень за днём, год за годам мужна змагалася з дакорам сумлення. Яна не пераставала сцвярджаць сабе, што служыць будучаму, і старалася адмежавацца ад неадступнага прывіду мінулага. Але штодзень, штогод яе суправаджаў вобраз тапельца, якога несла ў мора, у сэрцы гучаў горкі ўсхліп, які яна не магла заглушыць: «Артур загінуў! Я за-

біла яго!» Часам ёй здавалася, што гэткае ярмо надта цяжкае для яе плячэй».

— А цяпер, Таня, раскажы,— гэта ўжо загаварыла Антаніна Фёдараўна,— пра свой учынак у сталовай...

Касмылёва хвіліну памаўчала, апусціўшы вочы. Відаць, абдумвала, як зманіць.

— Раскажы, раскажы, як было...— папрасіла Мая Міхайлаўна.

— Я піла кампот,— пачала Таня.— Вераніка праходзіла паміж сталоў і наўмысна штурхнула мяне пад локаць. Кампот разліўся мне на хвартух. Я не вытрымала і рэшткамі кампоту пырснула Рагозінай у твар. А тут аднекуль з'явіўся Вадзім, схапіў мяне за руку са шклянкай. Другой, вольнай рукой я незнарок ударыла яго па твары...

— Усё так было, Вераніка, Вадзім? — спытала Антаніна Фёдараўна.

— Не, не так...— запярэчыла Вераніка.— Я ішла паперадзе Вадзіма. Ён гарэзіў і ненаўмысна падштурхнуў мяне. Я зачапіла Таню, якая піла кампот. Кампот крышку разліўся на стол, астатнім Касмылёва лінула на мяне. Абліла мой хвартух, а не свой. І зусім невыпадкова,— Вераніка звярнулася да Касмылёвай,— ты ўдарыла Вадзіма. Што ты сказала перад гэтым, успомні? «Заступнічак знайшоўся...» І пляснула па твары... Так было, Вадзім? — Вераніка перавяла позірк на Цэхановіча.

Вадзім, зірнуўшы на Таню, амаль незаўважна кіўнуў галавой. Ён быў нібы паміж двух агнёў.

— Каму будзем верыць? — звярнулася да класа Мая Міхайлаўна.

— Рагозінай! Цэхановічу! — загучалі галасы.

— Ну, вось...— не здавалася Таня. Я адна. Таму мне можна і не верыць...

— Галоўнае нават не ў гэтым,— узнялася з-за стала Антаніна Фёдараўна, якая дагэтуль сядзела.—

Галоўнае, што ты зусім не перажываеш, не пакутуеш, як Джэма, за свой агідны ўчынак... Вось што самае страшнае. Няўжо цябе не мучыць сумленне, як мучыла яно Джэму? Ты незаслужана абразіла, як і Джэма. Але Джэма прызнала сваю памылку, а ты?

Касмылёва сядзела за сталом моўчкі, здавалася, яна нават не чуе, пра што гаворыць Антаніна Фёдараўна. Позірк яе лунаў недзе вельмі далёка. Яна разпораз задзірала галаву ў столь.

— Папрасі прабачэння ў Веранікі і Вадзіма,— сказала Антаніна Фёдараўна.

Таня нібы прачнулася, глянула ў бок Цэхановіча і Рагозінай. Адчувалася, ёй вельмі не хацелася гэтага рабіць, але каб не ўскладняць сітуацыю, урэшце, нібы гуляючы, выціснула:

— Прабачце...

Па класе прайшоў шумок:

— Пакаялася. Усё, пайшлі дамоў...

«Ну, што ж, інцыдэнт, можна сказаць, вычарпаны,— падумала Антаніна Фёдараўна.— Але ці выпадкова, што ў ім замешаны Вераніка, Таня, Вадзім?»

Як шмат чаго не ведала Антаніна Фёдараўна. А хіба ўсё будзеш ведаць пра сваіх вучняў?

## 13

Антаніну Фёдараўну выклікала дырэктар. Ангеліна Мікалаеўна сядзела ў сваім кабінеце і, як заўсёды, нешта пісала. Яе шырокі стол быў завалены паперамі, кнігамі, папкамі. Побач за прыстаўным маленькім столікам гартала нейкую кнігу намеснік дырэктара Лілія Міхайлаўна Сянчук.

Калі адчыніліся дзверы, Ангеліна Мікалаеўна ўзняла вочы і тут жа іх зноў апусціла. Так рабіла яна заўсёды, калі заходзілі настаўнікі, да якіх дырэктар не мела сімпатыі.

Мірановіч стаяла ў кабінеце з часопісам у руках.

— Сядайце...— глуха сказала Ангеліна Мікалаеўна пад нос, нібы сабе. Памаўчала. Скончыла пісаць. Падняла галаву.— Дык гэта вы накіравалі сваю групу да мяне? — глянула ў вочы.

— Якую групу, не разумею? — спакойна, хоць і са здзіўленнем спытала Антаніна Фёдараўна.

— Прыходзіла Рагозіна з групай вучняў прасіць, каб вы былі класнай у сёмым «С». Мала таго, каб яшчэ і выкладалі матэматыку ў ім...— чаканячы словы, прамовіла дырэктар.

— Ніякага дачынення я да гэтага не маю. Гэта яны самі.

— Нічога сабе — самі. Як да гэтага магла дадумацца дзяўчынка? Бач, яна мяне будзе вучыць, што і як мне рабіць? Такіх выпадкаў у мяне не было за ўсе дваццаць гадоў дырэктарства ў школе.

— Час такі, Ангеліна Мікалаеўна. Трэба спакойна да гэтага паставіцца,— Антаніна Фёдараўна круціла ў руках часопіс — хвалявалася, хоць і старалася гаварыць спакойна.

— У гэтай школе пакуль гаспадар я. Прашу не вучыць мяне...— дырэктар раптоўна апусціла галаву, змоўкла. Потым узняла вочы і задала новае пытанне: — Вы лепш скажыце, што вы там за эксперыменты праводзіце на ўроках? Лабачэўскі... Галуа... Сістэма Шаталава... Матэматычныя шоу... Вы ведаеце? — Ангеліна Мікалаеўна глянула на свайго намесніка.

— Каб нешта зусім недазволенае, то нельга сказаць. Цяпер усе спрабуюць эксперыментаваць, шукаюць...— уступіла ў размову Сянчук.— Але ўсё-ткі, Антаніна Фёдараўна, патрэбна ўзгадняць...— Лілія Міхайлаўна старалася не пакрыўдзіць ні дырэктара, ні Мірановіч.

Пра эксперыменты Антаніны Фёдараўны апошнім часам шмат гаварылі ў школе: быццам яна хоча, каб

вучні авалодалі матэматыкай пры дапамозе мастацкіх вобразаў, псіхалогіі, фізіялогіі.

Антаніна Фёдараўна шмат чытала спецыяльнай літаратуры. Яе захапіла тэорыя «правага і левага паўшар'яў мозга», якую вычытала ў артыкуле аднаго вучонага. Ёй было цікава даведацца, што правае паўшар'е аперыруе ў асноўным мастацкімі вобразамі, а левае — лагічнымі катэгорыямі. Адсюль і адрозненне паміж творцамі і выканаўцамі. І шчаслівы той, хто спалучае ў сабе і першае, і другое. Антаніне Фёдараўне сталі добра зразумелыя словы, сказаныя Альбертам Эйнштэйнам, што чытанне раманаў Дастаеўскага дапамагала яму ў навуковай рабоце больш, чым працы многіх вучоных. Вобразы, нібы гіпнатызёр, разнявольваюць фантазію, дапамагаюць рабіць адкрыцці. А Нільс Бор, які быў шырока эрудыраваным чалавекам, любіў мастацкую літаратуру, у працэсе рашэння задач нагадваў загіпнатызаванага чалавека...

Адным словам, вобразнае мысленне патрэбна людзям тэхнічных прафесій не менш, чым гуманітарных. Каб паскарацьразвіццё навукі і тэхнікі, неабходны рэвалюцыйныя ідэі, а лагічнае мысленне левага паўшар'я аперыруе толькі стэрэатыпамі. Затое вобразы ў правым паўшар'і могуць падказаць арыгінальныя рашэнні — трэба толькі перакласці іх на прывычную нам мову.

Вось за гэтую цікавую выснову і ўхапілася Антаніна Фёдараўна. Яна вадзіла вучняў свайго класа на выстаўкі твораў мастакоў, якія праходзілі ў горадзе: Язэпа Драздовіча, Аляксандра Ісачова, Ільі Глазунова, розных авангардыстаў. Слухалі як класічную, так і сучасную музыку. Бывалі на літаратурных вечарах. Той, хто наведваў урокі Міранові ч, адразу здзіўляўся. Здзівілася і Лілія Міхайлаўна, калі першы раз прыйшла на ўрок геаметрыі: на дошцы побач з напісанай новай тэмай «Прамавугольнік, ромб, квадрат» вісела

рэпрадукцыя карціны Казіміра Малевіча «Чорны квадрат». Урок Антаніна Фёдараўна пачала здалёк: яна спачатку расказала пра славутага віцебскага мастака, на доўгі час незаслужана забытага, потым перайшла да яго загадкавага «Чорнага квадрата», раскрыла сутнасць гэтай незвычайнай карціны. Аказваецца, квадрат — гэта цэлы космас, геаметрычная метамарфоза...

Усё гэта вучняў заінтрыгавала, прымусіла думаць.

Гэтак жа незвычайна было і на ўроку алгебры. Тэму Сянчук запомніла: «Паняцце алгарытму». Антаніна Фёдараўна спецыяльна да гэтай тэмы дала вучням заданне скласці дома красворды, чайнворды, шарады, рэбусы. Хто да чаго схільны. У класе кожны раз перад практыкаваннямі па тэме «Алгарытм» адбывалася «маленькае шоу»: ішло разгадванне складзеных вучнямі красвордаў, шарад... Маглі нават і ў сярэдзіне ці ў канцы ўрока дазволіць гэтую размінку. Многія гэтага не разумелі. У тым ліку і Ангеліна Мікалаеўна.

— Дык значыць, як мяркуе Рагозіна і яе група, толькі вы можаце ў сёмым «С» выкладаць матэматыку і быць там класным кіраўніком? Больш ніхто? — невядома было: дырэктар пытала ці сцвярджала.

— Гэта думка вучняў, Ангеліна Мікалаеўна, у каго мы ўсё жыццё заваёўваем давер, любоў, аўтарытэт,— спакойна адказала Антаніна Фёдараўна.

— Нам патрэбны не чыясьці самадзейнасць, а дакладнае выкананне школьнай праграмы, якая нам дадзена. Вучням патрэбны веды, а не красворды, шарады...— на апошніх словах Богут панізіла тон.

— Прабачце, Ангеліна Мікалаеўна, але я вам павінна напомніць, калі вы забылі, што «школа» са старагрэчаскага перакладаецца, як «вольны час», «радасць». І ці не таму ў нашых школах дзеці не хочуць вучыцца, што гэтай «вольнай радасці» — не стала. У нас шко-

ла — казарма...— Антаніна Фёдараўна сама нават не чакала, што так адкрыта пачне выказваць свае запаветныя, вынашаныя думкі перад дырэктарам. Але на гэта яе выклікала сама Ангеліна Мікалаеўна.— Што пішуць у газетах у апошні час пра школу, вы, напэўна, ведаеце, чытаеце. У апошнім нумары маладзёжнага часопіса «Ручай»,— Міранові́ч разгарнула тонкі часопіс, які трымала ў руках,— змешчаны допіс дзевяцікласніка Анатоля Сцежкіна пад назвай «Чаму я лянуюся вучыцца ў школе і нецікава мне ў ёй?». Не чыталі? Вось ён,— Антаніна Фёдараўна паказала на допіс.

— Не, не паспела...— нервавалася Ангеліна Мікалаеўна.— У мяне не хапае таго старагрэчаскага «вольнага часу». Я не толькі педагог, як вы, а яшчэ і гаспадарнік, адміністратар. Жывеш, як тая вавёрка ў коле.

— Паслухайце, што піша дзевяцікласнік,— Антаніна Фёдараўна паднесла бліжэй да вачэй часопіс: «Неабходна адмовіцца ад школьнай праграмы — настаўнік сам ведае, як выкладаць свой прадмет. Трэба даць яму гэтае права. Праграма толькі звязвае яго па руках і нагах...»

— Вось як. Цікава. І вы, можа, так думаеце?

— Не толькі думаю, а даўно перакanana. Перабудову, рэформу школы трэба пачынаць не з праграмы, а з настаўнікаў...

— Мы гэта і робім. Пасылаем іх на курсы павышэння кваліфікацыі. Патрабуем дасканала ведаць свой прадмет: штодзень займацца самаадукацыяй.

— Сёння гэтага мала. Я поўнасцю падтрымліваю Сцежкіна. Відаць, хлопец з розумам. Наогул, нічога дзіўнага няма, калі нашы вучні перарастаюць настаўнікаў. Яны проста народжаны для новага. А мы часта гэтага новага баімся як агню. Мы прывыклі жыць утульна, у цяпле, не дай бог — скразняк...

Вось што далей піша дзевяцікласнік: «Паверце, настаўнікаў, якія не любяць свой прадмет, мне давя-

лося пабачыць — і не раз. Адзін настаўнік даводзіць вучням: вы павінны паважаць сябе, перш за ўсё быць асобаю, развіваць у сабе пачуццё чалавечай годнасці, карацей, па кроплі выціскаць [redacted] сябе раба. З гэтага ўрока ідзеш акрылены і адчуваеш сябе чалавекам. Але прыходзіш на другі ўрок, дзе цябе за невыкананне хатняга задання могуць назваць любым словам, нават дэбілам, дзе пастаянна паўтараюць, што ты — нішто...»

Ці не так і ў нашай школе, Ангеліна Мікалаеўна? Давайце шчыра...— Міпановіч адарвалася ад часопіса, глядзела то на дырэктара, то на Сянчук.— Вам жа не раз скардзіліся вучні майго класа, што вытварае выкладчыца англійскай мовы Валянціна Сідараўна Гуз. Штодзень на ўроку садзіцца ззаду, дастае цэлафанавы мяшок [redacted] ядой, а вучням уключае фільмаскоп, лінгафон — маўляў, займайцеся на здароўе самастойна, а я перакушу. Дзе настаўніцкая этыка? Я згарэла б ад сораму. А для яе — гэта норма.

— Ну, Валянціна Сідараўна — асаблівы выпадак. У яе муж працуе ў Міністэрстве замежных спраў. Відаць, нарасказваў ёй пра замежныя парадкі. Дый сама яна не раз ездзіла за мяжу. Кажуць, там ядуць і п'юць усюды: у тэатры, кіно, на канцэрце,— засмяялася дырэктар, а за ёю — Сянчук.— Даруем ёй гэтыя выкрунтасы...

Антаніну Фёдараўну, як кажуць, узяло за жывое. Яна вырашыла сказаць усё, што ведала пра Гуз.

— І гэтыя выкрунтасы Валянціны Сідараўны... з-за мяжы?

— Якія? — загарэлася цікавасцю Ангеліна Мікалаеўна.

— А вось такія: калі была праверка з міністэрства, дык яна папрасіла, каб двоечнікі не прысутнічалі на яе ўроку, а пайшлі і перабылі ў туалеце. Што і зрабілі Лобан, Бальшакоў, Каралёў, Касмылёва. У час на-

пісання «міністэрскай» кантрольнай шапнула Ларысе Буйновай, каб тая перапісала работу свайго суседа Макарава: бач, Валянціна Сідараўна заўважыла шмат памылак у яго лістку (кантрольныя пісалі на лістках). Ганьба такому настаўніку.

— Хто вам такое нагаварыў? — не верыла Ангеліна Мікалаеўна.

— Ангеліна Мікалаеўна і Лілія Міхайлаўна, вы ж самі добра ведаеце пра Валянціну Сідараўну. Знаеце, што яна вучням кажа розныя непрыстойнасці. У нашым сёмым ёсць Ірына Маргунова, якая слаба вучыцца. Ведаеце, што Валянціна Сідараўна сказала Ірыне: «Ты, Ірачка, не вінаватая, што неразумная. Вінаваты бацькі твае — алкаголікі...» Вы ўяўляеце, як той Маргуновай такое можна было слухаць? Лепш скрозь зямлю праваліцца. Гэта ж было сказана на вачах усяго класа. Ну, няхай бацькі — п'яніцы. Але пры чым тут дачка? Як можна прыніжаць годнасць чалавека, ці Валянціна Сідараўна думае, што непаўналетнім можна гаварыць усё без выключэння і абражаць іх?

— Ну, вы тут перагнулі палку. Няўжо магло такое быць? — дырэктар глянула на свайго намесніка. Тая паціснула плячыма.

— Было. Было. І не раз...— сцвярджала Антаніна Фёдараўна. Яна была ўпэўнена, што і Богут, і Сянчук ведаюць пра паводзіны настаўніцы англійскай мовы. Але што ім не дазваляла сур'ёзна папярэдзіць Гуз? — А што робіць фізік Пятро Канстанцінавіч...— працягвала яна: гаварыць — дык гаварыць да канца.— Расказвалі мне вучні: у час тлумачэння закона Ньютана ён бярэ ў пальцы крэйду, становіцца за апошнім сталом, потым кідае крэйду праз увесь клас у дошку. Пытае: «Што я дэманстраваў?» Вучні, вядома, не разумеюць. Сапраўды, што гэта? Блазнота пажылога настаўніка ці новы метад выкладання прадмета, запазычаны ў невядома каго. Пасля таго як вучні няўцямна

паперамíргваюцца, хіхікаючы, Пятро Канстанцінавіч дае тлумачэнне свайму эксперыменту: «Гэта быў палёт думкі Ньютана...» У класе — дружны рогат... «Не смейцеся,— утаймоўвае клас выкладчык фізікі.— Вось так аднойчы, нібы тая крэйда ў дошку, стукнуў яблык Ньютану па галаве, і з такой жа хуткасцю, як палёт крэйды, геніяльны вучоны адкрыў вядомы закон зямнога прыцяжэння...» Вось дык эксперымент, вось дык пошук!

— Так...— усміхаецца Ангеліна Мікалаеўна, папраўляючы прычоску.— Што зробіш — Пятро Канстанцінавіч, як кажуць,— без тыдня пенсіянер. Усе мы будзем пенсіянерамі.

— Таму і не дзіва,— Антаніна Фёдараўна зноў разгарнула часопіс,— што мы чытаем у «Ручаі» вось такія пісьмы вучняў: «Мая сястрычка, першакласніца, у школу ўжо хадзіць не хоча, плача, просіць маму завесці яе ў дзіцячы садок. Я нічым не магу яе парадаваць — тыя дні, што праводжу ў школе, для мяне таксама шэрыя...— Міранович зрабіла паўзу, перавяла вочы на Ангеліну Мікалаеўну, зачытала апошні сказ: — У вучняў павінна быць права выбіраць класнага кіраўніка і настаўнікаў-прадметнікаў».

— Гэта з вобласці фантазіі, дарагая Антаніна Фёдараўна...— зручней уладкоўвалася за сваім сталом дырэктар.

Міранович тым часам павярнулася і пакрочыла да дзвярэй. На хаду вымавіла:

— Пажывём — пабачым...

Калі Антаніна Фёдараўна хацела зачыніць за сабой дзверы, Ангеліна Мікалаеўна кінула наўздагон:

— А кандыдатура класнага кіраўніка сёмага «С» ужо ёсць. Так і скажыце Рагозінай і яе групе. Каб больш не турбаваліся...



## З ДОПЫТУ Ў СЛЕДЧАГА

— «Вадзім — член нашай тусоўкі «Рэтс». Ура! Цяпер мне нічога не страшна... З яго барцоўскай сілай можам горы варочаць. Што там нейкая «Кэтс», дзе адны замухрышкі». Скажы, Таня, у якім класе ты зрабіла гэты запіс?

— У якім? Усё вам трэба дакладна ведаць...

— Абавязкова. Следства не церпіць недакладнасцей.

— Пасля прыезду з піянерлагера «Зялёны гай». У сёмым.

— Чым адзначылі вы ўступленне Вадзіма Цэхановіча ў вашу каманду? Здаецца, у вас так было заведзена: прыняцце новага члена вы абавязкова адзначалі...

— Бойкай з тусоўкай «Кэтс».

## 14

Тусоўка «Кэтс», або «Каты», дзейнічала ў суседнім мікрараёне Зарэчча, які знаходзіўся на ўскраіне горада. Ен вырас зусім нядаўна ў чыстым полі, непадалёк ад ваеннага гарадка, які хаваўся ў невялікім лесе. У гэтым лесе і любілі збірацца «каты» паслухаць «новую хвалю». Справа ў тым, што «каты» прызнавалі ў музыцы толькі гэтую плынь, а «Пацукі» — толькі «хэві-метал». На гэтай глебе ў іх і ўзніклі непрымірымыя адносіны. У кожнай камандзе былі свае разведчыкі, якія інфармавалі аб задумах праціўніка і загадзя рыхтаваліся да адпору. На гэты раз у тусоўцы «Рэтс» ўсё рабілася асцярожна і скрытна.

У каманду прымалі Вадзіма Цэхановіча. Таня Касмылёва зрабіла ўсё, каб Вадзім паверыў ёй, што там, у тусоўцы, жыццё куды цікавейшае, чым у школе ці ў яго

секцыі барацьбы. Вадзім прыйшоў у «бункер» разам з Таняй. У камандзе «Рэтс» дзейнічала правіла: кожны новы яе член павінен нечым сябе выявіць, каб заваяваць давер тусоўкі. Было вырашана: заўтра вечарам ісці ў лес, дзе «каты» будуць слухаць запісы «новай хвалі».

Вадзім даў слова вызначыцца там, у лесе. Апошнім часам ён усё радзей пачаў хадзіць на трэніроўкі ў ДЮСШ. Непаразуменне з трэнерам зусім адбіла ахвоту займацца барацьбой. Трэнер па-ранейшаму не дапускаў яго да важных спаборніцтваў: вінаваты быў усё той жа задзірысты, запальчывы Вадзімаў характар.

Калі назаўтра вечарам змрок пачаў ахутваць гарадскія кварталы, а праз шэрань ледзь прабіваліся з пажоўклымі лістамі — ад спякотнага ліпеньскага сонца — кроны дрэў, каманда «Рэтс», чалавек трынаццаць, рушыла праз стары сад, які застаўся ад вёсачкі Зарэчча і які пашкадавалі будаўнікі, у бок лесу. Пры падыходзе да лесу пачулі рытмічныя гукі, якія ліліся з магнітафона.

— Увага! — ціха скамандаваў Спейс-Лысы, які ішоў наперадзе, за ім Цім, Таня, Вадзім, астатнія «пацукі».— Захоп робім з двух флангаў. Левым флангам камандуе Цім, правым — я. Рассыпаліся!..

Усе з гіканнем пабеглі. Вадзім бег разам з Лысым. На хаду ён заўважыў, што ля невялікага кастра сядзела група хлопцаў і дзяўчынак. Яны слухалі музыку, курылі. Убачыўшы, што бягуць на іх праціўнікі, яны імгненна ўсхапіліся — хлопцы сталі ў баявую позу, дзяўчынкі пахаваліся за іх спінамі. Лысы з крыкам ударыў кулаком першага невысокага хлопца, той упаў. Вадзім выбраў самага дужага сярод «катоў» і барцоўскім прыёмам умомант паваліў таго. Але тут нехта збоку моцна праехаўся яму па брыву — запякло, забалела, і палілася кроў. З яшчэ большай раз'юшанасцю накі-

нуўся Вадзім на праціўнікаў і пачаў малаціць, кідаць іх цераз сябе, нібы на барцоўскім дыване...

Дзяўчынкі-«каты» гучна плакалі. Бойка разгарэлася, і невядома было, чым гэта магло ўсё скончыцца, каб з глыбіні лесу, з ваеннага гарадка, не выскачылі салдаты. Яны і разагналі, нібы вераб'ёў, дзве каманды ў розныя бакі.

Таня і яе сяброўкі незаўважна выйшлі лясной сцяжынкай і селі на маршрутны аўтобус.

Вадзім з'явіўся ў школу з заклееным лейкапластырам брывом. Першы, хто спытаў Вадзіма, была Вераніка:

— Што з табой, Вадзім? Што здарылася?

— А нічога, проста няўдала ўпаў на барцоўскім дыване,— хаваючы вочы, зманіў Вадзім.

— Не разумею... Дасюль у цябе ўсё атрымлівалася гладка, а тут раптам... Наогул, ты апошнім часам змяніўся, не пазнаю цябе.

— Ды ты што? Якім быў, такім і застаўся, як у той вядомай песні,— спрабаваў аджартавацца Вадзім.

Ішоў час. Вадзім зусім перастаў хадзіць на трэніроўкі ў секцыю барацьбы. Ён штовечар, як і Таня, ірваўся ў «бункер» каманды «Рэтс».

Вераніка па-ранейшаму пасля заняткаў у школе тры разы на тыдзень, нягледзячы на тое, што займалася ў матэматычным класе, спяшалася ў драмстудыю тэлебачання, якая цяпер называлася «Пунсовыя ветразі». Рэпеціравала новыя ролі, жыла імі. І аднаго не разумела: чаму Вадзім пасля трэніроўкі не чакае яе каля ўвахода ў будынак студыі, як гэта было раней. У класе яна пакрыўджана спытала ў Вадзіма:

— Я ўчора пасля рэпетыцыі стаяла ля студыі да дзесяці гадзін вечара. Але цябе так і не дачакалася. Дзе ты быў?

Вадзім адчуваў, што Вераніка спытае менавіта гэта, і таму падрыхтаваўся да адказу.

— Разумееш, нарэшце мой трэнер Іван Кузьміч злітаваўся: рыхтуе і мяне да ўсесаюзных спаборніцтваў па барацьбе, якія пройдуць у Туапсе. Працуем да сёмага поту. Учора скончылі трэніроўку а палове адзінаццатай. І далей, відаць, будзем так позна пакідаць барцоўскі дыван. Так што, выбачай...— бессаромна маніў Вадзім.

Вераніка, вядома ж, паверыла Вадзіму і даравала яму ўсе крыўды. Вадзім, як і раней, заставаўся для яе самым лепшым хлапчуком на свеце. Яна адчувала, што без яго ўжо не можа жыць, хацелася, каб ён быў побач заўсёды, а не толькі ў класе. Але разумела і тое, што яму і ёй вельмі нялёгка: шэсць урокаў у школе, потым — хатнія заданні, рэгулярныя трэніроўкі ў яго і рэпетыцыі ў яе. Сустрэцца дзе-небудзь у двары, на тэрыторыі дзіцячага садка, як сустракаюцца многія іх равеснікі, не хапала часу. Заходзіць жа ў кватэру адзін да аднаго ў горадзе не было прынята. Проста перазвоньваліся па тэлефоне.

Маці Веранікі Вера Іванаўна ведала, каму звоніць дачка і хто звоніць ёй. Найбольш званілі дзяўчынкі-аднакласніцы, хлапчукі — рэдка. І толькі адзін Вадзім званіў часта. Вера Іванаўна прывыкла да яго барытоністага голасу — падымала трубку, а ў ёй чулася пасля «Добры дзень»: «Вераніку можна?» Яна клікала дачку, і пачынаўся тэлефонны марафон — Вераніка брала з прыхожай апарат, які стаяў на падвеснай паліцы перад люстэркам, пераносіла ў свой пакой, зачыняла дзверы і... Пра што яны размаўлялі, Вера Іванаўна рэдка чула, але па абрыўках фраз здагадвалася: пра школу, барацьбу за Антаніну Фёдараўну, трэніроўкі, рэпетыцыі...

І вось Вадзім амаль перастаў званіць. Гэта занепакоіла не толькі Вераніку, але і яе маці.

Аднойчы Вера Іванаўна спытала ў дачкі:

— Чаму не звоніць Вадзім, Вераніка?

— А ты што, мамачка, засумавала па яго голасе?

— Ды не, я бачу, што ты сумуеш...

— Вельмі заняты Вадзім на сваіх трэніроўках, трэнер паабяцаў узяць на ўсесаюзныя спаборніцтвы. І ведаеш куды? На Чорнае мора, у Туапсе. Там, Вадзім казаў, пройдуць гэтыя спаборніцтвы.

— Ну, пазваніць жа можна... Дарэчы, як ён, па-ранейшаму, ідучы з трэніроўкі, чакае цябе ля студыі?

— Не, мамачка. Я ж табе сказала: у яго ўзмоцненыя трэніроўкі. Ён ідзе з ДЮСШ цяпер пазней за мяне. Мае рэпетыцыі заканчваюцца нашмат раней.

— Дык, можа, мне цяпер чакаць цябе?

— Ды ты што, мама! Я не маленькая ўжо, не баюся... А прыедзе Вадзім з таго Туапсе, усё будзе, як і раней... Ён будзе заходзіць па дарозе з ДЮСШ. Чаго ты хвалюешся?

Каб ведалі Вераніка і Вера Іванаўна ўсю праўду пра Вадзіма... Цяжка было зразумець, што валодала ім. Боязь ці страх, што ў любую хвіліну Таня Касмылёва магла выкрыць яго. Ён хітраваў, падманваў Вераніку, як мог. Не, ён не хацеў ні ў якім разе страчваць Вераніку: яна падабалася яму больш, чым Таня. І добра ведаў, што без сяброўства з Веранікай ён не зможа паспяхова закончыць школу. А паспяхова закончыць яму было неабходна: Вадзім марыў стаць афіцэрам...

* * *

## З ДОПЫТУ Ў СЛЕДЧАГА

— Маргарыта Іосіфаўна, дазвольце зачытаць вам яшчэ адзін абзац з Танінага дзённіка...

— Калі ласка...

— «Пасля таго як пасадзілі тату, маму не пазнаць. Аднойчы я яе бачыла з мужчынам...»

— Гэта яшчэ ні пра што не гаворыць. Да мяне як таваразнаўцы шмат заходзіць пакупнікоў, у тым ліку і мужчыны.

— Хвіліначку... «з якім выходзіла з рэстарана. Ну, маман! Ведай, твая дачка ўся пайшла ў цябе...»

## 15

У час следства наконт гасцініцы «Алмаз» завялі асабістую справу і на прараба Касмылёва. Яму інкрымінавалася раскраданне дзяржаўнай маёмасці. Было даказана, што на ўсіх аб'ектах, дзе працаваў Касмылёў, ён краў будаўнічыя матэрыялы, заганяў іх налева, аздабляў імі сваю кватэру. Суд прызнаў віну Касмылёва і прызначыў яму тэрмін пазбаўлення волі тры гады.

Пакуль Міхаіл Георгіевіч адбываў тэрмін, Маргарыта Іосіфаўна дарэмна час не траціла. Спачатку, праўда, было непрыемна, цяжка было звыкнуцца з думкай, што такое здарылася ў іх сям'і. Але хутка змірылася з лёсам: вінаваты быў не толькі муж, але і яна. Можа, нават больш яна. Маргарыта Іосіфаўна любіла жыць на шырокую нагу, шыкоўна, з камфортам. Таму не давала спакою мужу. І Міхаіл Георгіевіч стараўся... на сваю галаву.

...Аднойчы ў пакой, дзе сядзелі таваразнаўцы, зайшоў высокі сімпатычны мужчына. Скроні злёгку пасярэбраныя, на носе — прыгожыя рагавыя акуляры. Спытаў старшага таваразнаўцу Касмылёву. Маргарыта Іосіфаўна ўстала з-за стала. Мужчына папрасіў яе выйсці на хвілінку з пакоя.

— Я... ад Канстанціна Сяргеевіча...— шапнуў мужчына, калі ён і старшы таваразнаўца засталіся на калідоры адны.

— Ведаю... Канстанцін Сяргеевіч званіў... Што вас цікавіць?

— Еду ў замежную камандзіроўку, а касцюма добрага апрануць няма. Не будзеш жа там, у ФРГ, перад сімпозіумам бегаць па магазінах.

— І гэта праўда. Пойдзем у аддзел адзення...

Праз некаторы час мужчына (ён назваў сябе Віктарам Міхайлавічам) дзякаваў старшаму таваразнаўцу за прыгожы фінскі касцюм і, калі развітваўся, нібы між іншым шапнуў:

— Чакаю вас сёння вечарам каля рэстарана «Вячэрняя зара». Трэба ж аддзячыць...

У адказ Маргарыта Іосіфаўна, усміхнуўшыся, кіўнула галавой.

Роўна ў дваццаць нуль-нуль, калі Касмылёва заканчвала работу, Віктар Міхайлавіч стаяў на прыступках рэстарана. Хутка тут з'явілася і Маргарыта Іосіфаўна.

Селі за столік, які стаяў у куце і быў разлічаны на дваіх. Ансамбль яшчэ не іграў. Віктар Міхайлавіч паклікаў афіцыянтку, заказаў бутэльку шампанскага, закуску. Тая хуценька прынесла. Напоўніўшы фужэры, Віктар Міхайлавіч узняў тост за знаёмства. Маргарыта Іосіфаўна выпіла паўфужэра і адчула лёгкае галавакружэнне. Палілася гамонка. Слова за слова, і нядаўнія незнаёмцы адчулі сябе так, нібыта ведалі адзін аднаго даўно. А тут яшчэ палілася музыка, быццам тое шампанскае.

— Дык якая фірма вас пасылае ў ФРГ, калі не сакрэт? — з гуллівасцю пацікавілася Маргарыта Іосіфаўна.

— Наш навукова-даследчы інстытут ЭВМ... А з ім трымае сувязь завод, дзе працуе Канстанцін Сяргеевіч. Адным словам, мы ім пастаўляем мазгі...— усміхнуўся Віктар Міхайлавіч.

— Значыць, Віктар Міхайлавіч — розум, а Канстан-

цін Сяргеевіч — упакоўка для гэтага розуму...— Маргарыта Іосіфаўна залілася смехам. Яе падтрымаў новы знаёмы.

Іграла музыка, нешта з замежнага, першыя пары пайшлі танцаваць, а новыя знаёмцы працягвалі размаўляць.

— Мне імпануе ваш густ...— прызнаўся Віктар Міхайлавіч, намякаючы на добра выбраны касцюм.— За мяжой так ці інакш давядзецца зазірнуць у тамтэйшыя крамы. Што б вы параілі там купіць? Я ў гэтых пытаннях, па праўдзе кажучы, дылетант. Відаць, усе мы, мужчыны,— непрактычныя людзі. Ратуюць нас жонкі. Але калі яе няма, то...— Віктар Міхайлавіч зрабіў паўзу.

Яе скарыстала Маргарыта Іосіфаўна, кінула камплімент:

— У такога сімпатычнага мужчыны і няма жонкі? Не верыцца.

— Можаце паверыць — зараз няма.

— А што здарылася? — апошнія словы субяседніка заінтрыгавалі Маргарыту Іосіфаўну.

— Банальная прычына: усё тыя ж характары.

— На якім годзе?

— На шаснаццатым, дзіўна, праўда?

— А нічога дзіўнага... Цяпер, кажуць, гэта модна,— любімае слова «модна» Маргарыта Іосіфаўна паўтарала амаль усюды.

— А ў вас як склаўся лёс, ці ашчаслівілі вузы Гіменея?

— Так... Пражылі як быццам нядрэнна... І вось зусім нядаўна адбылася, як кажуць італьянцы,— Маргарыта Іосіфаўна хацела казырнуць выкшталцонымі слоўцамі,— фініта ля камедыя...

— Што, развяліся?

— Не, муж сеў у турму.

— Ф'ю,— ледзь не свіснуў Віктар Міхайлавіч.— За што, калі не сакрэт?

— А так, па глупству... Прараб... За будаўнічыя матэрыялы сеў. Надта ж шчодры быў...

— Сумна...

— А каб не наганяць далей самоту, давайце вып'ем і пойдзем патанцуем,— прапанавала Маргарыта Іосіфаўна. Ей яўна падабаўся Віктар Міхайлавіч, як і яна яму.

У гадзін адзінаццаць Віктар Міхайлавіч і Маргарыта Іосіфаўна выйшлі [redacted] рэстарана. А ў гэты час з кінатэатра «Сатурн» выходзілі [redacted] нашумелага фільма «Інтэрдзяўчынка» Таня і Вадзім. Яны параўняліся з Віктарам Міхайлавічам і Маргарытай Іосіфаўнай, якія стаялі каля рэстарана.

Убачыўшы адна адну, маці і дачка спачатку здзівіліся, а пасля Маргарыта Іосіфаўна, даўшы Віктару Міхайлавічу «Да пабачэння!», рушыла з Таняй і Вадзімам у адзін бок, а «даўні знаёмец», як сказала яна дачцы,— у другі.

Пакуль Віктар Міхайлавіч знаходзіўся ў замежнай камандзіроўцы, Маргарыта Іосіфаўна ўсё часцей думала пра яго. «Відаць, пташка высокага палёту, калі ездзіць у камандзіроўкі ў капіталістычныя краіны... Не выпусціць з рук... Цяпер жанчыны — хітрыя сарокі... Разведзеныя талковыя мужчыны доўга не бываюць адзінокія. Ну, а што мой? Хіба я буду яго чакаць, як школьніца, тры гады? Ды хто ён цяпер? Зэк! Гэта проста невыносна... Калі навокал такія прыгожыя разумныя мужчыны...»

Маргарыта Іосіфаўна перастала зусім цікавіцца Таніымі школьнымі справамі. Калі раней яна яшчэ заходзіла ў яе пакой, правярала сшыткі, дзённік, заглядвала ў пісьмовы стол, то цяпер рэдка турбавала Таню. Асабліва пасля таго як зрабіла заўвагу дачцэ: «Што ты з гэтым «металам» днюеш і начуеш? Узяла б

кніжку, падручнік...» На што Таня рэзка адказала: «У цябе — свае справы, у мяне — свае...» і пад носам у маці стукнула дзвярыма, ускочыла ў крэсла каля стала, пад музыку стала выпісваць з газеты назвы рок-гуртоў хіт-параду.

Паступова гэта ўвайшло ў звычку: ёсць Таня ў пакоі ці няма — Маргарыце Іосіфаўне было ўсё роўна...

## 16

Прайшло больш як месяц з пачатку новага навучальнага года, а класнага кіраўніка ў сёмым «С» так і не было. Просьбу групы Веранікі Рагозінай Ангеліна Мікалаеўна не задаволіла. Яна сама пакуль кіравала сёмым «С» і выкладала ў ім матэматыку.

Аднойчы ў сёмы «С» дырэктар прывяла Алену Кузьмінічну Тумелю і прадставіла яе вучням як іх класнага кіраўніка і выкладчыка матэматыкі. Хоць у сёмых класах Тумеля не выкладала, але ўсе ведалі, што ў школе вучні яе не паважаюць. З новага навучальнага года яна кіравала чацвёртым «Г». Але праз месяц у школу прыйшла выкладаць хімію Ганна Анатольеўна Семчына, жонка афіцэра, якога толькі што прыслалі ў артылерыйскае вучылішча недзе з Далёкага Усходу. Тумеля пакінула ёй свой чацвёрты «Г».

— Прашу любіць...— закончыла Ангеліна Мікалаеўна расказваць пра Алену Кузьмінічну.

— Хочам, каб у нас была Антаніна Фёдараўна,— пачуліся з сярэдзіны і ззаду класа галасы.— І выкладчыкам матэматыкі, і класнай... Толькі яе...

Гул у класе нарастаў: «Антаніну Фёдараўну! Антаніну Фёдараўну!»

Ангеліна Мікалаеўна і новая класная збянтэжыліся. Гэткай сустрэчы яны яўна не чакалі і ў першыя хвіліны не ведалі, што рабіць. А шум узмацняўся.

— Калі не спыніцеся,— павысіла голас дырэктар,—

я буду гаварыць асобна з кожным зачыншчыкам беспарадку. З кожным, запомніце! Вашы паводзіны, паводзіны класа разбярэм на агульным школьным сходзе,— дырэктар накіравалася да дзвярэй, зачыніла іх за сабой і порстка пакрочыла па калідоры.

Першая сустрэча з класам у Алены Кузьмінічны не ўдалася. Аднак яна пачала дзейнічаць яшчэ больш жорстка, чым гэта рабіла ўсе гады працы ў школе.

Алена Кузьмінічна заходзіла ў сёмы «С» са злосным выразам твару, адкрывала журнал і выклікала да дошкі самых, як яна казала, «отпетых». І заўсёды чуваць былі вокрыкі. Ледзь што — і ў вучня ляцела абойма слоў. За гэта вучні празвалі яе «Піначэтам».

Што-што, а камандаваць Алена Кузьмінічна навучылася. Дома — мужам, дзецьмі, свякроўю, тут — вучнямі. Мужа замучыла будаўніцтвам нейкай незвычайнай дачы па амерыканскаму праекту. Той і дняваў, і начаваў сярод лесу, майстраваў дачу сам, без нічыёй дапамогі. А яна толькі ў нядзелю прыязджала праверыць, ці шмат зрабіў муж. Вядома ж, ёй на дачы шмат не падабалася. І яна прымушала мужа зноў і зноў перарабляць...

Але ў сёмым «С» камандзірства ў Алены Кузьмінічны не атрымалася. З першага дня ёй далі зразумець, што камандаваць тут не дадуць. Не тыя тут сабраліся ціхоні сераднячкі, якім трава не расці, абы свае тры, чатыры балы стаялі ў класным журнале. Тут былі вучні, якія ўжо ведалі сабе цану. Па спецпрадмеце, матэматыцы, яны вучыліся толькі на «4» і «5». І добра ведалі, чаго іх сабралі ў гэты сёмы «С». Па сутнасці, тут прадвызначаўся іх лёс. А гэта шмат што значыла.

У адміністрацыі школы была асцярога: калі клас зборны, то напачатку з ім будзе вельмі цяжка. Асабліва — з дысцыплінай. Таму, відаць, у першую чаргу з гэтай прычыны выбар выпаў на Алену Кузьмінічну Тумелю, настаўніцу з валявым характарам. А ў сёмым

«С» было ўсё наадварот. Многія ведалі адзін аднаго, хоць і вучыліся ў паралельных класах. І таму ніякіх эксцэсаў, чаго чакалі кіраўнікі школы, у сёмым «С» не адбывалася.

З прыходам Алены Кузьмінічны ўсё змянілася. Прайшло паўгода, як яна «гаспадарыла» ў сёмым «С», а прыцїркі, узаемаразумення п класам у яе не адбылося.

На апошняй палітінфармацыі вялася гаворка пра выбары народных дэпутатаў, якія толькі што прайшлі ў краіне. Алена Кузьмінічна расказвала пра новую сістэму выбараў, называла прозвішчы дэпутатаў. І раптам Сяргей Гарноська спытаў:

— Скажыце, а чаму не прайшоў у народныя дэпутаты па нашай выбарчай акрузе першы сакратар райкома Іван Емяльянавіч Цітко?

Тумеля, вядома ж, не чакала такога пытання, твар яе ўмомант пасуровеў. Яна адказала, як гэта не раз бывала ў падобных выпадках, прыкладна так: «Не туды ты, хлопча, лезеш, не твая справа. Пра гэта за цябе падумаюць дарослыя, бацькі».

— А я ведаю, чаму,— не здаваўся Гарноська.— Я быў на мітынгу... Там, дарэчы, шмат было дзяцей...

— Ну і чаму? — заінтрыгавала Алену Кузьмінічну Сяргеева настырнасць.

— Таму што Іван Емяльянавіч не апраўдаў давер народа. Нічога добрага не зрабіў для раёна,— хутка, быццам выстраліў, прамовіў Гарноська.

— Застыў у гадах застою,— скаламбурыў нехта на задніх сталах.

Алену Кузьмінічну нібы варам абліло. Усяго яна магла чакаць, але не такой вольнасці ад сямікласнікаў у размове, па сутнасці, аб палітыцы.

— Вы што, чэмеру аб'еліся? Што вы гаворыце? Хто дазволіў? — зноў павысіла голас Тумеля.— Ваша справа добра вучыцца, ведаць у першую чаргу матэматыку.

— За паўгода мы амаль нічога не засвоілі, мала што

ўведалі новага па матэматыцы,— чулася з тых жа задніх сталоў.

У класе стаяў такі вэрхал, што Алена Кузьмінічна не распазнала, хто сказаў гэтыя словы. Час палітінфармацыі скончыўся, празвінеў званок на першы ўрок.

Блізілася да заканчэння чацвёртая чвэрць, а Алена Кузьмінічна па-ранейшаму ваявала з сёмым «С». Выкладчык і класны кіраўнік не знаходзіла з класам агульнай мовы. І як вынік, адбыўся выпадак, які ў школе назвалі надзвычайным здарэннем.

Стаяў цёплы майскі дзень. Была субота. У горадзе на стадыёне ў чатырнаццаць гадзін павінен быў выступаць папулярны, нашумелы ў краіне гурт «Ласкавы май». Яго ўтварылі юныя выхаванцы дзіцячых дамоў. Іх песню «Белыя ружы» слухала з магнітафонных касет ледзь не ўся моладзь краіны.

Некаторыя класы школы пабралі загадзя білеты на стадыён. Яны прадаваліся ў падземных пераходах упаўнаважанымі касірамі. Антаніна Фёдараўна таксама дазволіла свайму сёмаму «Е» схадзіць на канцэрт. Сабралі грошы, купілі білеты. Мірановіч дамовілася з выкладчыкам фізкультуры Таццянай Уладзіміраўнай адпусціць сёмы «Е» з апошняга ўрока, каб вучні паспелі дома пераапрануцца, паабедаць і дабрацца да стадыёна.

Зусім па-іншаму паводзіла сябе Алена Кузьмінічна. Яна не разумела эстраднае мастацтва, як і мастацтва наогул, і прызнавала толькі матэматыку, лічыла яе вяршыняй усяго. Прагрэс, па яе логіцы, могуць рухаць толькі дакладныя навукі.

Калі ў сёмым «С» загаварылі пра «Ласкавы май», пра яго канцэрт на гарадскім стадыёне, Алена Кузьмінічна засупраціўлялася як ніколі. Яна не дазволіла раней часу купляць білеты, сказала пачакаць, а ў апошні дзень зайшла ў клас і заявіла:

— Апошні ўрок у вас спевы, вось і спявайце. А пас-

ля ўрокаў правядзём класную гадзіну і пагутарым пра гэтую самую рок-музыку, пра яе ўплыў на моладзь...

Як можна было цяпер забараніць, калі падлеткі з таго часу, як уведалі, што будзе выступаць у іх горадзе «Ласкавы май», у думках сядзелі на стадыёне? Кожны ў кішэні насіў па пяць рублёў (такі быў кошт білета), якія яны выпрасілі дома ў бацькоў.

Ідэю ўцячы з апошняга ўрока, урока музыкі, і класнай гадзіны (калі вы, маўляў, такая, Алена Кузьмінічна, то, калі ласка) падаў Вадзім Цэхановіч:

— Скідаемся па «пяцёрцы», і мы з Антонам Тарасевічам бяжым па білеты...

Хутка былі сабраны грошы, і Вадзім з Антонам, не пайшоўшы на другі ўрок, урок заалогіі, пабеглі ў падземны пераход. Там купілі ў касіра на ўвесь клас білеты і вярнуліся назад.

На перапынку паміж пятым і шостым урокамі, як і было дамоўлена, вучні па адным незаўважна пакінулі клас.

Празвінеў званок на ўрок. Настаўніца музыкі Анжаліка Юр'еўна ўзяла класны журнал і заспяшалася ў сёмы «С». Адчыніла дзверы і... не паверыла сваім вачам — клас быў пусты. Глянула на дошку і ўбачыла крыва напісаныя крэйдай словы: «Бывайце! Дзень добры, «Ласкавы май!»

Анжаліка Юр'еўна вярнулася ў настаўніцкую, уведала, у якім класе Тумеля, зайшла да яе:

— Алена Кузьмінічна,— нерашуча пачала выкладчыца музыкі,— вы — класная сёмага «С»?

— Так, я... А што? — насцярожылася Тумеля.

— Уцяклі ўсе з урока музыкі...

— Куды? Не можа гэтага быць!

— Можаце праверыць...

Удзвюх ледзь не подбегам яны накіраваліся ў сёмы «С». Алена Кузьмінічна расчыніла дзверы... і міжволі схапілася за сэрца.

— Ну што? Паверылі? — ля расчыненых дзвярэй пустога класа стаяла побач з Тумеляй выкладчыца музыкі, вочы яе асуджальна глядзелі на класную сёмага «С».

* * *

## З ДОПЫТУ Ў СЛЕДЧАГА

— Таня, ты напісала ў сваім дзённіку адну фразу, адзначыўшы, відаць, як важную падзею ў тваім жыцці: «Я стала прынцэсай! Ура!!!» Што за прынцэса і дзе ты ёю стала?

— У нашай тусоўцы «Рэтс»...

— Якая роля адводзілася прынцэсе?

— Мяне павінны былі любіць і... баяцца.

## 17

— Вадзім, сёння ў дзевяць вечара сустракаемся каля дома № 15 па вуліцы Артылерыстаў,— на калідоры ў школе шапнула Цэхановічу Таня Касмылёва.

— А чаму не каля «слупка»? — не зразумеў Вадзім.

— «Бункер» накрылі міліцыянер з дружыннікамі.

У дзевяціпавярховым доме № 15 жыў Цім. Ён і аблюбаваў тут падвал. Як толькі зашарэла, на прызначаным месцы пачалі збірацца «пацукі». Неўзабаве з трэцяга паверха збег Цім і, улучыўшы момант, калі не было відаць дарослых, павёў сяброў у падвал. Адчыніў жалезныя дзверы, якія тут не замыкаліся, і па сходках сігануў уніз. За ім — астатнія. У далёкім куце віднеўся падвальны пакойчык. Цім шыбаваў якраз туды.

— Прызямляйся, братва! — увайшоўшы, Цім гоцнуўся на старую скрыпучую канапу, засланую нейкай дзяружкай. Побач стаялі тры паламаныя табурэткі, адно крэсла з пашчапанай спінкай.— Хутка прыйдзе Лысы і... абяцаў, не адзін.

— З кім? — пацікавілася Таня Касмылёва.— Можа, [illegible] новенькімі хлопцамі?

— Табе толькі б новыя хлопцы. А што рабіць Вадзіму? — Цім зірнуў з усмешкай на Цэхановіча.

Вадзім хітра ўсміхнуўся і нічога не адказаў.

— Гэтым новым хлопцам можа быць Спейсаў шэф Дзік,— Цім паказаў вялікі палец.

Пакуль «пацукі» размаўлялі і аглядалі новы пакойчык, з'явіўся Спейс-Лысы з дзвюма незнаёмымі дзяўчынкамі. Іх сустрэў каля пад'езда Цім.

— Салют працаўнікам! — кінуў з увахода Лысы.

«Пацукі» адказалі на прывітанне. Іх тут было чалавек трынаццаць. Размяшчаліся хто дзе: на канапе, табурэтках, крэсле, проста на кукішках у кутках, каля сцяны. Зашумелі, затупацелі. Сярод гэтай гаманы Лысы гаварыў на вуха Ціму:

— А нішто сабе і тут прыдумаў. Канешне, з «бункерам» не параўнаеш. Ах, гэтыя дружыннікі! Нехта шапнуў ім, падказаў. Добра, што нас не накрылі. Хана́ была б камандзе.

Цім кіўнуў на новенькіх дзяўчынак: маўляў, хто яны?

— Сямікласніцы... Падабраў на прыпынку. Клюнулі, як рыбкі...— Спейс памаўчаў, потым: — Ацэтончыку не захапіў — падвёў забеспячэнец. Затое ёсць іншае,— ён высунуў з кішэні некалькі цыгарэт.— Дзік удружыў. Сіла — траўка!

— Дык што ты гэтага свайго Дзіка ніяк не зробіш хатнім парсючком? Усё абяцаеш, абяцаеш, што ён да нас прыйдзе.

— Ведаеш,— апраўдваўся Лысы,— хлопец ён вельмі заняты: і днём, і ноччу — працуе.

— Ух ты, як не ў людзей! Людзі ўсё робяць толькі днём, а ноччу спяць.

— Ладна, давай зоймемся выбарамі. Дамаўляліся ж...

Спейс падышоў да канапы, дзе разам з новенькімі сядзелі і размаўлялі Таня і Вадзім, яшчэ некалькі хлапчукоў і дзяўчынак.

— Увага! Братва! Сёння ў нас незвычайны дзень,— пачаў Спейс.— Як бачыце, у нас новае месца сустрэчы. Значыць, месца сустрэчы змяніць можна — памятаеце фільм? А яшчэ ў нас сёння — выбары. У нашай камандзе неабходна выбраць прынцэсу... Называйце...

— Таня Касмылёва...

— Айранмэйдан...

— Таня...

— Айранмэйдан...

— Правільна. Я думаю, сумненняў ні ў кога не павінна быць. Па-першае, Таня ў камандзе хутка як два гады. Па-другое, яна наш неафіцыйны сакратар: усім паведамляла аб зборах, справах нашых, рэгулярна вядзе дзённік. Па-трэцяе, больш дзейнай і бойкай дзяўчыны ў нашай тусоўцы няма. Усе згодны?

Падняўся Дзяніс Капцоў, высокі, як дылда, лабасты хлопец.

— Я ведаю Касмылёву даўно. Памятаеце гісторыю з хамячкамі, якая некалькі гадоў назад прагрымела ў школе? Задушыць іх яна папрасіла мяне. Тады яна была ў чацвёртым класе. Усяго ў чацвёртым, а якая задума?

Падтрымаў Дзяніса Капцова Вадзім:

— Я з Таняй разам вучыўся ў адным класе. Больш смелай, адважнай дзяўчынкі ў нашым класе не было...

— І я добра ведаю Таню,— прамовіла Алеся Дубоўская.— У час бойкі з «катамі» яна дапамагала біцца

Вадзіму. Так было, Вадзім? — звярнулася да Цэхановіча. Той кіўнуў галавой.— Яна матлашыла кулакамі аднаго рыжага «ката», калі разбілі брыво Вадзіму, як сапраўдны баксёр. Каб вы толькі бачылі!

— Ну вось, якая наша Танечка...— падвёў рысу гаворцы Спейс-Лысы.— Я думаю, вы ўсе згодны... Застаецца толькі для формы прагаласаваць. Хто за? — падняў першы руку Лысы. За ім узнялі рукі ўсе.— Прашу вітаць нашу прынцэсу!

Таню гуртам пачалі тузаць, віншаваць, узняўся шум.

— Цішэй,— раптам папярэдзіў Спейс.— Могуць пачуць жыхары. А каб хоць нечым адзначыць гэтую падзею, прашу,— ён дастаў з верхняй кішэні пінжака-«варонкі» цыгарэту.— Курнём! Ну, хто самы смелы? Цыгарэткі няпростыя — з траўкай.

— Што за траўка? — ускочыла з канапы Таня Касмылёва.

— Гэта табе, Танечка, не ацэтон і не клей. А-наша! — расцягнуў апошняе слова Лысы.— З Сярэдняй Азіі. Дзіку сябры прывезлі. Вось... падзяліўся.

Спейс прыкурыў цыгарэту. Яшчэ адну даў Ціму. Абодва зацягнуліся, пусцілі дым, павесялелі.

— Дайце, хлопчыкі, паспрабаваць! — аж заззяла Таня.

— Сёння ты ў нас гераіня, табе — першай і бог наказваў,— працягнуў Лысы Тані сваю цыгарэту і прыціснуў яе да сябе.

Таня, як Спейс і Цім, зрабіла зацяжку, другую, закашлялася. Зашумела ў галаве, памутнела ў вачах. І ледзь не ўпала на канапу, але Вадзім падтрымаў, пасадзіў.

— Ну, як? — з адурманеным позіркам глянуў на Таню Спейс. Яны з Цімам падобны былі на артыстаў, якія заняты ў смешнай сцэне...

— Сіла! — надрыўным голасам вымавіла Таня і па-

чала ўздымацца з канапы, махаць рукамі. Яна, быццам няўдалая актрыса, праказала:

— З сённяшняга дня я — каралева.

— Прынцэса,— паправіў Спейс.

— Я люблю ўладу,— выгукнула Таня.— Любую і над усімі. Тут, у двары, у школе, дома. Дрыжыце, няшчасныя!

— Перастань, Таня,— супакойваў Вадзім.

— А ты не будзь святошам. Для Рагозінай ты, можа, такі, а тут будзь, як усе. На, куры...— яна схапіла цыгарэту з Цімавых рук і сунула ў рот Вадзіму.— І дай усім па разу зацягнуцца. Новенькім — таксама. Дзяўчынкі, цыгарэткі — цуд! — падміргнула Іры і Лене (іх звалі так).

Вадзім злёгку пацягнуў і перадаў цыгарэту іншым. Тыя па чарзе спрабавалі незвычайны тытунь. Усё было новае, і спакуса даведацца, што ж гэта за анаша, авалодала ўсімі «пацукамі». Ведалі, анаша — наркотык. Яго не так лёгка здабыць. Усе клеі яны перанюхалі, ацэтон мелі зрэдку, толькі калі прыносіў Спейс-Лысы. Яго было цяжка дастаць, а Спейс — мог.

Цім раптам перавёў гаворку на Дзіка, прасіў Спейса больш падрабязна расказаць усім пра яго і абавязкова сустрэцца з ім.

— Ёсць у Дзіка «відзік». А касеткі — пальчыкі абліжаш,— заінтрыгоўваў «пацукоў» Лысы.—Я глядзеў некалькі фільмаў. Амерыканскі — парнуху. Тры серыі «Эмануэля». Кітайскі — пра каратэ. «Касталомы» называецца...

— Звадзі нас да Дзіка, просім цябе! — загукалі ледзь не ў адзін голас «пацукі».

— Э-э-э...— грымасчічаў Спейс.— А па «чырвоненькай» не хочаце? Вы думаеце, ён за так паказвае? Дудкі! Яму не з неба ўсё падае, вось і ён...

— А дзе ж тыя «чырвоныя» ў нас? — запытаўся нехта з «пацукоў».

— Гы-ы... Усё вучы вас. Бацькі навошта ў вас? — дапамог Лысаму Цім.— Вось, напрыклад, як я раблю. Бацьку кажу: «Новыя касеткі з запісамі на рынку з'явіліся. Ну, там розныя «Пінк флойд»... Дый нашы нішто сабе — «Кіно», «ДДТ»... Чуў, як яны ў горадзе нашумелі сваімі выступленнямі на стадыёне, у спорткомплексе?» — «Чуў,— кажа.— Быццам няблага пяюць. Па-сучаснаму. А што, іх ужо пазапісвалі на касеты і прадаюць? — пытаецца».— «Колькі жадаеш...— адказваю.— Нашы меламаны не спяць у шапку».— «І колькі каштуюць?» — «Па «чырвоненькай» адна касета. Ідуць на расхоп. Гані,— кажу,— пару «чырвоных»... А я іх, гэтыя гурты, з вамі ў «бункеры» перапісваў.

— Хэ, добра што твой продак рок-музыку любіць,— падключыўся да гаворкі Вадзім.— А што рабіць, калі мой у ёй нічога не петрыць і наогул не церпіць яе?

— Ну дык тады прасі...— Цім паляпаў па сваіх джынсавых штанах,— на новыя «бананы» ці «варонку». Нідзе не дзенецца, дасць. А калі спытае: дзе яны, гэтыя штаны, мы табе дадзім панасіць на пару дзён, — загігікаў Цім.

— Не смяшыце, хлопчыкі,— увайшла ў ролю прынцэсы Таня,— вы яшчэ просіце? Я сваёй маман заяўляю, а не прашу: не пайду ў школу, кіну яе, пайду ў бадзягі, калі не купіш патрэбную рэч. Тая адразу: «На, на...» Палохаецца...— памаўчала.— Наогул, пара нам мець свой бізнес. Мы што, не арганізацыя? Навошта існуюць двары? Трэба паціху дзейнічаць. Хто не наш — плаці аброк, няважна чым: грашыма, красоўкамі, курткамі. Ды ў вялікіх гарадах даўно так робіцца. Вы што, не чулі? — стаяла ў ваяўнічай паставе Таня.

— Ты хочаш сказаць, прынцэса,— пара нам стаць юнымі рэкецірамі? — пагойдваўся з боку на бок Спейс-Лысы, нязграбна трымаючы ў пальцах цыгарэту.

— А што, ідэя,— падхапіў Цім.— На кішэнныя расходы ох як трэба нам «капуста».

— Ну, што ж, з заўтрашняга дня можам заняцца дваровым бізнесам,— закончыў размову Лысы.— На сёння хопіць, можаце разбягацца. А мы з Цімам зоймемся інструктажом новенькіх. Іра і Лена,— Спейс загадкава глянуў на дзяўчынак,— не супраць, я думаю, глыбей уведаць пра справы нашай тусоўкі...

Адзін за адным «пацукі» вылізгвалі з падвала. Вадзім і Таня выйшлі разам, потым кожны паасобку пакрочыў у бок свайго дома.

## 18

Гэта была чарговая дыскатэка ў сёмым «Е» класе. Антаніна Фёдараўна называла яе, як некалі ў вёсцы, вечарынкай. Такія вечарынкі яны, вучні шасцідзесятых гадоў, ладзілі ў недабудаванай хаце старога Яўхіма. На гармоніку іграў іх жа аднакласнік Аркадзік Клыпаты. Ен спрабаваў на свой лад наярваць леткуеньку, якая тады была ў модзе.

Цяпер у школе ўвайшло ў моду збірацца на дыскатэку вечарам у класе. Кожны клас асобна ладзіў сваю. Вучні прыносілі касетныя магнітафоны з уласнымі запісамі і абавязкова — замежных рок-гуртоў.

І на гэты раз прыйшлі са сваімі магнітафонамі Максім Лобан, Андрэй Паршута, Дзіма Лагунок. І — о дзіва! — з'явілася Таня Касмылёва. На класныя дыскатэкі яна звычайна не хадзіла. Іншы раз яе бачылі толькі на агульнай школьнай вечарынцы. А тут прыйшла на класную. І не адна: з верхаводамі тусоўкі «Рэтс» Спейсам і Цімам.

— Прывітанне,— кінула ў кут, дзе сабраліся аднакласнікі, Таня. Падышла з «пацукамі» бліжэй.

Максім Лобан уключыў свой «маг». Палілася песня

ў выкананні заходнегерманскага дуэта «Модэрн токінг». Хлапчукі і дзяўчынкі пачалі танцаваць.

Не прайшло і пяці хвілін, як Таня выхапіла з рук у Ціма магнітафон і тут жа ўключыла яго. Панеслася незнаёмая рок-музыка. Аднакласнікі Касмылёвай ажно перасталі танцаваць. Кожны думаў: «Што за рок-гурт?» Хлопцы і дзяўчынкі сышліся, сталі купкай каля Тані, Спейса і Ціма. Разгарэліся спрэчкі. Кожны хацеў уставіць слова, што за гурт прапанавала Касмылёва. Такога яны яшчэ не чулі. Але ніхто не мог адгадаць. Касмылёва, Спейс і Цім толькі ўсміхаліся, маўляў, хай памазгуюць зялёныя конікі.

— Маладзенькія, мала яшчэ ведаеце...— паблажліва гаварыў Спейс. Каля яго круціўся, як верны слуга, Цім.

— Ну, не кажы...— парыраваў Максім Лобан.— Ці мала назвалі мы рок-гуртоў? А пра «Модэрн токінг» мы можам расказаць ад «А» да «Я»...

— Ды што вы зацыкліліся на «Модэрн токінг»...— выйшла наперад Касмылёва, трымаючы на руках японскі магнітафон. Узмацніла гучанне, потым пацішыла:— Ну дык што? — фарсіла Таня.— Не ведаеце гэтага гурта? «Айран мэйдан» чулі? Хто выдатна ведае англійскую мову? Ну, перакладзіце, Славачка, Іначка, Лорка... Вы ж лепшыя «англічане» ў Валянціны Сідараўны, якая адно і паўтарае: «Вучыцеся вымаўленню, як Слава, ведайце слоўнік, як Іна, перакладайце, размаўляйце, як Ларыса»,— здзекавалася з аднакласнікаў Касмылёва.

— «Жалезная дзяўчынка» перакладаецца. Ці ж складана...— не вытрымала Ларыса Буйнова, якая сапраўды была адна ■ лепшых у класе, хто ведаў англійскую мову. Ростам яна была невысокая, шчуплая.

— Фі, жалезная дзяўчынка? Можа, скажаш яшчэ залатая? Гэтак у нашай школе настаўнікі называюць сухароў-выдатнікаў, такіх, як Рагозіна з сёмага «С»...—

напірала Таня.— А «Жалезная дзева» не хочаш? «Дзева», запомні, а не нейкая зялёнка...— намякала Касмылёва на Ларысу.

— Фіфа ты,— не вытрымала Буйнова.— Чым ты фарсіш? Ты Рагозінай і пяткі не варта. Ды што ты ведаеш, акрамя замежных рок-гуртоў? «Айран мэйдан» нейкі...

Пачуўшы апошнія словы, Касмылёва крута замахнулася і ўдарыла Буйнову па твары. Раз, потым — другі, трэці... Ларыса ўпала. Гэта было так ашаламляльна, што хлопцы і дзяўчынкі не паспелі зварухнуцца. А калі апамяталіся і паспрабавалі схапіць Таню, то ў гэты момант шлях ім перагарадзілі Спейс і Цім.

— Спакойна, не падлазьце! — прасіпеў Лысы.— Мы ведаем прыёмы каратэ...

Сямікласнікі застылі як укопаныя. А Таня, Спейс і Цім спакойна пайшлі з класа.

Пачуўшы шум у класе, прыбегла Антаніна Фёдараўна, якая адвінулася на хвіліну, перакінулася некалькімі словамі з класнай сёмага «Ж» Зояй Іванаўнай. Дзяўчынкі пасадзілі Ларысу на крэсла і хусцінкай спынялі кроў з носа. Нехта з хлапчукоў нёс з туалета ваду. Антаніне Фёдараўне стала блага...

Пасля гэтага здарэння Таню Касмылёву ўратавала ад пастаноўкі на ўлік у міліцыі Маргарыта Іосіфаўна. Яна прыйшла разам з Таняй у школу і прасіла-маліла Ларысу Буйнову, каб тая даравала Тані. Гэтак жа маліла яна і Ларысіну маці, якая жыла адна з дачкой і была дабрадушным чалавекам. І вымаліла: Ларыса і Таня памірыліся, і пра гэты выпадак, акрамя класа, больш ніхто не ведаў.

Але не спынілася на гэтым Антаніна Фёдараўна. Колькі ж можна цярпець! Што рабіць? Паставіць на ўлік у міліцыі Таню супраціўляецца дырэктар Ангеліна Мікалаеўна. Гэта, кажа, запляміць школу. Канешне, і ўлік у міліцыі — не панацэя, не выратаванне.

«А што, калі запрасіць Касмылёву ў кафэ? Узяць і прапанаваць ёй разам пасядзець. Стаць з Таняй нароўні хоць на гадзіну. Адкрыць ёй сваю душу, можа, адкрые і яна сваю. Толькі ці згодзіцца пайсці?» — падумала аднаго разу яна.

Не, Таня пайшла. Спачатку, праўда, аднеквалася, маўляў, навошта, але калі Антаніна Федараўна сказала, што гэта будзе карысна для яе, Таня згадзілася. Можа, што ведае пра яе класная? Не дай бог, дазналася пра тусоўку.

Кафэ «Чырвонае ўрочышча» стаяла на рагу перасячэння вуліц Металістаў і Светлай. І хады са школы да яго было хвілін пятнаццаць. Пасля заняткаў, шасці ўрокаў, Антаніна Фёдараўна і Таня, не заходзячы дамоў, прыйшлі ў кафэ.

Селі ва ўтульным месцы, далей ад увахода, у куце. Побач за столікам стаяў фікус, які засланяў ад цікаўных вачэй.

Антаніна Фёдараўна, прагледзеўшы меню і параіўшыся з Таняй, заказала афіцыянтцы, якая падышла, два антрэкоты, фірменны напітак і марожанае.

Пакуль афіцыянтка будзе рыхтаваць заказ, можна і пагутарыць. І Антаніна Фёдараўна пачала без усялякіх лішніх слоў.

— Таня, ты ведаеш, чаго я запрасіла цябе сюды? Не, канешне, не ведаеш. Нічога новага я табе не скажу. Я хачу пабыць з табой сёння, як звычайны чалавек з чалавекам, пагаварыць не як настаўнік з вучнем, а проста як даўно знаёмыя...

Касмылёва насцярожылася, адкінулася на спінку крэсла, ухмыльнулася: маўляў, чаго захацела класная?

— Не хвалюйся, што я нешта такое задумала. Проста клас — ёсць клас, дзе афіцыйныя адносіны, усе аднолькавыя. Дзе кожнаму вучню ў душу не заглянеш... Я хачу зразумець цябе, Таня: чаму ты не такая, як усе?

— Я не хачу быць, як усе... Я пагарджаю статкам...

— Статак сапраўды не вельмі добра. Асабліва там, дзе трэба самастойна думаць. Часцей за ўсё ў нашых школах гэтага якраз і не хапае. У іх вучні пазбаўлены магчымасці думаць. Адзін аднаму падказаў, адзін у аднаго спісаў. Зманіў, падтасаваў, выкруціўся... З класам з сарака чалавек ды яшчэ з пяццю-шасцю такімі паралельнымі настаўніку проста не пад сілу справіцца. Гэта не гімназія ці ліцэй...

— Я недзе чытала,— адчувалася, што гаворка Таню зацікавіла,— у гімназіях дзеці атрымлівалі такую адукацыю, якую цяперашні выпускнік вну не мае. Адно веданне некалькіх моў чаго было варта!

— Яшчэ ў канцы пяцідзесятых, шасцідзесятых гадоў амерыканскія педагогі старанна вывучалі наш школьны вопыт...

Афіцыянтка прынесла ўсё, што заказвала Антаніна Фёдараўна, настаўніца і вучаніца ўзялі ў рукі відэльцы.

— Факты, як вядома,— упартая рэч,— Антаніна Фёдараўна падступалася да галоўнага.— Ведаеш, калі я вучылася ў школе ў свае шасцідзесятыя, такога, як цяпер, не было: жорсткіх злачынстваў сярод падлеткаў, розных таксікаманаў, наркаманаў, школьніц-прастытутак,— Міpановіч вырашыла гаварыць пра ўсё. Ханжаства ў любым выпадку ніколі не дапамагала чалавеку.

Таню апошнія словы нібы скаланулі: куды сягае класная, на што робіць намёк?

— Таня, ты толькі задумайся над гэтымі страшнымі лічбамі, якія друкуюць зараз у газетах,— Антаніна Фёдараўна выпісала іх і запомніла.— На ўліку ў нашай рэспубліцы пятнаццаць тысяч так званых «цяжкіх» падлеткаў. З іх — адна тысяча хранічных алкаголікаў. У калоніях кожны дзевяты зняволены — непаўналетні...— яна наўмысна зрабіла паўзу, каб Таня адчула ўвесь жах гэтых лічбаў, але тая нават не

адрэагавала на іх.— Я не хачу табе зла, Таня, зразумей правільна, я жадаю толькі дабра, мо таму я табе пра ўсё гэта адкрыта кажу. Даволі аднаго неабдуманага кроку, каб апынуцца ў ліку гэтых няшчасных тысяч...

Не ведала Антаніна Фёдараўна — а як было ведаць? — што Касмылёва была блізка ля гэтых «няшчасных тысяч» і што гэтая размова ў кафэ для Тані — не больш як чарговая педагагічная маралізатарская размінка. Яна адчувала сябе і тут прынцэсай. Яе не крануў нават расказ пра выпадак, які адбыўся ў Цынцэвіцкай школе, калі ў ёй вучылася Міраповіч. Антаніна Фёдараўна ўспомніла, як пасварыліся дзве сямікласніцы. Адна другой кінула: «Каб цябе забіў гром!» (У вёсцы былі частыя такія праклёны.) Праз некалькі дзён у навальніцу ў тую дзяўчынку і сапраўды ўдарыла маланка. Калі хавалі яе, першая ліла слёзы ля труны, прасіла на каленях прабачэння, якое нікому не было зразумелае...

* * *

## З РАЗМОВЫ, ЯКУЮ ВЕЎ СЛЕДЧЫ

— Наталля Сямёнаўна, ваш сын Вадзім сябраваў з Веранікай Рагозінай. Ці заўважалі вы змены ў Вадзімавых паводзінах і асабліва — у адносінах да Веранікі?

— Вадзім займаўся ў секцыі барацьбы, а Вераніка — у драмстудыі. Адтуль яны вечарам вярталіся разам. Праўда, дамоў яны не хадзілі адзін да аднаго. Саромеліся, відаць, нас, бацькоў. Размаўлялі па тэлефоне. Мы з мужам не раз чулі... Пра Вераніку ён гаварыў самыя лепшыя словы...

— А пасля?

— Пасля з Вадзімам нешта здарылася. Ён стаў нейкі нервовы, неспакойны...

— Калі?

— У сёмым класе. Дарэчы, мы толькі цяпер уведалі, што ён кінуў секцыю. А нам казаў, што ходзіць. Вечарамі ж яго не было дома. А мы заўсёды занятыя. Муж на рабоце круціцца, у яго там у прафкоме шмат спраў. Я — з экскурсіямі, часта бываю ў камандзіроўках...

## 19

— Фрагмент іканастаса «Тайная вячэра»,— тлумачыў экскурсавод, стоячы ў Ісаакіеўскім саборы тварам да групы вучняў. Ён раз-пораз паварочваўся і паказваў рукой на фрагмент.

— Дык гэта і ёсць шэдэўр вашага земляка? — спытала Вераніка Рагозіна ў Антаніны Фёдараўны, якая стаяла побач.

— Так, Вераніка, запамінай на ўсё жыццё. Гэта незвычайная карціна...— зашаптала Мірановіч.— Я вам расказвала пра гэтага мастака. Помніце?

Па групе прайшоўся шумок. Вучні пачулі імя мастака і адзін аднаму, гледзячы на іканастас, як па ланцужку, перадавалі:

— Сілівановіч... Сілівановіч... Сілівановіч...

На класнай гадзіне, збіраючыся ў Ленінград, Антаніна Фёдараўна расказвала вучням пра свайго славутага земляка, мастака з вілейскай вёскі Цынцэвічы Аляксандра Сілівановіча. Ён нарадзіўся ў мінулым стагоддзі ў сялянскай сям'і. А пасля стаў акадэмікам, вядомым мастаком. Казалі, што яго запрасіў афармляць іканастас Ісаакіеўскага сабора сам цар. Скрупулёзная і тонкая гэта была работа: з маленькіх разнаказяровых мазаічных кавалачкаў стварыць жывыя вобразы «Тайнай вячэры», цэнтральнай карціны іканастаса, якая стала ўпрыгожаннем усяго сабора.

Вучні зачаравана глядзелі на іканастас, размаляваныя сцены, калоны, столь, пазалочаныя люстры, на малахіт, лазурыт... У іх вачах было непадробнае здзіўленне. І толькі ў аднаго вучня, калі б хто-небудзь пільна паглядзеў яму ў вочы, заўважыў бы там абыякавасць. Хіба адно адчуў: нецярпенне. Вочы яго былі, як бегункі.

— Што з табой, Вадзім? — заўважыла душэўны сябраў неспакой Вераніка.— Табе што, нецікава тут?

— Мне гэтыя святыя будуць сніцца ноччу... Мне каб бліжэй да рэальнага жыцця. Там, дзе вірыць Неўскі праспект, дзе народ...

— Не пазнаю цябе, Вадзім,— здзівілася Вераніка, калі ён адмовіўся ісці з ёю і групай па крутой лесвіцы-спіралі пад купал на тэрасу, адкуль як на далоні быў відаць горад.

Вадзім, які ўгаварыў аднакласніка Аляксея Антохіна (з ім ён пасябраваў у сёмым «С») застацца разам унізе, меў свой план. Ён і не даваў яму спакою. Вадзім ведаў, што яго маці, Наталля Сямёнаўна, якая па просьбе Антаніны Фёдараўны прыехала ў Ленінград, зараз недзе стаіць у чарзе па білеты ў Эрмітаж. Пакуль маці купіць білеты, а група з класнай агледзяць горад з тэрасы сабора, можна збегаць у бліжэйшы універмаг. А адтуль самастойна прыйсці да Зімняга палаца. Хады тут на хвілін дзесяць — пятнаццаць. Чаму так цікавіў Вадзіма універмаг? Калі Спейс-Лысы і Цім даведаліся, што Вадзім з класам едзе ў Ленінград, адразу ж далі «баявое заданне»: прыхапіць там дваццаць цюбікаў клею «Момент». Яны ведалі, што ён выпускаецца і прадаецца ў Ленінградзе. Далі яму на дарогу «дваццацьпятку», якую ён схаваў у патаемнай кішэньцы пінжака, каб не агледзела маці.

Вадзім і Аляксей Антохін выйшлі з сабора, перабеглі вуліцу, спыталі ў сівога дзядулі з кульбачкай, як трапіць у бліжэйшы універмаг. Па дарозе Вадзім

расказаў Аляксею, чаго яму туды трэба. «Сусед па лесвічнай пляцоўцы, які працуе шаўцом у кааператыве, папрасіў. Клей «Момент», кажа, бывае толькі ў Ленінградзе. Назва яго гаворыць сама за сябе. Хапае імгненна! Вось такі яму клей трэба»,— бессаромна маніў сябруку Вадзім, а сам у душы радаваўся: «Свя-тая прастата! Відаць, ні разу не нюхаў яго. Затое я спрабаваў. Б'е па мазгах сапраўды імгненна...»

Калі ўвайшлі ва універмаг, адразу пайшлі шукаць адпаведны аддзел. Знайшлі яго хутка. На вітрыне сярод рознай драбязы Вадзім убачыў жаданы жоўта-карычневы цюбік. Дамовіўся з Аляксеем, што кожны спачатку бярэ па пяць. Але як толькі яны папрасілі ў немаладой прадаўшчыцы дзесяць цюбікаў, тая акінула вокам юных пакупнікоў і запытала:

— Навошта вам столькі?

Хлопцы на нейкую хвіліну сумеліся, затым Вадзім бойка адказаў:

— Мы прыезджыя... Здалёк... У нас такога клею няма. Суседзі папрасілі купіць...

— А можа, вы якія таксікаманы? — з падазронасцю глядзела на хлопцаў прадаўшчыца.

Вадзіма ледзь не скаланула на гэтых словах. Па целе прабеглі дрыжыкі. Яму здалося, што яго нібы ведае гэтая незнаёмая жанчына. «Няўжо на твары ў мяне напісана, хто я? Здаецца, у мяне пакуль звычайны твар...»

Было ясна, што трэба шукаць іншае выйсце. «Ну што ж, прыдумаем...» — Вадзім штурхнуў сябрука, і яны пайшлі да выхада. Пастаялі каля дзвярэй. Убачылі трох дарослых хлопцаў, якія, было відаць, кіраваліся ва універмаг. Вадзім падышоў да іх і пачаў прасіць, тыцкаючы ў рукі аднаму «дваццацьпятку», купіць дваццаць цюбікаў «Момента», а рэшта, пяць рублёў, маўляў,— іх (цюбік каштаваў адзін рубель). Вадзім не пашкадаваў гэтай «пяцёркі», тым больш што

яна была не яго. Тыя з ахвотай згадзіліся і праз некаторы час вынеслі тавар. Вадзім сунуў цюбікі ў дыпламат, які ён узяў з сабой і, сказаўшы Аляксею: «Пайшлі!», рушыў у бок Эрмітажа.

Любавацца горадам, вуліцамі-стрэламі Пятра хлопцам не было калі: яны спазняліся на экскурсію ў Эрмітаж, хоць Вадзіма не вельмі туды і вабіла. Хваляваўся адзін Аляксей:

— А што, калі наша група пойдзе ў Эрмітаж, а мы застанемся на вуліцы?

— Ну і што? Падумаеш...— Вадзім быў задаволены сваім урэшце здзейсненым планам.— Колькі тут яшчэ ўсяго цікавага: Летні сад з домікам Пятра, Петрапаўлаўская крэпасць, «Аўрора», Рускі музей, музей Пушкіна... Мне маці пра гэта не раз расказвала. Вось куды б я з задавальненнем схадзіў, дык гэта ў кунсткамеру Пятра Першага.

— А што гэта такое?

— Антрапалагічны музей, дзе сабраны разнастайныя рэдкасці...

Выйшлі на Дварцовую плошчу, на якой вірыў народ і, быццам змяя, выцягнулася ад кас Зімняга палаца да Александрыйскага слупа чарга. Вадзім і Аляксей мінулі чаргу, абагнулі палац злева і падышлі да ўвахода ў Эрмітаж. Падняліся па высокіх прыступках і праз высокія дзверы ўвайшлі ў вестыбюль, сцены і падлога якога ззялі белым мармурам. Нідзе групы іх не было відаць. Значыць, пайшлі, не дачакаліся іх.

— Праваронілі,— засмучана сказаў Антохін.

Выйшлі на вуліцу.

— Не перажывай,— спрабаваў заспакоіць сябра Вадзім.— Правядзём час на набярэжнай Нявы, палюбуемся Петрапаўлаўскай крэпасцю, якая вунь на востраве...— Цэхановіч паказаў рукой на высокі залачоны шпіль крэпасці.

Непадалёк ад Зімняга палаца была прыстань, дзе

прычальвалі катэры, якія плавалі па Няве з экскурсантамі. З ракі адкрывалася выдатная панарама горада. У невялікай будачцы людзі бралі білеты на чарговы рэйс.

— Эх, каб тая «пяцёрачка»,— раптам уздыхнуў Вадзім, калі падышлі да касы,— што аддалі тым хлопцам ва універмагу! Пракаціліся б па Няве...

— А ў нас — ні капейкі...— павесіў нос Аляксей.

— А што, калі прашмыгнуць разам з пасажырамі міма кантралёра,— падаў ідэю Вадзім.

— Не ўдасца. Бачыш, вунь (якраз падышоў катэр, і людзі з білетамі па трапе праходзілі на палубу) стаяць два кантралёры. Правяраюць дай божа.

Яшчэ не адзін катэр правялі Вадзім і Аляксей, пакуль, задыхаўшыся, не прыбегла сюды Наталля Сямёнаўна.

— Я галаву скруціла, шукаючы вас... Бегала да Ісаакіеўскага сабора...— накінулася яна адразу на хлопцаў.— Дзе вы былі?

— А мы пайшлі паглядзець Меднага конніка,— ілгаў маці Вадзім.— Нам ён цікавейшы, чым сабор.

— Вы і так яго ўбачылі б... Пасля Эрмітажа... Антаніну Фёдараўну ледзь не давялі да інфаркту. Мяне... Адкуль такая недысцыплінаванасць? Я не пазнаю цябе, Вадзім! У Эрмітаж не трапілі...

— А мы не перажываем,— Вадзім глянуў на Аляксея. Той нехаця кіўнуў галавой.— Паглядзім іншае...

Наталля Сямёнаўна паўшчувала хлопцаў, нарэшце сказала:

— Пойдзем да Эрмітажа, будзем чакаць там сваю групу.

Чакаць доўга не давялося: у дзвярах з'явіліся спачатку самыя шустрыя ў класе Каця Скакун і Сяргей Гарноська. За імі выходзіла ўся група.

* * *

## З ДОПЫТУ Ў СЛЕДЧАГА

— Таня, у тваім дзённіку з'яўляецца новае прозвішча — Дзік. Ты запісала: «Апартаменты Дзіка напамінаюць наш славуты «бункер». Упершыню я тут паглядзела па «відмагу» парнуху, села на іголку...» Хто такі Дзік?

— Дзік — гэта не прозвішча, мянушка...

— Каго так клікалі?

— Шэфа Спейса-Лысага, члена нашай тусоўкі.

— Як яго сапраўднае прозвішча?

— А калі я не скажу?

— Усё роўна даведаемся.

— Анастас Лапуноў.

## 20

У час апошняй сустрэчы ў падвале каманды «Рэтс» Спейс-Лысы не без гонару паведаміў:

— Заўтра нас прымае Дзік... У сваім доме...

— Нарэшце! Пасля доўгага маўчання! Ур-а-а! — пачуліся галасы.

— Не спяшайцеся, спачатку пойдзем мы: я, Цім, Таня...

— І Вадзім...— падказала Касмылёва.

— Кланяйцеся і плаціце князю аброк,— працягваў Лысы.— Захапіце па «чырвоненькай» і пабачыце цуды...

— Дык мы ж на днях распранулі аднаго з каманды «Кэтс», а куртку загналі. Грошы ж ёсць,— сказала Таня.

— Гэтых грошай будзе мала. Мы дадзім Дзіку на адну справу. У каго ёсць грошы, захапіце,— скончыў Спейс.

Назаўтра, як толькі прыцямнела, «пацукі», сярод якіх былі Таня і Вадзім, стаялі каля дома Дзіка. Гэта быў раён сельгаспасёлка. Цяпер яго было не пазнаць: вакол ішло будаўніцтва новых шматпавярховых жылых дамоў. А вуліцы і вулачкі, якія часцей за ўсё былі неасфальтаваныя, вузенькія і над якімі навісалі, як у вёсцы, галіны вішань, сліў і яблынь, цяжка было пазнаць. Многія прыватныя дамы былі знесены, на месцы іх валяліся друз і рыззё.

Дом, у якім жыў Дзік, інакш Анастас Лапуноў, стаяў паміж двух пустых. Іх гаспадары толькі што выехалі, атрымаўшы новыя кватэры.

Сярод цяністага саду патанаў ладны асабняк Лапуновых. Ён быў пабудаваны з белай цэглы, з верандай, мансардай. Пабудавалі яго бацькі Анастаса ўласнымі мазалямі. Але пасля таго як два сыны іх, Анатоль і Андрэй, загінулі: адзін на падводнай лодцы недзе на Поўначы, другі — у Афганістане,— нямілы стаў родны дом. Бацька, майстар на заводзе, запіў, трапіў пад машыну. Адзінай уцехай маці, хатняй гаспадыні, застаўся самы малодшы, Анастас, які пасля васьмі класаў пайшоў вучыцца ў ПТВ.

Аднойчы Анастас паставіў ультыматум:

— Хачу мець відэамагнітафон. За грошы, якія вы атрымліваеце за маіх братоў. Не трэба, каб рублі ляжалі ў панчосе. Анатоль і Андрэй былі вясёлыя хлопцы, любілі музыку: яны мяне пахвалілі б за гэтую ідэю. І ўрэшце, чаму я не магу як след пажыць і за сябе і за сваіх братоў? За што яны загінулі? Вось-вось... Ні за што! Дык хоць я пажыву.

Маці спачатку ўпарцілася, але пасля таго як Анастас заявіў, што кіне вучылішча, і перастаў хадзіць на заняткі, дала сыну грошы.

На другім годзе навучання Дзік разам з двума сябрукамі пабілі свайго выкладчыка. За тое, што той ставіў ім нездавальняючыя адзнакі. Падпільнавалі

вечарам, перад гэтым выпіўшы, і моцна адлупцавалі. Той падаў у суд. І Дзік разам з сябрукамі атрымаў два гады папраўча-працоўнай калоніі для непаўналетніх. Калі вярнуўся з калоніі, з дапамогай сваякоў уладкаваўся на завод. Тады і пазнаёміўся ён са Спейсам-Лысым.

Вечарам на гарадской дыскатэцы Спейс выйшаў пакурыць у туалет. Там стаялі гэткія ж хлопцы, як ён, і пыхкалі цыгарэтамі. Але вось усе пайшлі танцаваць, а адзін, таўсматы, нізкаваслы, з тварам, нібы абветраным на сіверы, са шрамам на носе, наколкамі на пальцах, застаўся дакурваць «прыміну». Спейс вырашыў загаварыць з ім першы. Слова за слова — і выявілася, што Дзік вучыўся ў тым жа вучылішчы, што і Лысы. Новы Спейсаў знаёмы назваў сябе Анастасам. Увесь вечар на дыскатэцы хлопцы былі побач і нават дамоў пайшлі разам. Пры развітанні Дзік даў свой адрас, пахваліўся, што ў яго ёсць відэамагнітафон, і дазволіў заходзіць. Пасля гэтага Спейс-Лысы пасябраваў з ім, перагледзеў ці не ўсе відэакасеты, якія невядома якім чынам даставаў гаспадар, упершыню паспрабаваў наркотыкі. Дзік жыў з хворай маці: гора, якое яна перанесла, забірала здароўе. Але парадак у хаце старалася падтрымліваць. Варыла ежу свайму адзінаму роднаму чалавеку, радуючыся, што дачакалася яго з калоніі.

Аднаго разу Спейс-Лысы падумаў, што ён даўнавата не бачыў Дзіка — пасля таго як прыносіў цыгарэты з траўкай у падвал «пацукам»,— і накіраваўся да яго. Да гэтага, днём і вечарам, заходзіў да Дзіка, але хата была на замку.

Першае, што заўважыў тады Лысы, калі ўвайшоў у дом (ён быў не замкнуты), дык гэта беспарадак. Ранейшай утульнасці, якую стварала Анастасава маці, тут цяпер не было. Усюды валялася смецце, нейкія абрыўкі паперы. Стаяла мёртвая цішыня. Нідзе нікога.

Тады Лысы вырашыў заглянуць у спальню, сунуўся туды... І застыў. На падлозе былі параскіданы недакуркі, бутэлькі, а на коўдры, якой быў накрыты Дзік, ляжалі пачка замежных цыгарэт і... шпрыц, самы звычайны медыцынскі шпрыц, якім робяць ін'екцыі. Спейс зразумеў, у чым справа, і пачаў катурхаць Дзіка. Той, не падымаючы галавы, нешта мармытаў, вымаўляў незразумелыя гукі. Некалькі секунд Лысы патаптаўся па недакурках і зноў пачаў катурхаць Дзіка. Нарэшце сябрук лыпнуў адным вокам, потым другім. І, як праз туман, глядзеў на Спейса.

— Анастас, ды гэта ж я... Ты што, не пазнаеш? Я... Спейс-Лысы...

І толькі тады Дзік нібы спусціўся з неба на зямлю, сказаў глуха і працяжна:

— А-а-а... Лы-сы? Здароў, Лы-сы.

— Што здарылася, Анастас? Чаму ў хаце такі беспарадак? Дзе маці?

— Ма-ці?! — як у летаргічным сне паўтарыў Дзік.— Маці няма ўжо больш як месяц... Аддала канцы...

— Хто тут быў у цябе? — Спейс рашыў не віляць, а запытаць адкрыта.

— Хочаш усё ведаць? Хутка пастарэеш,— выціснуў з сябе Дзік.

Лысы ведаў, што Дзік кінуў завод і нідзе не працуе. Але на ўсякі выпадак спытаў:

— Працуеш дзе?

— Дзе? Уладкаваўся ў кааператыў сантэхнікаў, абслугоўваю магазіны.

— Днём. А вечарам? Цябе апошнім часам не злавіць.

— А вечарам — вартаўніком у дзявочым інтэрнаце,— засмяяўся, нібы намякаючы на нешта, Дзік.

— Жартуеш? Скажы праўду.

— А ты праўдзіст, як я пагляджу. Цябе трэба

было б добра праверыць...— пільна глядзеў на Лысага Дзік.

— Ды ты што, не верыш мне?

— А чаму я табе павінен верыць? Я з табой дзяцей не няньчыў.

— Хочаш, паклянуся, што глуха ўсё будзе? — пастукаў сабе ў грудзі Спейс.

— Ладна. Вазьмі ў серванце «чарнільца». Нешта мне нядобрыцца.

Лысы падышоў да серванта, які стаяў у пярэднім пакоі, дастаў недапітую бутэльку партвейна «Херэс», прынёс у спальню. Дзік наліў у даўно нямытую шклянку віна, прапанаваў Спейсу. Той выпіў.

— Цяпер пакляніся: нікому ні гу-гу, што тут бачыў...

— Клянуся.

— Дык вось, тую траўку, анашу, якой я частаваў цябе, мне на рынку азіяты загналі. Тыя, што гандлююць ружамі. А гэты шпрыц і да шпрыца займеў у новых сяброў — літоўцаў. Яны і былі ў мяне ў гасцях. Гандлююць для прыліку на рынку кааператыўнымі «бананамі», «плашчоўкамі», а на самай справе — наркотыкамі. Там, на рынку, з імі і пазнаёміўся. Купляў у іх вось гэтую «шмотку»,— Дзік паказаў на скамечаны, брудны светла-шэры касцюм з плашчовай тканіны, які валяўся на крэсле.

Дзік гаварыў Лысаму праўду, адно толькі ўтойваў: за што набываў тую ж «плашчоўку» і наркотыкі. У кааператыве сантэхнікаў, у які яго ўзяў сын бацькавага сябра, Дзік лічыўся фармальна, каб не чаплялася міліцыя, што ён не працуе. А сам займаўся фарцоўкай: ездзіў у Прыбалтыку, скупляў моднае адзенне і перапрадаваў дома. Яшчэ пры жывой маці ён пачаў заганяць хатнія рэчы, касцюмы, курткі братоў, бацькавы паліто, дублёнку. А калі маці памерла, то пачаў прадаваць і яе рэчы.

...«Пацукі» сядзелі ў Дзіка ў пакоі, дзе стаяў відэамагнітафон і быў сякі-такі парадак. Анастас спачатку паставіў касету з кітайскім фільмам «Касталомы» — аб прыёмах каратэ. Зачараваў «пацукоў» дзядуля, гадоў пад сто, настаўнік і супермайстар каратэ, які лёгка спраўляўся з сапернікамі.

Дзік прынёс са спальні цыгарэту з анашой. Закурылі, кожны па чарзе зацягваўся, пачынаў чмурэць. У гэты час Анастас паставіў новую касету з амерыканскім парнаграфічным фільмам «Гарэм».

Пачалася бесцырымонная гамонка. Цыгарэта і фільм рабілі сваю справу. І тут Спейс-Лысы загаварыў пра шпрыц.

— Як гэта паспрабаваць укольчыка, Анастас? — цягуча звярнуўся ён да Дзіка.— Не ведаю, з чым яго ядуць. Ні разу не даводзілася...

— Гэ,— гікнуў Дзік.— Гэтая раскоша не проста здабываецца і робіцца. Патрэбен мак. Сябры з Прыбалтыкі прывезлі мне крышку гэтага бальзаму. Але ўвесь яго ўжыў.

— Мак? — паўтарыў Спейс.— Ды яго ж цяпер усюды забаранілі сеяць.

— Есць яшчэ мясцінкі...— ківаўся Дзік.

— Я ведаю,— раптам уклініўся ў гаворку Вадзім.— У нас на дачах у некаторых сярод кропу спее.

— О-о! Ідэя: сходзім на вашы дачы, Вадзім! — падхапіў Цім.— Я быў у вас, ведаю.

— Я з вамі, хлопчыкі! — усхапілася з крэсла Таня.— І я была там...

— Бачу, у вас дзеўка што трэба,— пахваліў Анастас Таню, падышоў да яе, прыціснуў да сябе.

— Ну, не хапай, шэф,— папярэдзіў Спейс-Лысы.— Яна «нарачоная» вось гэтага прыгажуна,— паказаў на Вадзіма.— А яшчэ — наша агульная прынцэса.

Дзік па-дзікунску (можа, за гэта і далі яму такую мянушку ў калоніі?) зарагатаў і скамандаваў:

— Усё, ганіце па «чырвоненькай», на сёння хопіць. Разбягайцеся без лішняга шуму. І каб нідзе,— грозна папярэдзіў,— ні гу-гу...

* * *

## З ДОПЫТУ Ў СЛЕДЧАГА

— Таня, ты запісала ў сваім дзённіку пасля сёмага класа: «План згвалтавання Рагозінай, які я распрацавала, не ўдаўся. Дарэмна толькі сапсавала лёс хлопцам. І невыносна на душы з-за Вадзіма! Сядзе ні за што. Але нічога — яшчэ не вечар...

Чэрвень. Пятроўшчына».

Раскажы, як усё было.

— Падрабязна? Ліпнеце, як смала...

— Інакш не можам. Надта ж сур'ёзная справа. І прашу не маніць, гаварыць сумленна. Для цябе будзе лепш.

## 21

Чэрвень выдаўся гарачы, сонца свяціла спякотна ледзь не штодзень. На небе — ні воблачка. А на зямлі трава і лісце дрэў курчыліся ад бязлітасных промняў.

У такую пару і прыехалі ў саўгас «Пятроўшчына», што за трыццаць кіламетраў ад горада, вучні сёмых класаў, пакуль яшчэ сёмых, праходзіць месячную вытворчую практыку. У двухпавярховым цагляным будынку, які быў спецыяльна пабудаваны саўгасам для школьных практыкантаў, і пасяліліся шэсць паралельных сёмых класаў і адзін спецыялізаваны матэматычны. У кожным невялікім пакоі звычайна жылі чатыры вучні.

Суседкамі Веранікі Рагозінай былі аднакласніцы Ірына Лысёнак, Каця Скакун і Тамара Гога. Дзяўчынкі жылі на другім паверсе. Вадзім Цэхановіч, як і ўсе

хлапчукі, пасяліўся на першым паверсе ў адным пакоі з Сяргеем Дубовікам, Аляксеем Булатам і Антонам Сухавеем. Усе з сёмага «С». А Таня Касмылёва не захацела жыць са сваімі аднакласніцамі і папрасілася пасяліць яе з Аняй Крываручка, Вольгай Старасценка і Верай Свістуновіч з сёмага «Б». Заявіла: інакш уцячэ з практыкі. У Тані былі свае планы. З аднакласніцамі яна не сябравала, таму і тут не пажадала жыць разам.

Перад ад'ездам Таня ледзь не пасварылася з маці. Яна ўведала, што Вадзім пасля практыкі едзе ў піянерлагер «Зялёны гай».

— Даставай пуцёўку ў лагер, ма, а то...

— Што?..— не зразумела Маргарыта Іосіфаўна.

— ...уцяку куды-небудзь...

— Таня, што ты гаворыш, апомніся!

— Папрасі добра ў Канстанціна Сяргеевіча пуцёвачку. Ён усё можа. Нават новага мужа знайшоў табе...

— Што, што? — не паверыла пачутаму Маргарыта Іосіфаўна.

— Ты думаеш, я маленькая, дурненькая, не чую, як вы ў нашым другім пакоі пра ўсё гаворыце з сябрам Канстанціна Сяргеевіча?! Каб ведаў бацька...

— Я прашу цябе, больш пра гэта нідзе ні слова...

— Толькі тады, калі будзе пуцёўка.

— Новыя «адзідасаўскія» красоўкі, заходнегерманскія касеты ты атрымала. Табе яшчэ мала? Падзякавала б хоць Віктару Міхайлавічу, які табе ўсё гэта прывёз.

— Хачу ў «Зялёны гай»!

— Ну, ладна. Паспрабую...— здалася Маргарыта Іосіфаўна.

Перад ад'ездам на практыку Таня сустрэлася ў падвале, новым месцы збору тусоўкі, з Цімам і Спейсам і прапанавала ім свой план:

— Хлопчыкі, чакаю вас у адзін з выхадных у Пятроўшчыне. Гэта трыццаць кіламетраў ад горада на

поўдзень. Мы будзем там праходзіць практыку. Ёсць ідэйка. Там будуць Вадзім Цэхановіч і Вераніка Рагозіна. Мне, прынцэсе, надакучыла бачыць, як яна чапляецца да яго. Я адна хачу быць з Вадзімам. Трэба нешта зрабіць з ёй. А вы разумееце, што... Я пастараюся вам дапамагчы. Згода?

— Пра што гаворка, прынцэса! — засмяяўся Спейс.

— Не падвядзём. Можаш не сумнявацца,— падтрымаў сябра Цім.

У суботу вечарам Таня сядзела на сваім ложку ў інтэрнаце. Суседкі збіраліся пасля праполкі цукровых буракоў у мясцовую лазню.

— Пойдзеш, Таня, з намі? — спытала Вольга Старасценка.

— Ды вы што? Там жа мыюцца адны брудныя саўгаснікі. Я лепей у горад з'езджу. У ванне памыюся. Ды вось-вось да мяне павінны прыехаць сябры.

— Кажуць, у клубе сёння будуць канцэрт, дыскатэка,— кладучы ў цэлафанавы мяшок мачалку і шампунь, сказала Вера Свістуновіч.— Трэба памыцца...

— Я ведаю, што будзе выступаць Вераніка Рагозіна з сёмага «С» са сваімі тэлевізійнымі ролямі,— іранічна скрывілася Таня.— Яна і мясцовая артыстка Нінка рыжая, кажуць, спеліся...

— А я бачыла, як Вераніка з мамай пайшлі на аўтобусны прыпынак,— падала голас з кутка Аня Крываручка.— Відаць, у горад паехалі...

— Не можа быць! — ускочыла з ложка Таня.— А як жа канцэрт?

— Без яе абыдуцца... Ёй, мусіць, тэрмінова трэба было дамоў,— выказала сваё меркаванне Вольга Старасценка.

Таня гэтага не чакала. Яна рыхтавалася да сённяшняга вечара. Хадзіла на возера, якое было за вёскай, каля невялікага гаю. Берагі возера параслі густым кустоўем. Тут адпачывала вясковая моладзь. «Сюды,

сюды неабходна завабіць Рагозіну...» — вірыла ў яе галаве адна думка. Па дарозе назад сустрэла Нінку рыжую, як называлі ў Пятроўшчыне тутэйшую васьмікласніцу Ніну Лескавец за яе выфарбаваныя ў рыжы колер валасы. Скончыўшы восем класаў, яна нікуды не паступала, збіралася ісці ў дзевяты клас. І таму пакуль дапамагала ў клубе загадчыцы арганізоўваць канцэрты.

Ніна, сама аматар і ўдзельніца мастацкай самадзейнасці, у першыя ж дні, калі прыехалі школьныя практыканты ў саўгас, разведала, хто з гарадскіх вучняў мае артыстычны талент. У групу артыстаў трапіла і Вераніка, нават пасябравала з Лескавец. На першай рэпетыцыі Вераніка зачаравала Ніну сваёй Асоллю з «Пунсовых ветразяў». Тая доўга хадзіла пад уражаннем, якое зрабіла на яе Вераніка сваёй гераіняй. Пра гэта ведала і Касмылёва. Аднойчы яна трапіла на такую рэпетыцыю, дзе Ніна з захапленнем глядзела на Вераніку-Асоль.

— Фі, чарэшня! Хронікі! — засмяялася Таня. Гэтыя словы мелі прыкладна наступны змест: ідэйныя, зацыкленыя дурні. На што Ніна, доўга не думаючы, адказала:

— Чувіха ты ў суперсучаснай форме, што ты разумееш? — Ніна была вострая на язык. Яна бачыла, як Таня, высока задраўшы нос, праходзіла каля вясковых дзяўчынак, нафарбаваная, модна апранутая.

Касмылёва гэта запомніла. Яна, прынцэса, не магла дараваць нейкай простай вясковай дзяўчыне.

— Эй, ты, зацыкленая,— кінула Таня і цяпер наўздагон Ніне, калі тая, параўняўшыся, не глянуўшы на Касмылёву, спакойна пакрочыла далей.— Вітацца трэба...

— А я з такімі чувіхамі не вітаюся,— спакойна адказала Лескавец.

І вось Таня сядзела адна ў пакоі, суседкі, якія

вярнуліся з лазні, пайшлі ў клуб, і думала, што рабіць, калі прыедуць Спейс і Цім. Веранікі няма, адна Нінка,— што ж, варта хоць яе правучыць. Такога нахабства яна даўно не ведала. Каму, ёй, прынцэсе, такое сказаць? Не, гэтага яна не сцерпіць. Адпомсціць, абавязкова адпомсціць!

Спейс і Цім з'явіліся, калі ўжо пачынала цямнець. Пакой нумар 25, у якім жыла Таня, ім паказала цётка Дуся, якая тут дзяжурыла.

Адчыніўшы дзверы пакоя, «пацукі» ўбачылі на ложку Таню. Яна ляжала на баку ў хатнім халаце.

— Прывітанне працаўнікам палёў! — кінуў з дзвярэй Спейс.

Таня паднялася, падбегла да Ціма, Лысага, чмокнула іх у шчокі.

— Што новага, прынцэса? — спытаў Цім.

— Праваліўся план, хлопчыкі. Рагозіна змылася ў горад. Але тут ёсць адна асоба... Даручаю вам з ёю пазнаёміцца. Не падабаецца яна мне. Чувіхай мяне называе, не вітаецца. І з кім? Са мной!

— Хто яна? — спытаў Цім.

— Нінка рыжая... Мясцовая чмошня... На год старэйшая за мяне. У мясцовым клубе самадзейкай займаецца. Цьфу! Перажыткам мінулага...

— Чувіхай называе, кажаш? Не ведае козачка, што ты даўно Айранмэйдан... Не апраўдваеш тытула свайго, прынцэса,— са смяшком працадзіў Спейс.

— Не хочацца пэцкаць рукі. І ўвогуле, псаваць настрой сабе і настаўнікам з-за такой пліскі,— адказала з гонарам Таня.— Увогуле, я стараюся тут асабліва не вытыркацца. Ведаю, што вы самі цудоўна справіцеся, так? — зрабіла націск на слова «вы».— Дарэчы, тут ёсць прыгожае возера. Паспрабуйце завабіць Нінку туды.

— Не хвалюйся, прынцэса,— хадзіў па пакоі Спейс.— А дзе Вадзім? — раптам запытаў ён.

— Пайшоў у лазню. Яны, хлопцы, ходзяць пасля дзяўчынак. Абяцаў зайсці.

— Дыскатэка хоць сёння ў вас будзе? — звярнуўся да Тані Цім.

— Абавязкова! Цяпер ідзе ў клубе канцэрт, нашы зялёныя артысты з Нінкай на сцэне крыўляюцца. А пасля канцэрта будзе дыскатэка...— Памаўчаўшы, Касмылёва спытала: — А як у вас справы? Амаль месяц не бачыліся...

— Як мае быць! — прыцішыў магнітафон Цім.

— Былі ў Дзіка. Пачаставаў траўкай,— пачаў даставаць з кішэні цыгарэты Спейс.

— Хлопчыкі, дайце хоць раз зацягнуцца. Сто гадоў не спрабавала,— падскочыла да Лысага Таня.

— Пачакаем Вадзіма,— сказаў той.— У нас і да траўкі ёсць нешта...— паказаў на спартыўную сумку, каля якой сядзеў Цім.— Толькі як тут у вас, можна? Не зловяць?

— Настаўнікі паехалі ў горад або на канцэрце,— адказала Таня.— Можна...

Вадзім, лёгкі на ўспамін, нібы вырас у дзвярах. Пасвяжэлы, расчырванелы пасля лазні.

— Цябе не пазнаць! — амаль разам выгукнулі Спейс і Цім, да якіх падышоў Вадзім, падаў руку.

— Перад дыскатэкай вырашыў памыцца.

— Правільна, меней поту будзеш выдзяляць на танцах,— Цім даставаў з сумкі бутэльку гарэлкі.— А вось без гэтага дрэнна на дыскатэцы,— паставіў «Пшанічную» на стол, палез зноў у сумку.

— Ну, хлопчыкі, вы малайцы! — усклікнула Таня.— Толькі закусі няма, адны цукеркі,— падсунула бліжэй да бутэлькі кулёк карамеляў. Паправіла шклянкі.

— Есць і закусь,— Цім паклаў на стол каўбасу, хлеб, кансервы, пачаў адкаркоўваць бутэльку.

Пасля выпітых грамаў пачалася бурная гамонка. Закурылі цыгарэту з анашой.

Яшчэ пасядзелі крыху, пабалдзелі і рушылі на дыскатэку. Таня павяла кампанію па сцяжынцы праз сад, зарослы травой. За ім стаяў мясцовы клуб. Сярод травы, разлапістых яблынь іх было не відаць. Вырашылі зайсці з тыльнага боку. У разведку ў клуб пайшла Таня, астатнія засталіся ў садзе. Каля клуба тапталіся вясковыя хлопцы. Таня спытала ў іх, хто ў клубе ёсць з дарослых.

— Настаўнік, гэткі пузаты і смяшлівы, і настаўніца, худая, строгая,— адказалі хлопцы і зарагаталі.

Настаўнік «пузаты і смяшлівы» — ясна хто: географ, Бублік, Максім Яўсеевіч. А «настаўніца худая і строгая»? Ці не выкладчыца англійскай Гуз? Астатнія выкладчыкі на выхадныя паехалі ў горад. Кожныя выхадныя два-тры настаўнікі заставаліся дзяжурыць у інтэрнаце, астатнія ад'язджалі дамоў у горад. Ездзілі і многія вучні. З бацькамі і без бацькоў.

Таня вярнулася ў сад, дзе чакалі яе сябры. Расказала пра сітуацыю і прапанавала:

— Ідзём у клуб па адным... Танцуем разам з усімі...

Першая ў клуб увайшла Касмылёва. Пад рытмічныя гукі музыкі пасярэдзіне залы танцавалі хлапчукі і дзяўчынкі. На сцэне стаяў магнітафон са святламузыкай. Пад кожны музычны такт у зале бліскалі агні-мігалкі: жоўты, сіні, чырвоны, зялёны... Каля сцэны на ссунутых крэслах сядзелі географ Максім Яўсеевіч Мяцёлкін і «англічанка» Валянціна Сідараўна Гуз і нешта паміж сабой гаварылі. Нінка рыжая круцілася каля магнітафона, за якім сядзеў белабрысы хлопец. Ен уключаў і выключаў магнітафон, мяняў касеты.

Таня адразу рынулася ў танец. Незаўважна адзін за адным прыйшлі спачатку Вадзім, потым Спейс, Цім і адразу далучыліся да танцораў. Таня сярод шуму і гаманы паспела сказаць Спейсу, калі той наблізіўся да яе:

— «Красты» і «піжоны» сабраліся разам.— «Крастамі» на блатным жаргоне называлі вясковую моладзь, а «піжонамі» — гарадскую.— Нінка рыжая вунь на сцэне каля магнітафона...

— Зразумеў...— прашаптаў Лысы.

Неўзабаве са сцэны спусцілася Лескавец. Палілася мелодыя, спакойная, чароўная. Агні-мігалкі цяпер не раздражнялі, а наадварот, здавалася, супакойвалі: яны мяняліся павольна. Хлапчукі запрашалі дзяўчынак на танец. Падышоў да Ніны і Спейс. Лысы прыкінуўся, што ён нічога не ведае пра Ніну, калі пачалі знаёміцца.

— Ягор! — зманіў Спейс, калі Лескавец запытала, як яго завуць? — А вас?

— Ніна.

— Ніна? Якое экзатычнае імя! Цяпер такое імя днём з агнём трэба шукаць,— жартаваў Лысы.— А мне пашанцавала: само ў рукі прыплыло...

— Ну, так і прыплыло...— усміхнулася Ніна.— А вы адкуль прыехалі?

— Здалёк... У госці да аднаго практыканта...

— Да каго, калі не сакрэт?

— Вунь да таго прыгажуна,— Спейс паказаў на Вадзіма.

— Ведаю. Бачыла. Ён з Веранікай Рагозінай прыходзіў на рэпетыцыю. Дарэчы, вы не ведаеце Вераніку? — Спейс хітнуў галавой.— Шкада, што сёння не давялося ёй у канцэрце выступіць. Прыехала мама і забрала яе: памерла бабуля. Вы не бачылі яе ў ролі Асоль! Гэта непаўторна! Казала, што яна іграла гераіню Аляксандра Грына ў тэлеспектаклі. Шкада, я не бачыла...

— А ці любіць Ніна сучасную музыку? — перайшоў на іншае Лысы.

— Вельмі люблю! Сама ў самадзейнасці ўдзельнічаю. Іграю на акардэоне. Пяю. Сёння выступала

ў канцэрце. Не бачылі? — Ніна не адышла яшчэ ад выступлення, была ўзбуджана.

— Не, мы толькі прыехалі. Нядаўна.

— Чаму так позна?

— З сябрам — вунь ён танцуе з белавалосай дзяўчынкай,— Спейс паказаў на Ціма,— мы вучымся ў музычным вучылішчы. Пасля заняткаў у нас заўсёды практычныя. Пакуль адпрацавалі, выбраліся, дык і зашарэла,— ілгаў Лысы.

Ніна паверыла, што з ёю танцуе будучы музыкант-прафесіянал, і пацікавілася:

— А на чым вы іграеце?

— На флейце. Калі Ніна не супраць, мы з сябрам можам хоць зараз на ёй пайграць. Дудка ляжыць у пакоі ў Вадзіма. Не было куды яе дзець. Захапілі пасля заняткаў з сабой. Хадзем!

Лескавец згадзілася: гэты незвычайны, як ёй здалося, хлопец не на жарт зацікавіў.

Праз некалькі хвілін Спейс, Цім і Ніна крочылі ў бок інтэрната. Таня і Вадзім, згледзеўшы, што сябры зніклі, таксама выйшлі з клуба. Першай мінула тройцу Таня, не паказала выгляду, што ведае хоць каго-небудзь і пабегла паперадзе. Вадзіма хлопцы спынілі. Перакінуліся некалькімі словамі, Вадзім павітаўся з Нінай, тая ў адказ усміхнулася яму. Калі параўняліся з інтэрнатам, Цім шапнуў Вадзіму: маўляў, бяжы, вазьмі магнітафон.

Вадзім ведаў, што Цімаў магнітафон у Таніным пакоі. Таму адразу і пабег туды. Таня сядзела на ложку, калі ўвайшоў Вадзім.

— Дай магнітафон... Папрасілі хлопцы...

— Перадай і вяртайся назад.

— А ты тут будзеш? З намі не пойдзеш?

— Хутка вернуцца дзеўкі з клуба. Заходзь да нас абавязкова. А хлопцы няхай... няхай пазабаўляюцца

з гэтай Нінкай... Чуеш, Вадзім, вяртайся! — кінула наўздагон.

Вадзім пабег, схапіўшы магнітафон, а Таня засталася адна. Яна перажывала, каб хоць Вадзім не ўблытаўся ў гісторыю. Яна яму спецыяльна не расказвала, чаго прыехалі Спейс і Цім. Так, праведаць іх...

Пакуль Вадзім выбег з інтэрната, тройца была ўжо далекавата: у цемры, якая апусцілася над зямлёй, не было чутно нават крокаў па гравійцы. І Вадзім прыпусціўся бегчы. Дагнаў у канцы вёскі, недалёка ад возера. Вяртацца яму не хацелася. Дый сябры падахвоцілі застацца. Асабліва прасіла, ледзь не малілася Ніна: яна пачула, як пстрыкнуў клавіш магнітафона і ў цемры загучала рок-музыка. Ніна зразумела: флейта — гэта звычайны жарт гарадскога хлопца. А Вадзім быў Ніне ўсё ж крыху знаёмы.

Засвяцілася ў цемры, як зорка ў небе, невялікае возера. Кампанія набліжалася да яго, смеючыся пад музыку. Па дарозе Спейс дастаў цыгарэты, тыя самыя, з анашой, прапанаваў Ніне:

— Цыгарэткі незвычайныя, закуры...

— Я куру гады ў рады,— пажартавала, адвяла ўбок Спейсаву руку з цыгарэтай Ніна.

— Ну, навошта ж так...— зазлаваў Спейс, але тут жа супакоіўся.

Пайшлі па беразе. Паабапал возера раслі чарот, трысцёг, кусты алешніку, крушыны. Непадалёк стаяў невысокі гай. Ніна ішла з кампаніяй на тое месца, дзе звычайна вясковая моладзь раскладвала вогнішчы. Гэта быў узлобак паміж возерам і гаем. Там, думала Ніна, і яны распаляць цяпельца, пагамоняць... Падышлі да попелішча. Над ім высока ўгары, нібы ў прысаку вуглі, гарэлі дзве зоркі. Селі на калодкі, якія прынеслі сюды, відаць, вясковыя хлапчукі.

— Давайце распалім вогнішча,— сказала Ніна.— Запалкі ёсць, а сушняку знойдзем...

— Вогнішча не будзе...— раптам устаў Спейс.

— Яно толькі будзе прыцягваць увагу...— шматзначна вымавіў Цім.

— Усё-ткі, хлопцы, я заскочу ў гаёк, пашукаю сухіх галінак,— і Вадзім знік у цемры.

— Дзівак! — плюнуў у старое попелішча Лысы. Мацней зацягнуўся цыгарэтай, тое ж зрабіў і Цім.

Спейс падышоў да Ніны, узяў за валасы, уставіў ёй цыгарэту ў губы:

— Куры! — загадаў.

— Ну навошта ж так груба? Я і сама магу...— крутнулася Ніна. Затым узяла цыгарэту са Спейсавых рук, крыху пацягнула: разумела, так будзе лепш. Але смак цыгарэты ёй не спадабаўся, і яна кінула яе ў попел. Ніна не ведала, што гэта была за цыгарэта...

Гэтая Нініна неразважлівасць раз'юшыла «пацукоў». Яны зараз сапраўды былі падобны на пацукоў, якія раптоўна кідаюцца на сваю ахвяру. Спейс і Цім, як па камандзе, падскочылі да Ніны: закруцілі назад рукі, заткнулі рот, ірванулі адзенне. Зляцела лёгкая вятроўка, затрашчалі блузка і плашчовая спаднічка...

Калі Вадзім вярнуўся з гаю, ад убачанага самохаць выпусціў з рук абярэмак сушняку. У руках Спейса і Ціма, як злоўленая птушка, білася амаль голая Ніна...

— Трымай! — прасіпелі, сапучы, Спейс і Цім, калі згледзелі Вадзіма.

Цемра над возерам і гаем, нібыта бездань, праглынула адчайны Нінін крык. Дзве зоркі, якія віселі над галавой, жахліва здрыгануліся, мігнулі апошні раз і патухлі...

* * *

## З ДОПЫТУ Ў СЛЕДЧАГА

— Маргарыта Іосіфаўна, прабачце, апошняе пытанне да вас. Паслухайце, што напісала ў канцы свайго дзённіка Таня: «Маці аказалася той, якой я і думала... Прывяла жыць дамоў палюбоўніка пры жывым мужы. Мы з ёю зараз зусім не знаходзім агульнай мовы. Я ўцякла з дому. Жыву ў шэфа. Шэф мяне разумее лепш, чым маці...»

Што вы можаце сказаць на гэта?

— Што я магу сказаць? З мужам мы развядзёмся, як толькі ён адбудзе тэрмін. Вось толькі не разумею, у якога шэфа Таня жыла? Мне казала, што ў сяброўкі...

## 22

Маргарыта Іосіфаўна па-ранейшаму сустракалася з Віктарам Міхайлавічам. Аднойчы, пасля таго як Таня прыехала ■ вытворчай практыкі з Пятроўшчыны, яна прывяла яго дамоў і перад дачкой заявіла:

— Дзядзька Віктар будзе жыць у нас. Яму няма дзе прытуліцца. Шукае кватэру...

Таня толькі хіхікнула: маўляў, каго падманваеш, мама? Быццам дачка нічога не разумее,— і, стукнуўшы дзвярыма, схавалася ў сваім пакоі.

Канчаўся ліпень. У Тані быў зараз ці не самы складаны час у жыцці. Некалькі разоў ездзіла да Дзіка, але ў таго дом увесь час быў на замку. Дома з маці яна амаль не размаўляла. У піянерскі лагер не паехала. Падвёў Вадзім. Ен разам са Спейсам і Цімам сядзеў да суда ў ізалятары папярэдняга зняволення. Амаль месяц ужо ішло следства. Спейс, Цім і часткова Вадзім згвалтаванне Ніны Лескавец бралі на сябе. Таню яны не выдалі. Вядома, яна не хацела, каб асудзілі Вадзіма.

І калі б можна было, яна пайшла б на суд, і, магчыма, выгарадзіла яго. Маўляў, Вадзім трапіў на возера выпадкова, з-за нейкага магнітафона. Аднак ёй нельга было з'яўляцца на суд. Мала што магло там быць. Уся надзея была на Нінку рыжую. «Можа, яна пашкадуе Вадзіма... Яна ж бачыла, што ён сябруе з Рагозінай. Эх, каб жа так было! Гэтая Нінка, можна быць упэўненай, нікому не даруе. Але добра, што яна нават не здагадваецца, хто найбольш вінаваты ў яе няшчасці...»

Тані цяпер было сумна, як ніколі. Пад следствам сядзелі лепшыя сябры. Астатнія «пацукі», пачуўшы, што здарылася са Спейсам, Цімам і Вадзімам, прыціхлі, прытаіліся. Пра нейкія сустрэчы ў падвале і размовы не было...

Таня невылазна сядзела дома ў сваім пакоі. Слухала рок-музыку, перачытвала дзённік. Усё было агіднае. І гэтыя музычныя рытмы, і гэтыя запісы ў дзённіку, якія яна рабіла, здаецца, ужо вечнасць. А навошта? Каб пасля было лепш успомніць? Калі? Калі скончыцца гэты непрыкаяны ўзрост? Ранняе юнацтва? Кажуць, усе вялікія людзі вялі дзённікі. А хто яна, Таня? Вядома ж, не звычайная, не як усе. Яна — прынцэса. І гэтым сказана ўсё. А можа, гэты дзённік для таго, каб не толькі яна, але і яшчэ нехта некалі прачытаў. Прачытаў і задумаўся. А задумацца, безумоўна, ёсць над чым...

Невядома колькі яшчэ сядзела б Таня ў адзіноце, каб не зайшла Маргарыта Іосіфаўна. Яна сёння раней прыйшла з працы — заўтра пачынаўся перападлік тавараў у «Модзе». Таня хуценька закрыла сшытак у чорнай вокладцы і паклала ў шуфляду стала.

— Што ты там хаваеш? — строга запытала, стоячы ў дзвярах, маці.

— А нічога. Якая табе розніца. Звычайны агульны сшытак...— абыякава адказала Таня.

— Пайшла б пагуляла... Што ты ўсё дома сядзіш?

— Добра, што ты гуляеш са сваім новым мужам. Чакаеш ужо яго. Чакай! Кватарантам назвала. Усё бацьку раскажу, ён хутка вернецца. Вось тады пабачыш!

— Расказвай, я ўсё роўна з ім развядуся. Ты лепей скажы, быў суд у Вадзіма Цэхановіча? Як жа такое магло з ім здарыцца? Вы ж у той Пятроўшчыне разам былі. Такі хлопец!

— Разам былі...— хмыкнуўшы, паўтарыла Таня.— Да Вадзіма маці і бацька прыязджалі, а ты да мяне — ні разу.

— Калі мне было? Я ж познаканчаю работу. Без выхадных і прахадных працуеш. План гоніш. Ці ведаеш, які ён у нас?

— Знаю я гэты план. Ты думаеш, я маленькая. Нічога не кумекаю. Памыляешся, мама. Я пра цябе болей ведаю, чым ты пра мяне.— Таня яхідна скрывілася.

— Дык раскажы, каб я нарэшце зразумела, хто ты?

— Многа хочаш... Сама павінна была бачыць. Ты ж не сляпая. Вочы маеш. Дзе ты была? — Таня пачынала грубіяніць, або, як кажуць, заводзіцца.

Маргарыту Іосіфаўну нібы ўдарыла токам. Яна занервавалася, наструнілася.

— А што я табе даставала ўсё моднае па твайму заказу, дык гэта не лічыцца? Дзе я тады была? — паўтарыла Таніны словы.

— Вось там, у сваёй «Модзе», і сядзела. Прасядзела дачку. Цю-цю...— скрывіла губы Таня.— Па-сучаснаму гэта называецца выхаванне шмоткамі. Калі ты кнігу чытала, у тэатры была? У мінулым стагоддзі? Па рэстаранах ходзіш... з хахалямі. А ты хочаш, каб дачка твая лепшай была...— Такую Таню Маргарыта Іосіфаўна яшчэ не бачыла. Гэтак яна з маці дасюль не размаўляла.

Маргарыта Іосіфаўна ўспыхнула, нібы порах:

— Ты мяне будзеш асуджаць? Смаркачка яшчэ! Вон адсюль! — крыкнула з лютай злосцю.

Таню быццам апарылі кіпенем, яна закруцілася на месцы, пачала нешта шукаць на стале, у шуфлядах. Маці тым часам павярнулася і пакрочыла ў свой пакой. Таня ўзяла спартыўную сумку, з якой хадзіла ў школу, паклала туды некалькі кніг для прыліку, паміж іх усадзіла сшытак у чорнай вокладцы — дзённік — і, ляснуўшы дзвярыма, выбегла на вуліцу. Куды пайсці — не ведала. Родзічаў у горадзе не было: бабуля і дзядуля памерлі. І сябровак няма, у якіх можна пабыць. Наперадзе ўбачыла аўтобусны прыпынак. Куды? Застаецца адно: да Дзіка. Можа, ён сёння будзе дома...

Таня ўскочыла ў аўтобус, які ішоў у бок былога сельгаспасёлка. Праз паўгадзіны яна была там.

Дзверы ў доме Дзіка гэтым разам былі не замкнёныя. Таня ўвайшла ў хату — той жа беспарадак, што і тады, калі яны, Спейс, Цім, Вадзім і Таня, упершыню наведалі Лапунова. А дзе ж сам Анастас? Недзе на кухні пачула пакрэктванне. Увайшла. Дзік вячэраў. Еў яешню...

— Не пазнаеш? — Таня глядзела на Анастаса, які сядзеў у майцы.— Прывітанне! Таню не помніш? Спейс, Цім, Вадзім,— назвала сяброў.

— А-а-а...— працяжна прагудзеў Дзік.— Чаму ж не помню... Прынцэсай цябе клікалі хлопцы.

— Анастас,— Таня падышла бліжэй, з горыччу загаварыла,— хлопцаў няма, сядзяць пад следствам...

— За што?

— Згвалцілі адну пліску ў вёсцы, калі мы былі на практыцы. Пабралі іх...

— Ты глядзі! — перастаў чмякаць Дзік.

— Я пасварылася з маці. Уцякла з дому. Ці не пусціш на начлег? Больш няма куды...— загаварыла смела, як дарослая.

— Толькі ненадоўга. Могуць убачыць. Бывае, ходзяць тут розныя цікаўныя...

— А мне і трэба ўсяго некалькі дзён, каб пастрашыць маці.

— Ідзі ў пярэднюю, зараз прыйду, уключу відэамагнітафон. Новая касета ёсць...

Таня пражыла ў Дзіка пяць дзён. За гэты час яна перагледзела ўсе касеты, якія былі ў яго, паспрабавала макавага «бальзаму», яшчэ нешта з наркатычнага арсеналу новага сябра. Калі Таня развітвалася з Анастасам, той сказаў:

— Заходзь, прынцэса, у любы час. Такому госцю мы заўсёды будзем рады.

Дома маці, якая ўжо абзваніла ўсіх знаёмых і падала ў росшук у міліцыю, Таня сказала, што жыла ў сяброўкі. У якой — не паведаміла...

* * *

## З ДОПЫТУ Ў СЛЕДЧАГА

— Таня, ты ў сваім дзённіку запісала: «Ездзіла ў калонію да Вадзіма. Сустрэлася там з Рагозінай. Дзіўнае супадзенне!» А праз некаторы час дапісала: «Не чакаць міласці ад прыроды... Трэба дзейнічаць! Цяпер адна надзея на шэфа...»

Калі адбылася гэтая паездка?

— У верасні.

— Хто такі шэф? Анастас Лапуноў?

— Ён.

## 23

Касыя промні сонца апошніх вераснёўскіх дзён хоць і свяцілі лагодна, але ўжо не надта грэлі. Раніцай пацягвала прахалодай з нізін, росы на травах пяклі,

нібы жыгучка-крапіва. То там, то сям дрэвы скідалі на зямлю медзякі лістоты.

Цягнік, у якім ехалі Вераніка Рагозіна і Таня Касмылёва, падыходзіў да Віцебска. У розных вагонах адна і другая ехалі да Вадзіма Цэхановіча. Суд, які адбыўся ў пачатку жніўня пасля месяца следства, вынес Вадзіму пакаранне: тры гады зняволення з адбыццём у выхаваўча-працоўнай калоніі для непаўналетніх. Спейс і Цім таксама атрымалі сваё і адбывалі тэрмін у іншых калоніях.

Як толькі цягнік спыніўся, усе пасажыры рушылі на перон. Выйшлі Вераніка і Таня. Яны не заўважалі адна адну сярод натоўпу. Як і некалькі гадзін назад, калі ад'язджалі.

На аўтобус Вераніка адразу не пайшла, вырашыла зайсці ў буфет на вакзале што-небудзь купіць Вадзіму. Стала ў чаргу. А Таня тым часам ехала ў аўтобусе на вуліцу Гагарына, на якой знаходзілася калонія.

У сваіх пісьмах і Вераніка, і Таня паведамлялі, што прыедуць да Вадзіма ў канцы верасня і менавіта ў суботу. Супадзенне было выпадковае. Вадзім, атрымаўшы лісты ад іх, не на жарт захваляваўся. Трэба было тэрмінова нешта прыдумаць. Ад каго ён больш навін даведаецца? Ад Тані, вядома ж. Хацелася ведаць, дзе Спейс і Цім, куды іх накіравалі. Таму напісаў Вераніцы, каб не ехала ў суботу. Маўляў, у гэты дзень яго не пусцяць з ёю пагутарыць. Вадзіма, акрамя ўсяго, мучыла сумленне, хоць якое там ужо сумленне: проста яму было цяжка глядзець у вочы Вераніцы і маніць, як рабіў ён дагэтуль. А зараз вось тут, у калоніі, сутыкнуўшыся са злачынцамі, можна пры сустрэчы з Веранікай і заплакаць...

Вераніка і напраўду была ўсё тая ж: яна верыла Вадзіму, кахала яго. І гэты прысуд яму лічыла недарэчным выпадкам. Не, Вераніка не брала ўсё напавер. Яна

перш-наперш сустрэлася з Нінай Лескавец. За час практыкі яны абедзве зблізіліся, пасябравалі. Ніна расказвала, што Вадзім там, на возеры, на яе просьбу дараспаліць вогнішча пайшоў у гай шукаць галлё. А далей... Далей яна не помніла, дзе быў, што рабіў Вадзім. Цемень, страх, барацьба засланілі ўсё, паблыталі думкі, зацямнілі свядомасць... Праўда, у апошні момант, лежачы ў беспрытомнасці на сырой зямлі, Ніна пачула Вадзімаў голас: «Не трэба ў возера, хлопцы! Страшна! Яна ж яшчэ дзяўчынка...» У гэты час недзе здалёк засвяцілі фары машыны. І нехта з «пацукоў» крыкнуў: «Разбягаемся! Хутчэй...»

Вераніка не сумнявалася, што Вадзім там, на возеры, нічога дрэннага не рабіў. Нінін расказ яшчэ больш надаў ёй веры, што Вадзім невінаваты: збіраў сушняк для агню, забавіўся. А ў гэты час Спейс і Цім учынілі злачынства. І наогул, гэты магнітафон, па які бегаў Вадзім... Прыезджыя хлопцы... Выпадковасць! Калі б яна, Вераніка, была побач, вядома ж, гэтага не здарылася б...

У гэтую сваю версію Вераніка верыла, ва ўсякім разе, хацела верыць. І цяпер, падыходзячы да варот калоніі, яна толькі пра гэта думала. Пісьма ад Вадзіма яна не атрымала: відаць, яно недзе затрымалася на пошце ці ў дарозе. Яна ішла, паглядала на высокі шэры каменны плот, над якім у некалькі радоў быў нацягнуты калючы дрот. Страшна было падумаць, што недзе там, за гэтай сцяной з калючым дротам, Вадзім. Каля кантрольна-прахаднога пункта снавалі людзі, то заходзілі, то выходзілі адтуль. Вераніка, перад тым як націснуць на кнопку, на хвіліну затрымалася: забілася, затахкала сэрца. Падумала, як яна сустрэнецца з Вадзімам і пра што яны будуць гаварыць. З прахаднога пункта выйшла маладжавая жанчына з заплаканымі вачыма, ражком хусткі яна выцірала слязу. «Маці... Няшчасная жанчына...— прамільгнула думка ў га-

лаве Веранікі.— Недзе так і Вадзімава маці ўбіваецца, плача...»

Вераніка націснула на кнопку — дзверы аўтаматычна адчыніліся. Убачыла справа дзяжурнага ў форме. Звярнулася да яго, спытала, як можна пабачыць Вадзіма Цэхановіча. Той спачатку агледзеў Вераніку знізу ўверх. Потым строга прамовіў:

— Дакумент...— А праз некалькі секунд дадаў весялей: — Сёння ўжо другая такая козачка пытае гэтага Вадзіма.

Вераніка сумелася, ёй стала непамысна: хто ж тая першая «козачка»? А дзяжурны працягваў:

— Сястра стрыечная таксама? — падазрона глянуў на Вераніку.— Нешта вы не разам прыходзіце... Як і тая, без маці і бацькі? — разглядаючы метрыку Веранікі, нібыта дапытваў дзяжурны. Затым павярнуў галаву, паказаў рукой на перагаворны пакой.— Там твая сястра размаўляе з Вадзімам. Можаш далучыцца да яе...

Вераніка прайшла крыху і ўбачыла, як побач з іншымі наведвальнікамі па тэлефоне праз шкло размаўлялі Таня і Вадзім. Прыціснуўшы трубку да вуха адной рукой, другой Таня нешта жэстыкулявала, паказвала і смяялася. За шкляным бар'ерам у гэткую ж трубку штосьці гаварыў Вадзім, самотна ўсміхаўся. Гэтага Вераніка не чакала. Яна стаяла, нібы ашаломленая. Захопленыя размовай, Таня і Вадзім не бачылі яе. Што было рабіць? Не будзеш жа кідацца да Тані і вырываць з рук тэлефонную трубку на вачах у дзяжурнага, людзей. Дый гэтага Вераніка ніколі не зрабіла б, ні пры якіх абставінах.

Дык вось які ты, Вадзім, вось чаму такі быў абыякавы ў апошні час да яе, Веранікі. Ілгаў, што рыхтуецца да ўсесаюзных спаборніцтваў па барацьбе, не сустракаў яе ў вестыбюлі студыі тэлебачання, а сам гуляў з Таняй. Хутчэй пайсці, пабегчы адсюль,

пакуль ніхто з іх не заўважыў яе. А пасля, дома, разабрацца... Сустрэцца з Касмылёвай... Якая подласць, якая нікчэмнасць! Эх, Вадзім, Вадзім...

Вераніка крута павярнулася і хутка пакрочыла да выхада. Дзяжурны толькі здзіўлена правёў яе позіркам: не паспеў нават нічога прамовіць. Пасля, калі Таня развіталася з Вадзімам і выходзіла з кантрольнапрахадного пункта, ён сказаў:

— А твая сястра не дачакалася, пакуль ты нагаворышся. Не выцерпела і выбегла на вуліцу...

Таня нічога не зразумела, падумала, што гэта жарт, і, задаволеная, усміхнулася, прайшла міма.

Цягнік з Віцебска адыходзіў вечарам. Заставалася некалькі гадзін у запасе, і Таня вырашыла пазнаёміцца з горадам. Ездзіла на аўтобусах, тралейбусах, пакуль не надакучыла. А Вераніка ў дрэнным настроі сядзела на вакзале і чакала адыходу таго ж самага цягніка. Ёй было не да прагулянкі па горадзе.

Вечарам, перад пасадкай, на пероне Вераніка і Таня нечакана сустрэліся. Таня вельмі здзівілася. Першае, што яна кінула Вераніцы:

— Якім ветрам занесла сюды?

— А такім жа, як і цябе...— суха адказала Вераніка. Памаўчала, адвёўшы ўбок вочы.

Здаецца, Таня пачынала разумець жарт дзяжурнага ў калоніі. Яе прыўзняты настрой як рукой зняло. Значыць, тая «сястра» была яна, Вераніка. Можна не сумнявацца. Не вытрымала, прыперлася, прыехала і яна да Вадзіма.

— У якім вагоне едзеш? — спытала, як адрэзала, Таня.

— А якая табе розніца...— Вераніка не жадала размаўляць.

— Хацела пагутарыць з табой. Дарога немалая...

— Мы з табою пагаворым дома. А тут няма ў мяне жадання...

Вераніка накіравалася да свайго вагона. Там праваднiца правярала ўжо білеты, і пасажыры па адным падымаліся па жалезных сходках у вагон.

## 24

Антаніне Фёдараўне цяжка было расставацца з сёмым «Е», з якім яна зрадніласся з чацвёртага класа. Яе ўсё ж выбралі класным кіраўніком спецыялізаванага матэматычнага сёмага «С». Выбралі справядліва на пасяджэнні Савета школы.

Прыняўшы спецыялізаваны матэматычны,— ён, як і ўсе сёмыя класы, стаў з новага навучальнага года дзевятым «С» (у школах краіны класы пераводзіліся праз адну прыступку ў сувязі з рэформай),— Антаніна Фёдараўна вырашыла бліжэй пазнаёміцца з вучнямі. Частку іх, былых сваіх выхаванцаў, якія перайшлі разам з Веранікай Рагозінай год назад у сёмы «С», яна ведала, астатніх — не. А тут якраз быў на падыходзе яе дзень нараджэння. Лепшага выпадку і не трэба было шукаць. І калі падышла гэтая дата, Антаніна Фёдараўна запрасіла ўсіх вучняў класа да сябе на кватэру. Праўда, не ўсе прыйшлі. Некаторыя пасаромеліся — не было звычаю ў горадзе хадзіць вучням у госці да настаўнікаў. Але каля дваццаці чалавек сабралася.

Вераніка Рагозіна прыйшла з пышным букетам ружаў, які яна купіла ў падземным пераходзе ў кааператураў.

У пярэднім пакоі ціха іграла лёгкая музыка. На стале ляжалі цукеркі, пячэнне, рознае печыва, яблыкі, грушы, вінаград. Пасярэдзіне стала стаяла мноства кветак. Антаніна Фёдараўна, пасля таго як Вераніка павіншавала яе, узяла ружы, падзякавала і паставіла іх у цэнтры сярод усіх кветак. Яны былі тут самыя прыгожыя. Урачыста апранутых хлапчукаў і дзяўчынак, якія тоўпіліся каля дзвярэй, Антаніна Фёдараўна за-

прасіла за стол. А сама пабегла рыхтаваць каву. Дома яна была адна. Муж яшчэ быў на працы, а сын — на занятках ва універсітэце.

Дзевяцікласнікі, учарашнія сямікласнікі, пачувалі сябе няёмка. Іх, чатырнаццацігадовых, прымалі тут як дарослых. Значыць, трымацца і весці гаворку патрэбна было таксама па-даросламу.

Хутка з'явілася з джэзва, з якой ішла пара, Антаніна Фёдараўна, пачала разліваць па кубках каву, запрашаць да ласункаў. Вучні ўзялі хто што да кавы: цукеркі, пячэнне, крэндзелі...

Калі пасмялелі, то ў адным, то ў другім канцы стала пачуліся галасы. Антаніна Фёдараўна, каб зацікавіць усіх, загаварыла пра агляд школьных кабінетаў. Яго будзе праводзіць, як паведаміла дырэктар Ангеліна Мікалаеўна, камісія з РАНА ў час асенніх канікул. Дырэктар прыдавала гэтаму вялікае значэнне.

— Скажыце, толькі не крывіце душой,— пачала Антаніна Фёдараўна,— наш матэматычны клас дрэнна аформлены? Хіба мы мала папрацавалі за гэтыя два месяцы?

— У нас зараз выдатны кабінет. Не параўнаць з тым, які быў пры Алене Кузьмінічне,— прамовіў Аляксей Булат, п'ючы каву з пячэннем.

— Правільна сказаў Алёша...— загучалі галасы.

— Ды толькі за аднаго забытага матэматыка Мінкоўскага, якога любіў вядомы пісьменнік Андрэй Платонаў, вам трэба дзякаваць,— гэта гаварыў «філасаф» Андрэй Бабок, які сядзеў паміж дзяўчынак.— Партрэт, яго выказванні, формулы добра дапоўнілі ўсю нашу галерэю...

— Вось якраз гэты Мінкоўскі і не падабаецца кіраўніцтву школы. Адкуль я выцягнула яго на свет? А гэта быў матэматык уга які... У страшныя гады сталіншчыны ім захапляліся многія. Маўляў, нас не зразумее камісія. Усе гэтыя Мінкоўскія, кубы, квадраты Мале-

віча... Навошта я іх цягну ў кабінет? Хопіць і прызнаных класікаў — Архімеда, Піфагора, Лабачэўскага...— узбуджана гаварыла Антаніна Фёдараўна.

— А як зразумець, што выставачная зала, дзе павінны змяшчаць свае творы вучні, пераўтворана ў залу рэпрадукцый карцін сусветна вядомых замежных мастакоў? — загаварыў школьны мастак-афарміцель Ігар Зубовіч. Ён вучыўся ў спецыялізаваным матэматычным, але маляваў усе школьныя аб'явы і плакаты.— Побач з рэпрадукцыямі Гагена — некалькі нашых работ. А чаму не адпусціць для малюнкаў вучняў, няхай яшчэ і не вельмі дасканалых, усю залу? Дык не, трэба фарсануць перад дэлегацыямі. Маўляў, глядзіце: у каго вучацца нашы юныя мастакі і чаму ўжо навучыліся. І дзіўнымі здаюцца словы Сухамлінскага, якія выпісаны над уваходам у залу. Помніце? Задача школы, бацькоў — даць кожнаму дзіцяці шчасце, шчасце шматграннае. Яно і ў тым, каб чалавек развіў свае здольнасці, палюбіў працу і стаў у ёй творцам, і ў тым, каб атрымліваць асалоду ад акаляючага свету і ствараць прыгажосць для іншых...

Ігар Зубовіч разварушыў усіх, кожны ўспамінаў нешта сваё, з нечым не згаджаўся.

— Навошта сёлета стварылі ваенізіраваны спецыяльны клас? — загаварыў Сяргей Гарноська.— А ці не залішне звычайнай ваеннай падрыхтоўкі?— аць-два, аць-два,— бачыў, як падпалкоўнік ганяў на пляцы дзесяцікласнікаў, быццам алавяных салдацікаў...

— Мы надта захапіліся сур'ёзнымі пытаннямі, пра якія павінны думаць дарослыя,— перабіла Гарноську Антаніна Фёдараўна.— Давайце лепш паслухаем музыку. Згодны? Спачатку Стравінскага...

— Не, што-небудзь з рок-гуртоў...— ціха, нібы хаваючыся, прамовіў Пеця Карпук.

Антаніна Фёдараўна пачула гэтую Пецеву рэпліку і сказала, гледзячы ў яго бок:

— Будзе і рок-музыка... Каб быць асобай, чалавек павінен усё ведаць. Любіць ці не любіць — гэта іншая справа. Атрымліваць асалоду — таксама. Дарэчы, пра асалоду. Музыка — тая ж асалода. Адны атрымліваюць яе ад класічнай музыкі, і гэта сапраўдная асалода, а другія задавальняюцца ўяўнай. Як прыклад: дрэнная рок-музыка. Многія кажуць, нават псіхатэрапеўты, што гэта — своеасаблівы музычны наркотык. Адключэнне тармазоў. Культ асалоды або геданізм. Гэта цэлае філасофскае вучэнне, якое стварыў вучань Сакрата Гедон яшчэ ў 5—4 стагоддзі да нашай эры. У прыватнасці, наркаманы, як і гедонікі, прызнаюць аднаго і таго ж бога Арыстыпа.

— Дык і наш Вадзім прызнаваў гэтага бога? — засмяяўся Гарноська, намякаючы на гісторыю з Цэхановічам.

— Вадзім быў наркаман? — здзівілася Антаніна Фёдараўна. Яна чула гэта ўпершыню і не магла паверыць.

— Казалі... Хадзілі розныя чуткі, калі яго пасадзілі... што ён быццам быў звязаны з імі, наркаманамі,— удакладняў Сяргей.

— Казалі... Хадзілі чуткі...— паўтарыла словы Гарноські Антаніна Фёдараўна.— А дзе ж вы самі былі? Цэлы клас? Няўжо нічога не заўважалі, не бачылі?

— Што, мы, клас... Вераніка сябравала з Вадзімам і то...— не здаваўся Гарноська.

— Пра мяне не трэба, Сяргей,— засмучана сказала Вераніка.— А што ў класе асабліва не задумваліся, хто побач вучыцца, гэта праўда. Таму што такі быў класны кіраўнік. І мы хутчэй думалі не пра сябе, не пра кожнага асобна, а пра цэлы клас, пра яго далейшы лёс. Змагаліся за гэта. Вось некаторых і праглядзелі. І гэта не толькі наша віна...

— Зноў мы пра сур'ёзнае. А я ж вас запрасіла, каб адпачыць, павесяліцца. Не атрымліваецца...— Антані-

на Фёдараўна ўстала, падышла да прайгравальніка, паставіла пласцінку з музыкай Стравінскага.— Давайце будзем слухаць гэтую цудоўную музыку.

Усе змоўклі, прыслухаліся. Музыка Стравінскага зачаравала з першых хвілін.

Вучняў агарнуў роздум. Магчыма і не да канца яны разумелі сур'ёзную музыку, але слухалі яе, пакуль не спынілася кружэлка на прайгравальніку. Каб вывесці з задумення хлапчукоў і дзяўчынак, Антаніна Фёдараўна падышла да магнітафона, націснула на клавішы — і... палілася музыка гурта «Ласкавы май».

— «Ружовы вечар», ваша любімая песня. Танцуйце,— сказала Антаніна Фёдараўна.

Зашумелі, загаманілі хлапчукі і дзяўчынкі, пачалі вылазіць з-за стала. Самыя смелыя тут жа ў такт песні ўзмахвалі рукамі і нагамі. Нарэшце ўсе танцавалі, адна Вераніка засталася сядзець за сталом. Настрой у яе быў зусім не для танцаў. Гэта заўважыла Антаніна Фёдараўна і падсела да Веранікі.

— Што з табой, Вераніка? Чаму не танцуеш?

— Не хочацца...

— Чаму?

— Ёсць прычына...

— Цікава, якая, калі не сакрэт?

— Ой, Антаніна Фёдараўна,— цяжка ўздыхнула Вераніка.

— Ну, што?..— дапытвалася настаўніца. Яна не магла ўжо, каб не даведацца, што трывожыць Вераніку. Такі характар быў у Антаніны Фёдараўны. Не дапамагчы ў цяжкую хвіліну чалавеку, а тым больш сваёй вучаніцы,— хіба магла яна?

— Зноў жа хочацца даверыцца вам, адкрыць душу, як нікому. Не ведаю, ці зразумееце вы мяне...

— Хутчэй кажы, што? — нахілілася да Веранікі Антаніна Фёдараўна.— Не, пойдзем у спальню. Пакуль аднакласнікі весяляцца, пагутарым.

Гучала музыка, танцавалі хлапчукі і дзяўчынкі, а класная і яе выхаванка вялі сур'ёзную размову.

— ...Вадзім, Вадзім... Усё той жа Вадзім,— закрыла твар рукамі і заплакала Вераніка.

— Ціха, Вераніка, ціха...— супакойвала Антаніна Фёдараўна.

— Помніце,— скрозь слёзы гаварыла Вераніка,— я расказала вам з-за чаго, а дакладней, з-за каго, я, па сутнасці, перайшла ў сёмы «С»?

— Помню, помню... Таму так доўга і сур'ёзна я размаўляла тады з табой. Разумею, як цяжка табе зараз... Дарэчы, ты верыш Вадзіму? І як паставілася да таго, што ён трапіў у калонію?

— Антаніна Фёдараўна, што ён трапіў у калонію, мяне не вельмі спалохала. А вось тое, што ён аказаўся здраднікам, подлым чалавекам, я ніколі не чакала.

— Не разумею... Растлумач...— класная пільна глядзела Веранiцы ў вочы. Яе сэрца пачынала сціскацца ад прадчування, што зараз нешта здарыцца страшнае. І таму падрыхтавалася пачуць гэта.

— Я была ў калоніі ў Вадзіма...

— Ты была ў калоніі?

— У адзін і той жа дзень... з кім вы думалі?

— З кім? — насцярожылася Антаніна Фёдараўна.

— З Таняй Касмылёвай...— ашаламіла класную Вераніка.— Бачыла, як яна ў пакоі кантрольна-праходнога пункта размаўляла, усміхаючыся, з Вадзімам па тэлефоне. Ён таксама ёй усміхаўся праз шкляную перагародку. Я не вытрымала, павярнулася і пайшла... Не пагаварыўшы з Вадзімам. На пероне вакзала, калі збіралася ехаць назад, сустрэлася з Касмылёвай. Я не захацела з ёю размаўляць, хоць яна і ліпла. Вось і ўсё...— Вераніка апусціла галаву.

Антаніна Фёдараўна сядзела, уражаная пачутым, і адразу не магла вырашыць, як і чым дапамагчы

Вераніцы. Потым прамовіла, трымаючы Веранічыны рукі ў сваіх далонях:

— Абяцаю, Вераніка, што ў бліжэйшы час я пагутару з Касмылёвай. Далікатная тэма, але...— памаўчала,— думаю, я знайду з ёю агульную мову. Толькі ты не псуй сабе настрой, не засмучайся, і не спяшайся, не рабі глупства...

Здаецца, Вераніка ўсё зразумела. Выходзячы са спальні з Антанінай Фёдараўнай, яна нават не паказала выгляду, што плакала, пайшла танцаваць з аднакласнікамі.

Яшчэ крыху павесяліліся хлапчукі і дзяўчынкі, потым пачалі збірацца дамоў, дзякавалі Антаніне Фёдараўне за цудоўна праведзены вечар.

Антаніна Фёдараўна правяла сваіх выхаванцаў на вуліцу, па дарозе шапнула Вераніцы: «Спакойна жыві, не муч сябе... Усё будзе добра...»

* * *

## З РАЗМОВЫ, ЯКУЮ ВЕЎ СЛЕДЧЫ З АДНАКЛАСНІКАМІ ВЕРАНІКІ І ТАНІ

— Усе вы ведаеце, што здарылася з Веранікай Рагозінай. Ці маглі вы ўявіць падобную трагедыю ў вашых класах?

Галасы: «Вядома, не!», «Страшна падумаць!», «А цяпер такое ў школах не навіна...».

— Ці ведалі вы пра ўзаемаадносіны Веранікі Рагозінай і Тані Касмылёвай?

Галасы: «Не-е...», «Адкуль нам было ведаць: яны ў розных класах вучыліся...», «Мы больш ведалі пра сяброўства Веранікі і Вадзіма Цэхановіча...», «У сёмым нешта было паміж Веранікай і Таняй...», «Позна мы зразумелі...».

## 25

Пасля паездкі ў папраўча-працоўную калонію Вераніка старалася пазбягаць сустрэчы з Таняй Касмылёвай, хоць і карцела сказаць ёй шмат. Таня, наадварот, імкнулася пагутарыць з Рагозінай. У яе быў свой хітры план: увайсці ў давер да Веранікі.

Аднойчы на калідоры трэцяга паверха школы Таня паклікала ўбок Вераніку і прапанавала:

— Давай высветлім адносіны... Колькі можна маўчаць? Ты думаеш, я табе жадаю зла? Памыляешся. Чаго я ездзіла ў калонію да Вадзіма? Ды была адна тэрміновая да яго справа. Хочаш, раскажу. Толькі доўга пра яе апавядаць. Давай спаткаемся, тады пра ўсё і даведаешся...

Вераніка задумалася: а што, калі і праўду кажа Касмылёва? Чаму б і не пайсці? Дый цікава, што там за тэрміновая справа была ў яе да Вадзіма? Праўда, абяцала спачатку пагутарыць з Таняй Антаніна Фёдараўна, але, відаць, за гэтыя некалькі дзён не паспела выбраць час для сур'ёзнай размовы — ці мала спраў у настаўніцы і жанчыны?

— Калі і дзе? — спытала Вераніка з надзеяй.

— А хоць сёння вечарам. Кінатэатр «Авангард» ведаеш? Гэта ў раёне былога сельгаспасёлка. Вось там і спаткаемся...

— А чаму там?

— Іду на нашумелы фільм «Лялечка». Ён зараз толькі там ідзе. Можам нават разам схадзіць, калі хочаш?

— А якой гадзіне сустрэнемся?

— Як табе лепш...— падлізвалася Касмылёва і маніла як магла.— Фільм пачынаецца ў восем. А спаткацца можам на гадзіну-паўтары раней.

— Значыць, а палове сёмай?

— Чакаю...

Вераніка сядзела на апошніх уроках і толькі думала пра сустрэчу. Тайну сваю вырашыла нікому не выдаваць: ні аднакласніцам, ні Антаніне Фёдараўне, ні маці. Разбярэцца сама, навошта заклапочваць іншых сваімі дзіўнымі праблемамі?

Пасля школы Вераніка прыйшла дамоў, паабедала. І адразу ўзялася за ўрокі. Часу было вобмель, таму вырашыла не адпачываць. Зрабіўшы ўрокі, паклала кніжкі, сшыткі ў сумку, зашчапіла яе. Вераніка праз усе класы трымалася правіла: звечара ўпарадкаваць сумку, каб назаўтра раніцай не мітусіцца перад адыходам у школу. Прыбрала свой рабочы стол, глянула на гадзіннік: роўна шэсць. Пара! А то можна спазніцца. А спазняцца яна не прывыкла. Мама павінна прыйсці ў сем. Не застане яе. Можа хвалявацца. Мо напісаць запіску? Так і зрабіла: «Мама, я хутка буду... Твая Вераніка. 18.00». Паклала шматок паперы каля тэлефона. Абула туфлі, апранула асеннюю куртку, выйшла з кватэры і пабегла па сходках з пад'езда на вуліцу.

Як ехаць да кінатэатра «Авангард», яна ведала. Сесці на аўтобус нумар пяць, ён давязе да вуліцы Бакуніна, а там крышку прайсці.

Доўга чакаць аўтобуса не давялося. Ён падышоў услед за тралейбусам, які хадзіў па праспекце. Вераніка ўскочыла, прабіла талон, села на пустое месца і, калі аўтобус крануўся, пачала разглядаць у акно дамы. Азірнулася, убачыла, як прамільгнуў пяціпавярховы блочны дом, у якім была іх двухпакаёвая кватэра. Нешта торгнула ў сэрцы... Такога, здаецца, не было раней. Родны дом, у якім яна жыла амаль пятнаццаць гадоў, дзе ўсё было знаёма да драбніц...

Прайшло з паўгадзіны, калі вадзіцель аб'явіў: «Вуліца Бакуніна». Вераніка выйшла і накіравалася ў бок «Авангарда». Пад нагамі чвякала раскапаная мокрая зямля — ішлі рамонтныя работы, ляжалі трубы. Каля кінатэатра і за ім стаялі паўразбураныя, нібы

халупы, прыватныя дамы: іх паціху зносілі.

Вераніка згледзела, як ля кінатэатра туды-сюды шпацыравала Касмылёва. Калі падышла блізка, убачыла: Танін твар быў размаляваны, як у лялькі — цені пад вачыма, нафарбаваны тушшу вейкі, у ружовай памадзе губы, на шчоках румяны.

Таня, убачыўшы Вераніку, адразу зашчабятала, быццам і не было ў яе непрыязнасці да саперніцы. Паказала на рэкламу фільма «Лялечка», якая вісела на сцяне кінатэатра, пачала яго хваліць. Маўляў, пра яго расказваў яе сябар. Там ёсць пікантны эпізод: калі маладая настаўніца і дзевяцікласнік любяцца... І нагогул, фільм ледзь не пра яе і Вераніку — пра дзевяцікласнікаў. Таму няма чаго і думаць... Але спачатку трэба зайсці да сябра, з якім даўно знаёма Таня.

— Ён тут зусім блізка жыве. Чакае нас... «Чаго,— кажа,— тырчаць на холадзе. Калі можна да сеанса пасядзець у мяне, пагутарыць, паслухаць музыку»,— шчабятала Таня.

— Няёмка,— сказала Вераніка.— Незнаёмы хлопец... Што падумаюць бацькі?

— Ён адзін. Бацькі на працы. Праз некалькі двароў — і мы ў яго...— працягвала маніць Таня.

Што было рабіць Веранiцы? Не пайсці, павярнуцца назад? Можна і так. Але чаго яна сюды ішла? Магчыма, тут на ўсе яе пытанні хаваюцца адказы. І хацелася ведаць іх чым хутчэй.

— Ну, што ж, пайшлі...— ціха сказала Вераніка.

Па дарозе траплялася нейкае ламачча, канавы, пакінутыя з выбітымі рамамі дамы. Нарэшце Касмылёва падвяла Вераніку да дома, дзе жыў Дзік.

— Вось і ўсё... Нейкіх хвілін дванаццаць хады. Во яго дом,— паказала на ладны асабняк Таня.

Анастас Лапуноў, як і было дамоўлена з Таняй, навёў парадак у хаце, падрыхтаваў «відзік», паставіўшы для пачатку самую прыстойную касету, якая ў яго

была, і чакаў дзяўчат. Касмылёва, да гэтага пабываўшы ў Дзіка, выклала яму ўвесь свой каварны план. І Дзік ведаў, як дзейнічаць. Яго не трэба было вучыць.

Увайшлі ў хату, дзверы якой былі прыадчынены. Лапуноў чакаў і адразу з парога пачаў знаёміцца з Веранікай.

— Анастас...— падаў руку Дзік.

— Вераніка...— нясмела працягнула сваю вузкую далонь.

Лапуноў запрасіў дзяўчынак у пярэднюю, падбег да відэамагнітафона, уключыў яго. Сам падаўся назад, напэўна, на кухню.

Вераніка села на падрапанае крэсла, на гэткае ж самае прысела і Таня. Пачаўся відэафільм «Першае каханне». Хлопцы і дзяўчаты Веранічынага і Танінага ўзросту па чарзе цалаваліся пад чаромхай. Веранікі стала непамысна. Яна пачала ёрзаць на крэсле. У гэты час з'явіўся Дзік з падносам, на якім у графіне плёскалася ці то віно, ці то каньяк. Побач некалькі цукерак. Звычайныя карамелькі.

— Прашу, лэдзі, прычасціцца...— нараспеў пачаў Лапуноў. Наліў у чарку, першай падаў Веранікі.

— Я не п'ю...— ціха сказала Вераніка.

— Не чакаў такой падзякі...— прабасіў Дзік.— Вучыся ў сяброўкі.— Ён падаў Тані поўную чарку. Тая глынула і пачала разгортваць цукерку. Потым выпіў Лапуноў. Двое павесялелі. Трэцяй, Веранікі, было няўтульна і непрыемна ў гэтай хаце з першых хвілін. А тут яшчэ выпіўка...

— Ну, што ж, калі не п'ём, то мо закурым? — Дзік паважна працягнуў цыгарэту Веранікі.

— І гэтага не ўжываю...— рашуча адхіліла цыгарэту Вераніка.— І наогул, мы прыйшлі з Таняй пагутарыць, прабавіць час да сеанса. Пойдзем у кіно? — глянула ў вочы Анастасу Вераніка, пачынаючы непакоіцца.

— Пойдзем, пойдзем... Толькі не́ трэба адмаўляцца ад радасцяў жыцця. Што ты жывеш, як манашка ў келлі? — пасля чаркі і цыгарэты з анашой Дзік мяняўся на вачах.

— Ну, чаму так? — запярэчыла Вераніка.— Я шмат чым цікаўлюся. Хай скажа Таня...— глянула на Касмылёву.— Скажы што-небудзь. Ты ж абяцала...

Таня, зацягнуўшыся цыгарэтай, таксама, як і Дзік, пачынала чмурэць.

— Мая ты пташачка, што ты хочаш, каб я табе апавяла? — вочы ў Тані шклянелі.— Ах, пра тое... Пра Вадзіма. Што мы скажам пра Вадзіма? — зірнула на Лапунова.— Выдатны хлопец, ці не праўда?

— Тады, калі быў у мяне, здаецца, неблагі,— прагудзеў Дзік.

— Дык Вадзім быў тут з табой?! — здзівілася Вераніка.

— І не толькі са мной...— глядзела Вераніцы ў вочы Таня.— Са мной ён быў у іншых месцах... Табе і не снілася...

Вераніка імгненна ўскочыла з крэсла, хацела павярнуцца, каб пайсці з гэтага загадкавага дома. Але Таня з дапамогай Лапунова зноў пасадзіла яе. Вераніка пачынала здагадвацца, куды яна трапіла...

— Слухай далей, прэтэндэнтка-канкурэнтка...— Таня вырашыла сказаць усё пра Цэхановіча і сябе.— Дык вось, Вадзім маім стаў яшчэ пасля шостага класа. Адбылося гэта ў піянерскім лагеры. Потым ён са мной быў у нашай тусоўцы «Рэтс», інакш «Пацукі». І кампасіраваў ён табе мазгі, што хадзіў у секцыю барацьбы, рыхтаваўся да ўсесаюзных спаборніцтваў. Лапша — вось хто ты... Сухар у касынцы... Ён з намі паспрабаваў усё, не тое, што ты,— ад ста грам, ацэтончыку да цыгарэткі з анашой. Шкада, не паспеў паспытаць укольчыка...

Гэткай нахабнасці Вераніка зусім не чакала. У яе за-

кружылася галава, кроў ударыла ў скроні, сэрца забілася, як злоўленая птушка, вочы напоўніліся гаручымі слязьмі. Яна зноў паспрабавала падняцца, але Таня рэзка загадала:

— Сядзець! — учапілася ў Вераніку.— Анастас, ты дзверы замкнуў? — звярнулася да Дзіка.

Той мяняў касету. Паставіў парнаграфічны фільм «Калігула», першыя кадры якога з'явіліся на экране.

— Усё о'кэй, прынцэса!

— Чула? Прынцэса! — вар'яцела Касмылёва.— Так называюць мяне ў нашай тусоўцы «Рэтс». Ведай, хто перад табой. Кланяйся! Як кланяліся перада мной многія...— яна прыціснула Вераніку да крэсла.— Клянiся, што ад Вадзіма адракаешся і пра нашу размову — нідзе ні слова...

Вераніка крутнулася, вырвалася ад Касмылёвай, устала і гучна прамовіла:

— Мана́ ўсё гэта! Не мог Вадзім з такой валачашчай вадзіцца... Ды хто ты? Прынцэса?! Нікчэмны ты чалавек!

Гэтыя словы раз'юшылі Таню ўшчэнт.

— У школе вашай зачуханай — можа... А тут я — прынцэса! Запомні, наіўная фантазёрка! — крыкнула Касмылёва і пляснула з размаху Веранiцы па твары. Гэтую абразу трываць было немагчыма...

Вераніка схапіла Касмылёву за валасы. Але тут жа падышоў Дзік і адцягнуў Вераніку. У гэтую хвіліну Таня кудысьці знікла і хутка прынесла вяроўку і кавалак ваты. Дзік закруціў Вераніцы рукі назад, моцна трымаў яе. Потым паваліў. Таня накінула на рукі вяроўку, пачала звязваць. Вераніка спрабавала крычаць, але Дзік далонню закрыў ёй рот. Калі рукі былі звязаны, Дзік сціснуў Вераніку за сківіцы, а Таня засунула ёй у рот кляп з ваты. Дзік і Касмылёва, быццам драпежныя звяры, пачалі рваць адзенне на Вераніцы. Спачатку верхняе, потым астатняе. Пасля Дзік згроб

амаль голую Вераніку і панёс у спальню на свой брудны ложак...

У гэты момант Касмылёва дастала з буфета напоўнены наркотыкам шпрыц, прыбегла ў спальню. Убачыла: Дзік моцна трымаў Вераніку, прыціснуўшы да ложка. Таня, не марудзячы, увяла іголку Вераніцы ў цела...

Потым яна кінула шпрыц на стол у пярэдняй, падышла да відэамагнітафона — хацела выключыць яго,— як раптам убачыла: з-пад прыстаўкі тырчэў сшытак у чорнай вокладцы — яе дзённік. Яна схавала яго тут, калі ўцякла ад маці, і ледзьве не забылася. Не да дзённіка было ёй у апошні час... Таня схапіла сшытак. Ён быў з пагрызенымі, пашкамутанымі краямі і пераплётам. Гэта здзівіла Таню. «Не інакш, як паласаваліся пацукі...» Яна іх бачыла, калі жыла ў Дзіка. Ноччу ў пярэдняй, дзе валяліся розныя абрыўкі папер, газет, на якіх Анастас пакідаў аб'едкі, пацукі ўздымалі такі вэрхал, што нельга было заснуць. Аднойчы яна ўключыла ў пярэдняй святло і ледзь не самлела: тры пачвары з кацяня, з доўгімі хвастамі на імгненне застылі і глядзелі на яе, потым рынуліся да расчыненых дзвярэй прыхожай...

Таня пстрыкнула выключальнікам відэамагнітафона, засунула сшытак ва ўнутраную кішэню курткі, выйшла на двор і пабегла, пабегла... Цёмнач ахінала хаты, якія зеўралі выбітымі вокнамі. Друз, рознае ламачча, палын, які парос на былых агародах, перашкаджалі бегчы. Таня ўпала, зачапіўшыся за нешта, паднялася і паімчалася яшчэ хутчэй. Страх ці радасць за здзейснены план гналі Таню ад гэтых хат — вядома было толькі ёй. Наперадзе свяціла ліхтарамі вуліца, па якой хадзілі аўтобусы, а там — і прыпынак.

...Пад раніцу Дзік амаль нежывую кінуў Вераніку ў пограб, які знаходзіўся пад падлогай у прыхожай, а сам знік. Ён падаўся ў Прыбалтыку, захапіўшы з сабой накрадзеныя рэчы, якія спадзяваўся памяняць там на

чарговую порцыю наркотыка. На мясцовым гарадскім рынку заезджых гандляроў, казалі, разагналі рэкеціры, і Дзік туды больш не хадзіў.

А тым часам ішоў росшук Веранікі. У першы ж дзень оперупаўнаважаныя па падказцы Антаніны Фёдараўны завіталі да Касмылёвых. Таня калі пачула ў прыхожай, як яны прадставіліся: «Мы са следчых органаў...», адразу зразумела: па яе душу... Яна толькі што скончыла перачытваць дзённік, дапісаўшы ў канцы: «Усё! Справа зроблена адмыслова! Радуйся!»

Першае, што прыйшло ёй у галаву,— ведала: вобыску не абмінуць,— выкінуць гэты пагрызены сшытак у чорнай вокладцы ў фортачку, якая выходзіла на вуліцу. Нехта падбярэ, панясе з сабой — і, глядзіш, час выйграны, а магчыма, і зусім можна замесці сляды.

Таня імгненна падбегла да фортачкі, якая была расчынена, і шпурнула ў яе пашкамутаны сшытак — дзённік. Паспела, пакуль следчыя ўвайшлі ў яе пакой...

Праз некалькі хвілін сшытак падняла студэнткапершакурсніца універсітэта, якая выпадкова праходзіла па вуліцы каля дома, дзе жылі Касмылёвы. Дзённік зацікавіў першакурсніцу, яна на лекцыях паціху чытала яго. На пяты дзень студэнтка занесла сшытак Касмылёвай у аддзел міліцыі, расказала, дзе знайшла яго,— па горадзе ўжо хадзілі чуткі аб зніклай дзевяцікласніцы. Думала, магчыма, гэты дзённік у нечым дапаможа следству...

На шостыя суткі — Вераніку ніяк не маглі знайсці — оперупаўнаважаныя зламалі дзверы ў доме Анастаса Лапунова, якога так і не дачакаліся. У горадзе пачалі сачыць за ўсімі падазронымі мясцінамі, у якіх магло адбыцца злачынства. Спачатку думалі, што Лапуноў з'явіцца сам. Нехта з суседзяў бачыў, як ён з напакаванай спартыўнай сумкай ішоў на аўтобусны прыпынак. «Магчыма, дзе ў кароткачасовым ад'ездзе...» — думалі следчыя. Хоць Анастас у кааператыве нікога

не папярэдзіў. Але, як сказалі там, да гэтага ўжо прывыклі. Вядома ж, манілі: бо Анастас апошнім часам зусім не з'яўляўся ў кааператыве, лічыўся на працы фіктыўна.

Калі следчыя пачалі пільна аглядаць дом Лапунова, натрапілі на пограб пад падлогай. Спусціліся ў яго з ліхтарыкам і выцягнулі адтуль Вераніку. Яе цяжка было пазнаць...

Заключэнне экспертызы было страшным і неверагодным: смерць наступіла ад нападу пацукоў. Яны загрызлі Вераніку яшчэ жывую...

# ПАСТСКРЫПТУМ

Антаніна Фёдараўна сядзела ў Веранічыным пакоі і разглядала разам з Верай Іванаўнай фотаальбом. Здымкі, здымкі, здымкі... Каляровыя і чорна-белыя. Вераніка ў дзіцячым садку, у першым, другім, трэцім... I так аж да дзевятага класа. Яна штогод фатаграфавалася. То з вялікім бантам у акуратнай прычосцы, то з пяцікутнай зоркай акцябронка на школьным хвартушку і букетам пунсовых ружаў у руках, то з чырвоным гальштукам на грудзях.

А вось Вераніка разам з класам у Брэсцкай крэпасці, Ленінградзе, у лыжным паходзе, на рацэ Наймён. Здымкі аматарскія. Рабілі іх аднакласнікі. У многіх вучняў былі фотаапараты. На некалькіх картачках Антаніна Фёдараўна і Вераніка стаяць побач.

Слёзы не маглі стрымаць ні Вера Іванаўна, ні Антаніна Фёдараўна. Міpановіч, калі ішла ў кватэру да Рагозінай, не думала, што будзе разглядаць альбом. Наадварот, спадзявалася спачувальным словам аблегчыць гора няшчаснай маці. Але Вера Іванаўна прапанавала паглядзець разам Веранічын фотаальбом, бо адна, казала, не здолее...

Антаніна Фёдараўна, гартаючы фотаальбом, дайшла да апошняй старонкі: на здымку ў святочнай школьнай форме стаяла Вераніка з вялікім букетам кветак. Унізе быў подпіс: «1 верасня. 9 «С».

Гэты фотаздымак настаўніца папрасіла ў Веры Іванаўны. Тая дазволіла, сказаўшы, што падобныя картачкі яшчэ ёсць.

Антаніна Фёдараўна ўзяла здымак і асцярожна паклала яго ў сумачку...

...У гэты час з трывожным настроем ішла ў напрамку светла-шэрага чатырохпавярховага будынка, у якім размяшчаўся гарадскі аддзел народнай адукацыі, дырэктар школы Ангеліна Мікалаеўна Богут. Ангеліну Мікалаеўну выклікалі ў ГАРАНА, даўшы зразумець, што будзе разглядацца пытанне школы.

Ангеліна Мікалаеўна, здавалася, не бачыла пешаходаў, якія крочылі насустрач, не чула, як гулі і шоргалі шынамі па асфальце машыны. Яна думала толькі аб адным: што чакае яе наперадзе? Думкі блыталіся, снавалі, нібы восы...

Литературно-художественное издание

**ХВАЛЕЙ Евгений Иванович**

**КРЫСЫ, ИЛИ ТАИНСТВЕННЫЙ ДНЕВНИК**

Повесть

*Для старшего школьного возраста*

Минск, издательство «Юнацтва»

На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

**ХВАЛЕЙ Яўген Іванавіч**

**ПАЦУКІ, АБО ТАЯМНІЧЫ ДЗЕННІК**

Аповесць

*Для старэйшага школьнага ўзросту*

Рэдактар *У. А. Марук*

Мастак *Ю. Э. Каляздэнка*

Мастацкі рэдактар *В. А. Макаранка*

Тэхнічны рэдактар *А. В. Русецкая*

Карэктар *Л. К. Паплаўская*

ІВ № 1600

Здадзена ў набор 25.12.90. Падпісана да друку 08.05.91. Фармат 70×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура Школьная. Ум. друк. арк. 7,70. Ум. фарб.-адб. 7,70. Ул.-выд. арк. 7,71. Тыраж 12 000 экз. Зак. 900. Цана 1 р. 50 к.

Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Хвалей Я.**

Х 30 Пацукі, або Таямнічы дзённік: Аповесць: Для ст. шк. узросту /Маст. Ю. Э. Калядэнка.— Мн.: Юнацтва, 1991.— 174 с.: іл.

ISBN 5-7880-0581-7.

Хвалей Е. Крысы, или Таинственный дневник: Повесть.

Аўтар аповесці звярнуў увагу на тое, што ў апошнія гады ў нашых школах пачасціліся негатыўныя з'явы. Яны выходзяць за межы адзінкавых выпадкаў. Сюжэт аповесці незвычайны: у школе, дзе вучацца дзевяцікласніцы Таня Касмылёва і Вераніка Рагозіна, здарыўся няшчасны выпадак... Паступова завастраючы сюжэт, аўтар закранае многія праблемы сучаснай школы.

Х $\dfrac{4803120201-075}{М\ 307(03)-91}$ 57—91 ББК 84 Бел 7